УДК 881.161.3-1
ББК 84(4Беи)
Г54

"Бібліятэка "Беларускі калегіюм". Серыя заснавана ў 2012 г.

*"Бібліятэка "Беларускі калегіюм" рэпрэзентуе тэксты вядомых беларускіх інтэлектуалаў. Гэта эсэі, аналітыка, даследаванні і дыялогі пра Беларусь, грамадства, культуру і час*

**Глобус, А.**
Г54 Імёны: Літаратурныя партрэты / Адам Глобус (Адамчык У.В.) — Мінск: І. П. Логвінаў, 2013. — 122 с. — (Бібліятэка "Беларускі калегіюм").
ISBN 978-985-6991-063-2.

Сабраныя ў кнізе ўспаміны пра некаторых мастакоў, настаўнікаў і пісьменнікаў нашага часу заснаваны на тым, чаму Адам Глобус сам быў сведкам. Кніга «Імёны» з'яўляецца ў нейкім сэнсе антыподам папярэдняй кнізе Глобуса «сУчаснікі», бо замест гратэскных герояў у фацецыях тут старана выпісаны ўрачыстая партрэты вядомых людзей: пісьменніка Караткевіча, паэта Сыса, настаўніка Карпейчыка, мастачкі Русавай, жывапісца Малішэўскага, выкладчыка Хадыкі і мастака Хацкевіча.

**УДК 881.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-6991-063-2**

# ЗМЕСТ


УЛАДЗІМІР
*Словы пра пісьменніка Уладзіміра Караткевіча* .................................. 5

АНАТОЛЬ
*Словы пра паэта Анатоля Сыса* ....................................................... 24

САШ
*Словы пра таварыша майго,*
*школьнага настаўніка біялогіі — Аляксандра Карпейчыка* ............. 44

ЛЮД
*Словы пра мастачку Люду Русаву* ..................................................... 61

АЛЬГЕРД
*Словы пра мастака і настаўніка Альгерда Малішэўскага*............... 75

АЛЕГ
*Словы пра выкладчыка Алега Хадыку* ............................................... 89

ГЕН
*Словы пра мастака Гену Хацкевіча-Мінскага*.................................... 99

Кароткая аўтабіяграфія, напісаная для кнігі
літаратурных партрэтаў “Імёны” ....................................................... 118

# УЛАДЗІМІР

## Словы пра пісьменніка Уладзіміра Караткевіча

### 1963. Каменьчыкі

Ад маёй першай сустрэчы з Караткевічам застаўся ўспамін пра каменьчыкі з Кактэбеля. Сумна-шэрыя, гладкія, з белымі ніткамі пражылак, марскія каменьчыкі паказваў дзядзька Валодзя. Ён чакаў захаплення, майго здзіўлення. Іх не было. Для мяне ягоныя каменьчыкі з Кактэбеля нічога не сказалі. Яны ні пра што не нагадвалі. Караткевіч пытаўся, ці хачу я ўбачыць мора. Вядома, мне цікава пабачыць і мора, і гарадок Кактэбель, і гару Аюдаг. Толькі каменьчыкі мне не трэба. “Сур’ёзны хлопец!” — дзядзька Валодзя гучна смяяўся. Каменьчыкі засталіся ляжаць на кніжнай паліцы, а я разам з мамаю выйшаў з ягонай маленечкай аднапакаёўкі.

### 1965. Дом №7

Наш пяціпавярховы дом №7 на вуліцы Чарнышэўскага, дзе на пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя жыў і Караткевіч, я памятаю выдатна. Толькі вось да суседа Уладзіміра я тады мала прыглядаўся, хоць і жылі мы на адной лесвічнай пляцоўцы. Ён у кватэры пад нумарам 56, а наша сям’я пад нумарам 58.

А прыглядаўся я мала таму, што ў нашым доме жыло вельмі шмат яркіх і запамінальных асоб, значна ярчэйшых за сціплага і выхаванага маладога літаратара — Валодзю Караткевіча, так яго ўсе называлі ў нашым пад'ездзе і доме. Цяпер з усіх жыльцоў дома са шчаслівым нумарам 7 самы папулярны — Караткевіч, а тады былі іншыя папулярныя асобы. Сям'я танцораў Бабачкіных была настолькі папулярная, што нават за мяжу ездзіла выступаць, а па горадзе тая сям'я лётала на матацыкле "Ява". Уяўляеш, як уражваў матацыкл? А яшчэ мяне ўражвалі ногі Мальцінскай. Яна так шырока расстаўляла ногі, калі грала на сваёй скрыпцы, што, здавалася, у яе трэсне спадніца. Ногі Мальцінскай я запомніў на ўсё жыццё, такіх малочна-блакітных ног, што самаўпэўнена стаялі на чыста вымытых дошках нефарбаванай падлогі, я больш у сваім жыцці не бачыў. Клянуся патэнцыяй. Твар Мальцінскай я не памятаю, ён неяк размыўся, а твар яе таты помніцца добра. Твар мудрага знаўцы яўрэйскай мовы і цяпер выразна паглядае на мяне праз свае акуляры і адлегласць у сорак гадоў. Хаім Мальцінскі перакладаў з беларускай на ідыш. Перакладаў апавяданні майго таты, пэўна, і апавяданні Караткевіча ён тады перакладаў для часопіса "Савецiш гэймланд". Некалькі тых часопісаў захоўваюцца ў мяне і цяпер, на добры ўспамін пра сям'ю Мальцінскіх. Як захоўваюцца і фотакарткі Міхася і Галіны Стральцовых, што таксама жылі ў нашым доме на першым паверсе. Галя Стральцова лічыла сябе самай прыгожай жанчынай у двары. Я з ёю не спрачаўся, але, зразумела, што самая прыгожая была мая мама. А самым непрыгожым чалавекам у нашым доме быў мужчына з сінім тварам. Недзе на фронце яму твар пабіла порахам. Уся скура была нібыта прыцярушана шэра-сінімі кропкамі-рабацінкамі. Сінятварага мы, дзеці, пабойваліся. Ды што там пабойваліся, мы яго баяліся моцна. Такога жывога нябожчыка сустрэнеш вечарам у пад'ездзе — сам забаішся. Караткевіча мы не баяліся, нават калі ён быў на падпітку, бо Караткевіч сам пабойваўся дзяцей, а таму дарыў нам розную драбязу і частаваў цукеркамі "Тузік". А сусед Алешка нас ні чым не частаваў, але мы яго ўсе вельмі паважалі, бо ў яго была форма марскога афіцэра і меўся корцік. Патрымаць у руцэ сапраўдны корцік — мара кожнага хлопчыка. Хіба не? У Язэпа Пушчы корціка не было, але мужнас-

ці ў яго мелася на трох мужчын. Ён прайшоў канцэнтрацыйныя лагеры і вярнуўся, гэта важна — вярнуцца. Хай мне даруюць усе, хто быў расстраляны і хто загінаў за калючым дротам савецкіх канцэнтрацыйных лагераў, але трэба было вярнуцца і прынесці нашу беларускую ідэю дамоў. Пушча вярнуўся. Жалезны чалавек. Ніхто ніколі не спытаўся ў мяне пра Язэпа Пушчу. Зрэшты, ніхто ў мяне і пра Кашапарава не пытаўся. А Кашапараў, безумоўна, самы праслаўлены чалавек з нашага дома на вуліцы Чарнышэўскага. Кашапараў спяваў у легендарным складзе "Песняроў". Мільёны слухачоў падпявалі Кашапараву, асабліва народнай любоўю карысталася песенька пра Волагду, пра дом, пра лісты да каханай. Пра Кашапарава ніхто ў мяне не пытаў, мо таму, што я мала магу пра яго расказаць. Хадзіў па нашым двары хлопчык у спартовых штанах з выцягнутымі каленямі. Насіў той хлопчык папку з нотамі. Мама ў таго хлопчыка працавала машыністкаю. Падпрацоўвала тым, што вечарамі і ў выходны (тады быў адзін выходны — нядзеля) перадрукоўвала з рукапісаў апавяданні маладых літаратараў. Друкавала яна і татавы навелы, мусіць, і апавяданні Валодзі Караткевіча друкавала. Дом у нас лічыўся пісменніцкім, бо пісьменнікаў у ім жыло сапраўды шмат. Дзеружынскі, Пташнікаў, Папоў, Махнач... Алесь Махнач бараніў Брэскую крэпасць, яго там і параніла ў нагу. Махнач хадзіў з кавенькаю. Ён і ў школу да нас прыходзіў з кавенькаю і распавядаў пра нямецкія агнямёты, ад якіх нават цэгла плавілася і аплывала. Караткевіч пра агнямёты не распавядаў, але мяне ўсе распытваюць менавіта пра дзядзьку Валодзю. Таму я і распавядаю пра людзей, якія жылі побач з Караткевічам. Важна ведаць пра асяродак, ведаць пра кантэкст, у якім жыў і працаваў літаратар. Я так лічу, бо для мяне важна, што я жыў на адной лесвічнай пляцоўцы з Караткевічам. А вось сам будынак дому №7 ніякай каштоўнасці з сябе не ўяўляе, і, калі дом знясуць, я шкадаваць не буду, больш за тое, узрадуюся, што нарэшце разбурылі крывую халабудзіну, якая была неахайна складзена з крохкіх блокаў. Столь на апошніх паверхах заўсёды цякла, пэўна, яна і зараз працякае. Якое шкадаванне? А тое, што ў тым нашым доме жылі выбітныя людзі, зусім не апраўдвае такую доўгую прысутнасць гэтай пяціпавярховай развалюхі ў нашым нетрывалым архітэктурным свеце.

## 1965. Дробныя манеты

Раніцай я самы першы выходзіў з пад’езда. Адзін ішоў у дзіцячы садок. А дзядзька Валодзя прыходзіў у наш пад’зд самы апошні. Часам ён уздымаўся на наш пяты паверх на чатырох лапах. На карачках Караткевіч любіў запаўзці на наш пяты паверх. Ну любіць чалавек хадзіць на руках і нагах адначасова, хочацца яму рачкаваць… Што ў тым такога кепскага? Толькі вось кішэні ў нашых мужчынскіх нагавіцах не разлічаны на тое, што мы будзем хадзіць на ўсіх чатырох лапах. Калі ідзеш на ўсіх чатырох, металічнае змесціва кішэняў высыпаецца. Таму наш ранішні пад’езд і быў пазасыпаны дробнымі манеткамі, якія павывальваліся з кішэняў дзядзькі Валодзі. У такія раніцы я багацеў, і мая мара — набыць сабе ў краме “Прырода” жоўта-зялёнага папугая — пасоўвалася значна бліжэй да здзяйснення.

## 196… Сабака

Дзядзька Валодзя любіў сабак, ён любіў жывёл, як іх зазвычай любяць бяздзетныя людзі. Толькі сабак Валодзя любіў асабліва, бо адзін з іх выратаваў рукапіс аповесці “Дзікае паляванне караля Стаха”. Аднойчы ўвечары Караткевіч чытаў сябрам урыўкі з новай аповесці, потым усе пілі і весяліліся, а позна ўначы вярталіся з рэстарацыі ў дом творчасці. Ішлі праз лес. У заснежаным ельніку папка з рукапісам і згубілася, а на раніцу ахоўніцкі сабака выкапаў з-пад снегу “Дзікае паляванне…”. Нягледзячы на ўсю казачнасць гэтага здарэння, яно цалкам рэальнае. Каб не сабака, беларуская літаратура магла б страціць адну са сваіх найлепшых аповесцяў. Але рукапісы такіх твораў не толькі не гараць, але і з-пад снегу выкопваюцца сабакамі. Адно, што не магу зрабіць дакладна, дык гэта назваць мянушку сабакі. Колькі не згадваў, але ўспомніць не змог.

**1970. Прыпынак**

У той час кавярняў і рэстаранаў у Мінску было мала, грамадскае харчаванне зводзілася да наяўнасці розных сталовак, таму ў святочныя дні ўсе хадзілі адзін да аднаго ў госці. Загадзя гатаваліся розныя вінегрэты і халадцы, загадзя набывалася спіртное і торт. Цэлая нядзеля сыходзіла на такое некалькісямейнае свята. Тым разам бацькоў запрасіў капітан другога ранга Кісялёў. Мы да самай ночы прабалявалі ў маленькай кватэрцы на бульвары Шаўчэнка. У капітана мелася дзіва тагачаснай тэхнікі — кінапраектар з мультфільмамі на вузенькай плёнцы. Разы са тры пракруціліся “Шпіёнскія страсці”. Дамоў вярталіся ў цемрадзі. Стаяў люты мароз. Вуліцы былі пустэльныя і пазасыпаныя глыбокім снегам. Маці ўгаварыла бацьку пайсці на таксовачны прыпынак. Там таўклося шмат людзей. З намі быў пяцігадовы Мірык, і мы ўжо збіраліся ісці на тралейбус, калі з’явіўся Караткевіч. Ён быў у разшпіляханым палітоне і вушанцы, якая сядзела на патыліцы. Дзядзька Валодзя шумна ўзрадаваўся выпадковай сустрэчы. Два гады я не бачыў Караткевіча, і ён дзівіўся: як хутка я вырас і які вялікі стаў Мірык. Караткевіч гучным голасам пачаў угаворваць людзей прапусціць нас без чаргі. Падыйшла машына, мы селі і паехалі. “Я ж не такі п’яны, як Караткевіч?” — спытаў тата ў мамы. “Не такі, не такі…” — адказала яна і засмяялася.

**1976. Сад**

Атрымаўшы трохпакаёвую кватэру ў доме № 36 па вуліцы Маркса, Караткевіч з бутэлькай каньяку абыйшоў усіх суседзяў у пад’ездзе. Каб з кожным узяць чарку за знаёмства і наваселле. Дзядзька Валодзя абяцаў пасадзіць у двары цудоўны яблыневы сад, які ён сам будзе даглядаць, а яблыкі будуць браць усе, хто пажадае. Калі казаць праўду, дык усе ў доме добра ведалі Караткевіча, цудоўна разумелі, што ніякі сад ён не пасадзіць, а яму проста захацелася выпіць каньяку, ды і нагода, як ні паварочвай, выдатная.

**1976. Крэслы**

З дому № 68 на вуліцы Апанскага, які стаіць насупраць Кальварыйскіх могілак, я з бацькамі і братам пераехаў на вуліцу Маркса. Пасля бруднага пад'езду, што смярдзеў смеццеправодам, мяне парадавала не столькі чысціня новага пад'езду, колькі крэслы на кожнай лесвічнай пляцоўцы. Крэслы паставіў Караткевіч для сваёй старэнькай маці. Тады яшчэ не было кодавых замкоў і дамафонаў, адпаведна, крэслы намёртва прымацаваліся дротам да батарэяў. Вось такая ўвага да любімага чалавека засталася мне прыкладам. А што больш за ўсіх на свеце Уладзімір Караткевіч любіў сваю маці, скажа кожны, хто яго ведаў.

**1977. Слова**

Была цёплая восень, і я маляваў вялікі нацюрморт з драўляным анёлам. Залацістае палатно стаяла на мальберце. Караткевіч паразглядаў зробленую вялім пэндзлем фактуру алейнай фарбы і запытаўся: “Напішаш пра мяне праўду?” Давялося задумацца. Каб дзядзька Валодзя спытаўся ў мяне пра свой партрэт на паперы ці кардоне, я б адказаў адразу, але ён казаў пра словы. Чаму раптам я павінен расказваць нешта-нейкае пра яго, чаму я павінен тое запісаць? Караткевіч часта заходзіў да нас на каву, мама варыла яе ў турцы на маленькім агні. Зазвычай размовы былі вясёлыя, а тут з'явілася змрочнасць. “Напішу!” — “Ніна, ён сказаў, што напіша пра мяне праўду”. — “Сказаў, значыць зробіць. Наліваю каву…” Вось так паспешліва і неабачліва я даў слова Караткевічу. У наш час людзі мала вераць у слова, збольшага яны захапляюцца лічбамі, нават кнігі для іх вымяраюцца колькасцю старонак, накладам і атрыманым прыбыткам, нават карціны ім бачацца праз суму сплочанага ганарара. Але маё асабістае назіранне пераконвае ў іншым — чалавек жыў, жыве і жыць будзе словам. Лічба без слова мала што вартая. Вялікія заробкі і прыбыткі атрымліваюць людзі, якія здатныя трымаць сваё слова. Сказаў — зрабіў, паабяцаў — выканаў. Пра такіх ка-

жуць “чалавек на слове”, з такімі працуюць, такім вераць. Лічба пераконвае толькі тады, калі за ёю стаіць слова. Таму і працую я са словам, таму выконваю свае абяцанні, нават калі такое слова было дадзена неабачліва.

### 1979. Правал

Ён сядзеў на лаўцы каля пад’езду. Ён смактаў, пасмоктваў патухлую беламорыну. Ён сядзеў, праваліўшыся ў самога сябе. Мяне ўразіў гэты правал у самога сябе. Я спыніўся, каб сказаць, што днямі вярну яму драўлянага, баракальнага анёла, якога пазычаў, каб намаляваць. Ён пытаўся, ці атрымаўся анёл і ці пакажу я малюнкі? Голас ягоны гучаў хрыпла, патухла, нібыта здалёк. Ён застаўся ў правале.

### 1979. Міцкевіч і Колас

Я задумаў і напісаў партрэт Якуба Коласа. Выбраў стыль — гіперрэалізм. Калі я заканчваў працу, да майго суседа — Уладзіміра Караткевіча — прыйшоў у госці сын Коласа — Даніла. Караткевічу партрэт падабаўся, таму ён і ўгаварыў Данілу ацаніць выяву бацькі. Даніла Міцкевіч доўга разглядаў партрэт, а потым сказаў, што Колас атрымаўся нейкі злосны, а ўсё гэта з-за вялікай колькасці зморшчынак на шчацэ, якія я так старанна перамалёўваў з фотакарткі. Караткевіч спрабаваў бараніць мой твор, спасылаючыся на вялікае падабенства яго да фатаздымка. Але Даніла сказаў, што бацька ягоны быў вельмі добры і чуллівы чалавек, а не такі злы і зацяты, як на маім партрэце. Караткевіча моцна закранула адмоўная думка Данілы пра партрэт, бо дзядзька Валодзя заўсёды перажываў, калі з ім не пагаджаліся. А мяне меркаванне Данілы не пакрыўдзіла зусім. Бо Колас быў чалавек зацяты і моцны, а не чуллівы, як казаў тады Даніла. І галоўнае: я яшчэ не скончыў партрэт, я не схадзіў у краму, і не купіў пакет лаўровага ліста, і не зрабіў вянок на галаве ў фотагіпер-калоса-Коласа…

## 1980. Лякарня

Калі запой у дзядзькі Валодзі доўжыўся больш за тры месяцы, калі ён падаў на кніжныя паліцы і рэзаўся аб пабітае шкло, калі мне з братам даводзілася выцягваць Караткевіча з-за пабітага ўнітаза і адмываць ад крыві, тады ўжо і прымалася цяжкае рашэнне наконт лякарні. Выклікалася Света Капылоўская, якая працавала загадчыцай працэдурнага кабінета ў псіхіятрычнай клініцы, што ў вёсцы Навінкі. Свеце Караткевіч верыў. Света і ўгаворвала дзядзьку Валодзю паляжаць у бальніцы, адпачыць і паправіць здароўе. Не ведаю, якімі такімі словамі Света пераконвала Караткевіча, але ён пагаджаўся на лякарню. Дзядзька, вядома ж, хваляваўся, каб ніхто не прачуў і не ўведаў пра вандроўку ў Навінкі. Ніхто і не чуў, а калі і чуў, дык пра тое маўчаў. А цяпер? Цяпер дзядзьку Валодзю гэта ўжо не хвалюе.

## 1980. Чорны перац

“Валодзя, кавы хочаш?” — пытаўся Уладзімір Караткевіч, стоячы пасярод лесвічнай пляцоўкі. Каву я любіў. І праз хвіліну сядзеў ва ўтульнай, абвешанай дэкаратыўнымі талеркамі кухні. Караткевіч не шкадуючы засыпаў каву ў турку. Браў дзве гарошыны чорнага перцу. Рэзаў іх напалам і кідаў у напой. Каву з перцам па-караткевіцку я гатую сабе ўжо гадоў трыццаць і добрым словам згадваю кухара — дзядзьку Валодзю.

## 198... Дэтэктывы

“Дэтэктывы я пішу для жонкі!” — безапеляцыйна заяўляў дзядзька Валодзя. Тое было праўдаю. Цётка Валя жыць не магла без дэтэктываў. Чытала яна іх па-польску, запойна чытала. Яе пакой, “бярлог” яна яго называла, быў спрэс пазастаўлены-пазакладзены маленькімі чорна-вокладачнымі кніжачкамі польскамоўных “дзюдзікаў”. “Чорны замак Альшанскі” Караткевіч напісаў для сваёй любімай Валькі. Калі ў кнігарнях пачалі

выстройвацца чэргі за “Чорным замкам”, дзядзька Валодзя шчыра дзівіўся. У той час пісанне дэтэктываў лічылася малапрэстыжным заняткам, нават крыху стыдобнай ганебнай справаю. Усе чыталі, усе любілі раманы і аповесці з вострым сюжэтам і крымінальнай інтрыгаю, але да літаратараў-дэтэктыўшчыкаў ставіліся грэбліва. Таму цётка Валя, пачуўшы гутарку пра Караткевіча і “нізкі” жанр, ганарліва ўздымала голаў і казала: “Я ўгаварыла Валодзю, і ён напісаў “Чорны замак Альшанскі” для мяне! Ён — мой рыцар, ён падарыў мне замак!”

## 1980. Пляшка гарэлкі

Дзядзька Валодзя піў, і піў ён запойна, па тры месяцы не выходзіў з ачмурэння. Каб так піць, патрабавалася падрыхтоўка, патрабаваўся запас алкаголю. Караткевіч быў найвялікшы майстра назапашваць і хаваць бутэлькі. Дзе ён іх толькі не прыхоўваў?! І ў кватэры, і ў пад’ездзе, і ў мяне… Можаш мяне асудзіць! Так, я хаваў бутэлькі дзядзькі Валодзі, часам хадзіў па гарэлку і каньяк для яго. Ён прасіў, бо сам баяўся не дайсці, баяўся павалiцца на вуліцы, даводзілася ісці мне. І я чхаць хацеў на твае асуджэнні. Вось так. Але не пра запоі я хачу распавесці, а пра спрэчку. Цётка Валя паспрачалася са сваім мужам Караткевічам на пяцьдзясят рублёў. Яна сказала, што схавае ў кватэры бутэльку белай, а Валодзя яе не знойдзе. Цётка схавала бутэльку і з’ехала на тыдзень. Караткевіч перавярнуў кватэру, а белую не адшукаў. Перажываў ён моцна, асабліва пасля таго, як Валя паказала яму схаваную пляшку. Тая стаяла паміж аконных рамаў, проста за шклом. Этыкетку Валя змыла і корак акуратна зняла, пакінуўшы адно цалафанаваю плеўку ад таго корака. Бутэлька празрыстая, гарэлка празрыстая, шыбы празрыстыя. Усе гэтыя празрыстасці і зліліся ў адну, амаль незаўважную, празрыстасць каля працоўнага пісьмовага стала літаратара Караткевіча.

## 1981. Хованкі

У нашай сям'і мужчыны калі й выпівалі, дык рабілі тое не хаваючыся. Дзед Валодзя прывозіў на ровары з мястэчка Навальня сямісотграмовую бутэльку віна — паўтарак, і ставіў яго на сярэдзіну стала. Тата, калі прыносіў гарэлку з крамы, гэтаксама адразу ставіў яе на стол. Недапітая бутэлька з гарэлкаю заўсёды стаяла ў нашай лядоўні. Караткевіч піў таемна. Ён мог зранку запрасіць мяне на каву, усадзіць на кухні, наліць той кавы цэлы двухсотграмовы кубак і сысці ў кабінет. Адтуль дзядзька Валодзя вяртаўся з падарункам. Колькі кніжак па мастацтву ён мне перадарыў, каб таемна заглынуць сваю шклянку каньяку. Выпіць хутка гарачую каву ў мяне не атрымлівалася. І мы хвілінаў дваццаць сядзелі на кухні, і дзядзька Валодзя распавядаў розныя гісторыі пра сваю маладосць, як і кожны літаратар, ён збольшага пераказваў напісаныя творы. Пэўна, таму мне падабаецца раман Караткевіча "Нельга забыць", гісторыя пра каханне. Калі мужчыны расказваюць мне пра сваё драматычнае каханне, я ім веру больш, чым жанчынам з аповедамі пра любоў, здрады і нянавісць, бо мужчыны робяць тое зусім не часта, нават пасля таемнай шклянкі каньяку.

У літаратурных колах хадзіла паданне пра тое, як пісьменнік Карпюк выратаваў літаратара Караткевіча. Здарылася тое ў Маскве, у інтэрнаце Літаратурнага інстытута. П'яны Караткевіч збіраўся выкінуцца з вакна, а Карпюк, пабачыўшы яго на падваконні, схапіў і сцягнуў на падлогу. Аляксей Карпюк сцвярджаў, што Караткевіч хацеў развітацца з жыццём з-за гарэлкі. Карпюк, які ствараў таварыствы цвярозасці, нічога іншага і сказаць не мог. А я думаю, што калі ў Караткевіча і быў намер развітацца з жыццём, скочыўшы з шостага паверха, дык толькі з-за кахання. Як тое было насамрэч, я ўжо ніколі не даведаюся, але варта аддаць належнае Аляксею Карпюку, які ў ракавую хвіліну паспеў падтрымаць дзядзьку Валодзю.

## 1981. Алкаголь

Аднойчы, прачытаўшы мае пачаткоўскія вершы, Уладзімір Караткевіч сказаў: “Ніколі не пішы ў п’яным стане». І я не напісаў ніводнага нецвярозага радка. Гэтую параду я выконваў і выконваю.

## 1981. Швейкі

У Караткевіча было вялікае пачуццё гумару. Што для беларускага літаратара даволі нехарактэрна. Пры тым гумару тонкага, іранічнага, шматхадовага. Ён мог выбудоўваць камбінацыю, інтрыгаваць. І з ім, канечне, цікава было. Заўсёды. Ён ведаў шмат жартаў, любіў жартаваць. Ён зачытваўся Гашэкам, Чапекам, О. Генры. Збіраў лялькі. У яго адных Швейкаў было штук сорак.

## 1981. Цацкі

“Я — беларускі Аляксандр Дзюма!” — любіў сказаць пра сябе Караткевіч. Не ведаю, з кім сябе параўноўваў аўтар рамана “Тры мушкецёра”, як не ведаю нічога пра ягоны ложак, а вось пра ложак Уладзіміра Караткевіча я ведаю. Дзіўны ложак, бо ўвесь ён быў пазастаўляны цацкамі. Караткевіч усё жыццё праспаў з цацачнымі мядзведзікамі. Каля таго ложка стаялі паліцы з кнігамі, і кнігі на іх былі збольшага для дзяцей і падлеткаў. Караткевіч чытаў Колінза, Хогарта, Конан Дойля і Аляксандра Дзюма, зразумела.

## 1982 . Мой першы зборнік вершаў

Дзядзька Валодзя дапамагаў мне стаць афіцыйным паэтам. Ён напісаў рэцэнзію на першы рукапіс майго зборніка пад непаэтычнай назваю «10 на 10». Адзіная вартасць тых вершаў, што

пісаліся яны па-беларуску. Караткевіч знайшоў яшчэ некальні станоўчых якасцяў.

## 1982. Раман

Я захапляўся раманам Караткевіча “Нельга забыць”. Таму што гэта раман пра каханне, раман пра рэальнае каханне. Раман, у якім Караткевіч спрабуе стаць пісьменнікам найвышэйшага гатунку. Гэтая спроба… Я наогул люблю ў літаратуры такія спробы. Мне як творцу больш цікавыя правалы літаратараў, чым іх дасягненні. Дасягненне заўсёды невядома як зробленае. А калі чалавек не дасягнуў… Планы ў Караткевіча былі большая, чым ён мог зрабіць. І я гаварыў пра гэта з Караткевічам і казаў, што з задавальненнем прачытаў гэты раман, і ён мне падабаецца. На што дзядзька Валодзя адказваў: “Ведаеш, я рады, што ты цэніш маю творчасць. Але я скептычна да сябе як да творцы стаўлюся. І ты заўсёды мусіш ставіцца да сябе скептычна. І калі ты бачыш, што не можаш нечага зрабіць, то заніжай планку. Не можаш напісаць выразнае, рэалістычнае, класічнае апавяданне — напішы фантастычнае. І сілы будуць увесь час цябе пакідаць. Ты будзеш жыць, а сіл будзе ўсё менш-менш. Імпэт будзе пацху знікаць. І калі сілы зусім скончацца, нават на дэтэктывы інтрыгу будаваць, матывацыі прыдумляць — пішы фантастыку. Пішы лёгка. Пішы шмат”.

## 1982. Архіў

Большасць людзей не рыхтуецца да смерці, яны адкладаюць і адкладаюць тую сумную падрыхтоўку. Пісьменнікі не выключэнне, а большасць пісьменнікаў яшчэ і спадзяецца на ўдзячных нашчадкаў, які ўсё ўпарадкуюць і даробяць. Марныя спадзевы. Вось Караткевіч ні на каго не спадзяваўся, сам спарадкаваў усе свае паперы і перадаў у літаратурны архіў.

### 1982. Таямніцы

Слава — жанчына капрызлівая. Дай ёй толькі дробны матыў для крыўды, і яна ўцячэ. А матываў для крыўдаў процьма, нават пачынаць пералічваць не варта. Літаратар Караткевіч хутка набыў вядомасць і спазнаў славу. Адпаведна, цікаўнасць публікі да ягонай персоны рэзка ўзрасла. Публіка патрабавала ад праслаўленага пісьменніка прымітыўнага і шэрага жыцця. Гэта поўная лухта, што публіка можа дараваць вядомаму чалавеку незвычайныя паводзіны. Яна нават элементарнага запойнага п'янства не даруе. Таму ўсе блізкія да Караткевіча людзі старанна хавалі ягоны парок — запойнае п'янства. Зрэшты, а нашто народу было ведаць пра спустошанасць і слабасць жывога героя. Нікога ж не цікавіць, якімі намаганнямі і якімі высілкамі заваёўвалася гэтая слава.

### 1982. Казкі

“Лягу ў бальніцу і напішу некалькі казак пра скарбы і чарцей. Валодзя, чаму ў бальніцы мне хочацца пісаць казкі? Амаль усе свае казкі я напісаў, лежачы ў бальнічным ложку...” Чаму дзядзька Валодзя пісаў у лякарні менавіта казкі, я не ведаў тады, не ведаю і цяпер.

### 198... Караткевіч і Барадулін

Ці бывае сяброўства раўназначным? Пэўна, не бывае... Да такой высновы прыйшоў, згадваючы ўзаемаадносіны Караткевіча з Барадуліным. “Валодзечка, Валодзечка, Валодзечка...” — чулася ад Барадуліна. “Грышка, чорт цябе пабірай!!!” — у адказ гыркатаў Караткевіч. Праз санчапансаўскае прыніжэнне Барадулін знаходзіў сяброўства і з Броўкам, і з Быкавым, і з Караткевічам... Пра Рыгора Барадуліна я б наогул не згадваў, каб ён са свайго донкіхотаўскага Валодзечкі аднойчы не зрабіў дурня. Больш за тое, сярод дурняў апынуўся не толькі Караткевіч, а і я

разам з ім. Дзядзька Валодзя напісаў прадмову да маёй першай кніжкі вершаў і занёс яе ў выдавецтва “Мастацкая літаратура”. Там працаваў Барадулін і выконваў ролю “шэрага кардынала”. Ён затэлефанаваў Караткевічу і параіў не падтрымліваць розную дрэнь. У той момант дрэнню для Барадуліна быў я. Караткевіч мяне супакойваў: “Валодзя, калі будзеш выдаваць свой збор твораў, у дадатак паставіш маю кароткую рэцэнзію-прадмову, якую гэтыя падлюкі “згубілі”…” Дзядзька Валодзя меў рацыю, ён быў здатны бачыць будучыню. Даўно перагарэла мая злосць на дзядзьку Рыгора, але часам усё ж хочацца прагыркатаць: “Грышка, чорт цябе пабірай!!!”

### 1983. Госці

Каго я толькі не прыводзіў да дзядзькі Валодзі… Паэта Бембеля з кнігаю пра вынішчэнне беларускай мовы. Мастака Альшэўскага з жаданнем напісаць партрэт знакамітага літаратара. Таварыша свайго Сцепаненку з праблемаю прапіскі ў Мінску. Полацкага пісьменніка-пачаткоўца Мінкіна… На Мінкіне ўсё і скончылася. Мы пілі каву з Караткевічам, і Алег Мінкін, прачытаўшы колькі вершаў, пачаў несці крытыканскую ахінею. Ён так ахайваў савецкі лад, што нагадваў правакатара са спецслужбаў. Вядома, ніякім правакатарам Мінкін не быў, а ягоныя выказванні адносна савецкай рэальнасці былі праўдзівыя. Адно толькі напружвала: крытыка тагачаснай імперыі зводзілася да аплёўвання творцаў за іх няшчырасць, хцівасць і прыкарытнасць. Караткевічу Алег Мінкін не спадабаўся: “Хлопец, колькі табе гадоў? Табе ўжо трыццаць, а разважаеш ты так, нібыта табе пятнаццаць. Ты прыйшоў у кватэру да незнаёмага чалавека, першы раз прыйшоў, а спрабуеш гаварыць так, нібыта мы з табою даўнія сябры…” Калі пакрыўджаны Алег сышоў, дзядзька Валодзя папрасіў мяне больш не прыводзіць да яго такіх неразумных людзей. Мне зрабілася няёмка, не за Алега Мінкіна і ягоныя вершы пра прыкарытную літаратуру, а за тое, што ў бліжэйшы час нікога не змагу пазнаёміць з Караткевічам.

### 1984. Смерць

“Дайце спакойна памерці!!!” — у тэлефонную слухаўку крычаў Караткевіч. Ён гэта рабіў не раз і не два, ён такое выкрыкваў шматкроць. І ўсе нават прызвычаіліся да такіх выхадак, усе ўспрымалі гэта за гіпербалу. А Караткевіч узяў ды й памёр на пяцьдзясят чацвёртым годзе жыцця…

### 1984. Апошняе слова

“Пячэ!!!” — крычаў Караткевіч, калі санітары папрасілі мяне дапамагчы ім апусціць насілкі з пятага паверха… Два разы я жыў на адной пляцоўцы з Караткевічам, і абодва разы на пятым паверсе… Насілкі былі цяжкія. А ён усё не супакойваўся. “Пячэ! Пячэ! Пячэ!..” Пякельнасць праступала на твары спакутаванага ад болю дзядзькі Валодзі. Насілкі загрузіліся ў машыну. Разам з санітарамі я паехаў у лякарню. Там я дапамог перагрузіць насілкі на каталку. “Пячэ!” — шаптаў перасмяглымі губамі Караткевіч. Гэта апошняе слова, пачутае мною ад яго. Хацелася дапамагчы, хацелася выцягнуць яго з пекла, узяць за руку і выцягнуць. За руку я яго ўзяў, а выцягнуць не выцягнуў.

### 1984. Маска

Дубянецкі арганізаваў зняццё маскі з твара нябожчыка. Ён вельмі ганарыўся тым, што паспеў своечасова і аператыўна зняць маску. “Для гісторыі патрэбна пасмяротная маска Караткевіча!” — казаў Дубянецкі, а я яго не разумеў. У часы татальнага фатаграфавання ды фільмавання хіба патрэбна каму тая пасмяротная маска?

### 1985. Папулярнасць

Украінскі паэт Максім Стріха казаў, што вельмі зайздросціць беларусам, якія маюць такога легендарнага літаратара, як Карат-

кевіч. На кнігах Караткевіча будзе выхоўвацца не адно пакаленне беларускіх патрыётаў. Максім так расхвальваў Караткевіча, што мне зрабілася няёмка. Нібыта я не разумеў значнасці ягоных твораў ці выказваўся пра Караткевіча без патрэбнай павагі. Я мог бы прывесці іншыя прыклады вядомасці і папулярнасці Караткевіча, але і гэтага дастаткова.

**1989. Сказ**

“Цёмныя хмары прыгнёту плылі па-над Беларуссю…” — менавіта да такога сказа можна звесці ўсю творчасць Караткевіча. Прынамсі, я так і зрабіў, малюючы комікс паводле аповесці “Дзікае паляванне караля Стаха”. Пісьменнік Кастусь Тарасаў страшэнна абураўся тэкстамі ў тым коміксе. Казаў, што Караткевіч не мог выказвацца так спрошчана. Але чытачы занялі іншую пазіцыю, яны былі на маім баку і раскупілі сотні тысячаў намаляванага “Палявання”, бо “цёмныя хмары прыгнёту” сапраўды плылі па-над Беларуссю. І пакуль яны будуць плысці, творчасць Караткевіча будзе актуальнай.

**1990. Помнік**

Каб мне замовілі зрабіць помнік Караткевічу, я б не ляпіў бронзавага чалавека, падобнага да дзядзькі Валодзі, я б зрабіў імклівых коннікаў вершнікаў — паляванне караля Стаха, тое паляванне, што карае здраднікаў Радзімы. Зрэшты, такі своеасаблівы помнік я і зрабіў, пераказаўшы ў форме комікса для нашых дзяцей найлепшую легенду Караткевіча.

**2004. Легендарнасць**

Так супала, што ў часы асноўных зменаў у нашай сучаснай гісторыі менавіта кнігі Караткевіча дапамагалі ў чорныя гадзіны сумненняў і роспачы. Кожная беларуская сям’я мае ягоныя кнігі. У гэтым сэнсе Караткевічу пашанцавала больш, чым іншым лі-

таратарам. Карыстаючыся сучасным вызначэннем, можна сказаць: Караткевіч — народны пісьменнік. Але, добра ведаючы дзядзьку Валодзю, думаю: яму б не спадабалася такое вызначэнне. Таму я напішу інакш… Уладзімір Караткевіч — легендарны беларускі літаратар.

**2004. Марнатраўства**

Дзядзька Валодзя змарнаваў шмат сілаў і часу на экранізацыі і тэатральныя пастаноўкі сваіх твораў. Ягонае пакаленне проста згарэла ў кіназалах і на здымачных пляцоўках, як маё пакаленне згарэла на тэлебачанні, а пакаленне маіх дзяцей гарыць ясным полымем у інтэрнэце. У кожнай генерацыі свае забаўкі, свае ловы ветру, сваё марнатраўства часу.

**2004. Постмадэрнізм**

Для мяне сам тэкст — рэальнасць. Раманы, вершы, аповесці Уладзіміра Караткевіча — рэальнасць. Дзядзька Валодзя — рэальнасць. Для мяне не існуе гісторыі як асобнай навукі. Ёсць гісторыя літаратуры, гісторыя матэматыкі, гісторыя мастацтва, гісторыя культуры і гісторыя вайны, то бок безкультур’я. Найважнейшым у гісторыях я лічу факты, складзеныя ў храналагічныя табліцы. Чалавек у еўрапейскай цывілізацыі падпарадкаваны ў сваіх паводзінах архітэктурнай сітуацыі, таму літаратурныя стылі ідуць услед за архітэктурнымі. Іх няшмат, і я пералічу: раманскі, готыка, адраджэнне, маньерызм, барока, ракако, класіцызм, рамантызм, мадэрнізм і постмадэрнізм. Караткевіч, як і ўсе літаратары нашага часу і нашай еўрапейскай культуры, належыць да постмадэрністаў.

**2004. Чытачы**

У сучасных беларускіх хрэстаматыях па літаратуры шмат выдатных іменаў і многа няякасных тэкстаў, а ўсё з-за таго, што

большасць сусветнай класікі перакладзена кепска. Узровень перакладчыкаў саступае ўзроўню аўтараў настолькі, што Шэкспір чытаецца горш за Крапіву. Каб выправіць абсурднае становішча, варта прыбраць з хрэстаматый перакладную літаратуру, уключаючы Гусоўскага і Баршчэўскага, а дадаць больш тэкстаў Караткевіча і сучасных беларускіх літаратараў. Такім чынам, чытачоў у Караткевіча стане больш, што важна.

### 2004. Працягі

Найцікавейшая рыса літаратурных твораў Уладзіміра Караткевіча — незавершанасць, якая вымагае працягаў, варыянтаў, імправізацыяў і пераходу ў іншыя жанры мастацтва: у графіку, у тэлевізію, у кіно…

### 2005. Дысідэнт

Антысаветчык, дысідэнт, змагар за безальтэрнатыўныя каштоўнасці — таксама нейкая ідэальная рэч, якой няма ў прыродзе. Як Гогаль пісаў — што гэта за пісьменнік, які не можа падмануць цэнзара? Ясна, што Караткевіч падманваў цэнзара. Ясна, што яго забаранялі. І што ў асяродку пісьменнікаў пра тое цудоўна ўсе ведалі. Калі ў цябе нічога не забаранілі — ну, які ты пісьменнік? Назваць Караткевіча дысідэнтам? Я б не называў. Мне слова не падабаецца. Як і савецкі чалавек. Гэта хутчэй паліталагічны тэрмін, а не рэальнае жыццё. Дзядзя Валодзя — беларускі пісьменнік. Класік беларускай літаратуры. Пры тым выключны пісьменнік, якога дзеці чытаюць з задавальненнем.

### 2006. Кніга ўспамінаў

Занёс маці кнігу ўспамінаў пра дзядзьку Валодзю. Праз колькі тыдняў спытаў пра ўражанні. “Прачытала ўсё, але мала што падалося цікавым… Павярхоўнае, знешняе, непраўдзівае… У нас, напэўна, свой Караткевіч, а ў іх быў свой. Калі ён заходзіў да нас

і казаў: “Ніна, пачастуй мяне каваю!”, я варыла ў турцы каву на маленькім агні і думала, што шчаслівае і вялікае жыццё нас усіх чакае наперадзе. А калі я чытала кнігу ўспамінаў, мне падумалася, што маё шчаслівае жыццё было тады, і яно засталося ў далёкім мінулым. Жыў Караткевіч, жыў твой тата — мой Слава…”

**2007. Час**

Час — пашырэнне душы ад тут і цяпер да было і будзе. Так можна пераказаць думку Блажэннага Аўгусціна. Такое разуменне часу мала патрэбнае для фізікаў, але яно плённае для паэтаў. Нездарма апошнюю кнігу лірыкі Караткевіч назваў “Быў, ёсць, буду…”. Ён змог пашырыць сваю душу ад свайго тут і цяпер да нашага было дый будзе.

# АНАТОЛЬ

## Словы пра паэта Анатоля Сыса

### 1. МОЙ БЕДНЫ ТАВАРЫШ, МОЙ СЫС

**7 траўня. Субота.**

**23:15.** Ляжу. Чытаю пра культуру маркетынгу ды маркетынг культуры. Жонка заходзіць у спачывальню з вялізным і, па ўсім відаць, дарагім букетам:
— Ты кветкі прынёс?
— Дзе ты іх знайшла?
— На лесвічнай пляцоўцы, пад дзвярыма нашай кватэры і студыі. Хочаш сказаць: букет прынеслі табе? Прыхільнікі з прыхільніцамі пачалі высцілаць твой шлях кветкамі?
— Я сплю. Букет твой. Ты знайшла, значыцца — кветкі твае! Запіскі ў букеце не было?
— А я ўзрадавалася, падумала: ты мяне кахаеш і кветкі прынёс, — жонка растрыбушвае букет, але ніякага паслання не знаходзіць.
— Слухай, у студыі 12 манекеншчыц, можа, каму з іх букет прынеслі?
— Не, яны ўсе, як адна, адмовіліся.
— Выдатна, будзем лічыць, што букет наш агульны.

**24:00.** Жонка ідзе дафатаграфоўваць 12 чарговых прыгажунь у новых карсетах. Я стаўляю кветкі ў вазу пасярод пакоя і кладуся чытаць пра культурны маркетынг. Начытваюся пра масавую свядомасць, загнаную ў гіпермаркеты, і засынаю ў кветкавым водары.

**8 траўня. Нядзеля.**

**03:45.** Нехта, вельмі не раўнадушны да маёй асобы, не спіць і распаўсюджвае ў інтэрнэце паведамленне: «Памерла жонка Глобуса. Інсульт». Замест подпісу ставіцца: «Я ў шоку!»

**11:00.** Мяне такім мэсіджам не праб’еш, жонку маю тым больш не зачэпіш. Але знаходзяцца ўражлівыя людзі, якія вырашаюць праверыць праўдзівасць інтэрнэтнага паведамлення. Адзін Вова тэлефануе да другога Вовы, другі Вова — да маёй мамы… Ну і коціцца дэзінфармацыя, як свабоднае кола з амерыканскай горкі.

**14:00.** Паўдня я з жонкаю цешуся яе пазачарговым уваскрашэннем.
— Што з жонкаю?
— Уваскрэсла. З мёртвых паўстала.

**15:00.** Гісторыя пра смерць і ўваскрашэнне вельмі развесяляе гасцей на дні нараджэння Таццяны — жонкі майго брата. Мы ямо смажанае ягня ў грузінскай рэстарацыі і адзначаем у тостах два дні народзінаў. Весела, не тое слова, смяемся да сутаргаў у страўніках.

**19:30.** Пасля вялікага балявання сам сябе выгульваю ў горадзе. Звоніць Паўліна Сцепаненка:
— Памёр Сыс!
— Поля, калі гэта падман, калі гэта жарт, калі Толік жывы, я да цябе прыеду і заб’ю! Я паўдня ўсім знаёмым казаў, што мая жонка не памерла, цяпер я буду ўсіх знаёмых абзвоньваць і казаць, што замест маёй жонкі Сыс памёр?! Так? Зараз паеду да яго, і не дай ты Бог, каб ён быў жывы!

Паўліна нейкая млявая і абыякавая да маіх вербальных экспрэсіяў. Яна ўжо аплаквае смерць вялікага паэта. А я спадзяюся на чарговую памылку. Маю падставы…
Першага беларускага красавіка — свята дурня. Менавіта першага красавіка дурні забываюцца на тое, што яны — дурні поўныя. Выключэнняў не існуе. На свята дурня дурэюць і дурнеюць усе…
— Званілі з твайго магілкавага таварыства «Кальварыя»? — падземным голасам спытала ў мяне жонка. Дурань мог бы здагадацца: рыхтуецца падман. Я паверыў.
— Твой Сыс памёр. Трэба хаваць!
— Хто дакладна званіў?
— Паверыў, паверыў, падманула!
Я паспрабаваў парадавацца, што Толік жывы. Радасць атрымалася змушаная. Такая ж безымпэтная радасць была і ў Віктара Шніпа, якога разыгралі з той жа, доўгачаканай, смерцю Сыса.
— Як падумаў, што давядзецца за 300 кіламетраў везці труну, дык страшэнна расстроіўся. А каб ён згарэў, гэты наш Толік!
Карацей, у мяне ёсць падставы не верыць Паўлінцы. Але маецца важкі аргумент, каб праўдзіць навіну. Голас у Паўліны быў з непадробна-жалобным адценнем.
Варта нагадаць: усе мы любім Сыса. Шчыра, аддана, пасапраўднаму любім і шануем паэта.

**20:15.** Заходжу на працу. Знаходжу стары тэлефонны даведнік. Адшукваю нумар Алы Канапелькі — Толікавай суседкі. Набіраю. Голас старой жанчыны цікавіцца, што мне трэба.
— Алу!
— Алу? Выдатна. Вам якую Алу, бландзінку ці брунетку? У нас сягоння вялікі выбар. Раскажыце пра свае пажаданні, і мы выберам самую адпаведную, самую сексуальную Алу…
— Прабачце, я, здаецца, памыліўся …
— Ды не саромцеся, расказвайце, якую жанчыну вы хацелі б любі…
Абрываю сувязь.

**20:30.** Набіраю сотавік Барыса Пятровіча.
— Так! Праўда, памёр! Мы з хлопцамі збіраемся ехаць на ягоную кватэру. Праз паўгадзіны будзем.
— Там і сустрэнемся.

**22:15.** У кватэры паэта вісіць густы і цяжкі дух чалавечай крыві.
— Вось тут ён ляжаў. Бачыш плямы? Сястра замывала, але не замыла, — Ала не можа адвесці вачэй ад цёмных плямінаў на жаўтавата-залацістым лінолеуме. Праходжу з вітальні ў пакой.
— Хаваць будзем на Радуніцу, бо 10 траўня, на Радуніцу, брама ў рай адчыненая; і наш Цішка пойдзе адразу ў рай. Цішка… У нашым Гарошкаве Сысоў многа, таму нас клічуць Цішкамі. Бацька наш — Цішка, і мы ўсе ягоныя Цішкі, а не Ціханавічы, — твар Анатолевай сястры Валянціны зморшчваецца ад пакутлівай горычы, і яна пачынае плакаць.

**22:30.** Звоніць Вольга Караткевіч з радыё «Свабода». Прапануе з самай раніцы, а сёмай, сказаць у жывым эфіры колькі слоў пра Сыса. Пагаджаюся. Шкадую, што не адмовіўся, але запозна. Кажу да Валі:
— Пакуль мы тут усе свае, збярыце рукапісы Анатоля, складзіце ў скрыню ды аддайце Але ці Барысу.
— Не, мы з сястрою іх забярэм і завязем у Гарошкаў, а то вы знойдзеце нешта брыдкае, надрукуеце, а я не хачу…
Згадваецца мне, як Наталля — сястра Уладзіміра Караткевіча — спаліла братавы лісты, а потым шкадавала.
Іду на кухню, састаўляю пад стол пустыя бутэлькі з-пад гарэлкі і віна. Куру. Сыходжу не развітваючыся. Па дарозе дамоў пішу развітальны верш, у якім выпраўляю душу Сыса ў светлы і празрысты райскі дом.
Ёсць меркаванне, нібыта сапраўдныя вершы пішуцца толькі ўначы, але я ў гэта не веру. Я мала ў што веру.

**9 траўня. Панядзелак.**

**02:15.** Стомлены, як звяруга-валацуга, валюся спаць.

**03:15.** Прачынаюся. Варочаюся з боку на бок. Не спіцца. Устаю. Сядаю за стол і пішу развітальныя словы:
Памёр паэт. Памёр беларус Анатоль Сыс. Ён быў для мяне паплечнікам і сябрам. Для нашай Бацькаўшчыны Анатоль Сыс быў, ёсць і застанецца вялікім паэтам. Лёс падараваў мне знаёмства

з многімі паэтамі, але толькі Анатоль Сыс мог насіць гэта званне без усялякіх дадатковых азначэнняў. Сыс быў паэтам і больш нікім. Паэтам, які не напісаў ніводнага кепскага радка. Сыс — проста паэт. У простасці ягоная веліч. Дзякуючы такім, як Анатоль Сыс, беларускі народ узняўся на барацьбу за сваё вызваленне. Дзякуючы Сысу над Беларуссю зноў залунаў бел-чырвона-белы сцяг, пад якім Беларусь наноў здабыла дзяржаўнасць. Анатоль не стаў палітыкам, не стаў дзяржаўным дзеячам — Анатоль застаўся паэтам. Ён застаўся верны лёсу і залатымі літарамі ўпісаў сваё імя ў гісторыю беларускай паэзіі. Паэтычная зорка Анатоля Сыса будзе вечна свяціць для тых, хто любіць жывую Беларусь. Таму сапраўдная Беларусь сягоння ў вялікім смутку: яна плача, яна страціла свайго паэта.
Плакатна выйшла, манументальна, з непрыхаванай прапагандысцкай жорсткасцю. На 9 траўня, на Дзень Перамогі, інакш і не выкажашся, бо не пачуюць.
Вайна — народнае свята. У Беларусі святкаванне дня заканчэння Другой сусветнай бойні ўжо 60-ты раз набывае форму масавага запою з адценнем вар’яцтва.
Не сплю. Чакаю званка з радыё. Не тэлефануюць. Чаму? Батарэйка села. Падключаю тэлефон.

**07:15.** Званок. Наконт абставінаў смерці Сыса кажу наступнае:
Гэта драматычныя абставіны. Яго знайшла паэтка Ала Канапелька, яна тры дні бачыла, як гарэла святло ў ягонай кватэры і потым вырашыла выклікаць міліцыю. Міліцыянты адмовіліся ламаць замок, бо не было сваякоў. Давялося выклікаць сястру. З Брэста прыехала Валянціна. Анатоль ляжаў у вітальні, колькі дзён як нежывы. Цела адвезлі ў бальніцу. Сёння эксперты дадуць заключэнне аб смерці. Потым ужо вырашыцца, дзе адбудзецца развітанне. Пахаваюць Анатоля ў Гарошкаве, на радзіме.
Тут і пачынаецца ваеннае народнае свята. Вайскоўцы ідуць. Народ п’е. Прэзідэнт вітае народ і дзячыць ветэранам. Толькі свята ў іх не атрымліваецца, бо неба несупынна плача халодным дажджом.

**12:00.** Тэлефаную Алісе Бізяевай, каб спраўдзіць інфармацыю, што менавіта Вова-23 напісаў дурню́ пра інсульт маёй жонкі.

Тэлефон не адказвае. Неўзабаве ад Алісы прыходзіць эсэмэс: «Спадар Глобус! Даруйце, калі ласка, я ў Прыднястроўі. Ці не маглі б Вы звязацца са мной па мэйле?»

**12:15.** Пішу ліст: «Аліса, не знішчай постынг Рыдля-23, хай ён застанецца для гісторыі. Калі чалавек, нават несвядома, прыадчыняе дзверы смерці, скразняк зносіць слабое. Галінку «Кальварыя» я праз нейкі час перараблю, стварыўшы нешта падобнае. Ваш Глобус, які пайшоў развітвацца з Сысом».

**12:30.** Іду ў Саюз пісьменнікаў, дзе разам з Міхасём Скоблам рыхтую залу для развітання. Выносім крэслы ў бібліятэку, састаўляем сталы, на якія паставіцца труна. Паціху пачынаюць збірацца людзі. Міхась кажа, што ў бюро рытуальных паслуг няма праваслаўнага шасціканцовага крыжа, засталіся толькі простыя. «Возьмем просты крыж. Мы, напэўна, апошняе пакаленне, якое не звяртае ўвагі на такія ўмоўнасці», — кажу Міхасю.

**14:15.** З моргу звоніць Барыс, каб паведаміць, што Сыса ўжо апранаюць. Прыходзіць мая жонка з вялікай белай ліліяю. Яна ніколі не любіла розных умоўнасцяў, таму прыносіць адну кветку і кладзе яе на жалобны стол, у пустой зале. Згадваецца Апалінэраў верш: «Тры лілеі, лілеі тры, на магіле маёй без крыжа...» Падыходзяць і падыходзяць людзі. Іх усё больш і больш. У руцэ Сяргея Панізніка бачу тры паэтычныя зборнічкі: Сысоў, Сокалава-Воюша і мой. Робіцца ніякавата, нібыта тутэйшая публіка збіраецца пахаваць і частку мяне. Іду ў парк. Падыходзіць Паўліна:

— Пайшлі, кветкі пакладзем.

— Няма ў мяне кветак.

— У мяне 4. Табе 2 нарцысы і мне 2. Любіш нарцысы?

— Астры люблю.

**15:00.** У натоўпе Лявон Баршчэўскі штурхае мяне пад локаць, крохкія сцябліны нарцысаў пераломліваюцца напалам. Такія параламаныя кветкі я і кладу каля засланай бел-чырвонабелым сцягам труны. Слухаць развітальныя прамовы не хочацца. Гледзячы на калялітаратурны тлум, думаю: «А над труною

Толіка Сыса яны падзеляць месца першага паэта...» Разам з братам Міраславам і пляменнікам Чэсікам крочу на праспект, які ў гэты дзень пераназываецца з праспекта Скарыны ў праспект Незалежнасці. Буду лічыць, што пераназыванне робіцца ў гонар Сыса, які ўсё сваё жыццё празмагаўся за незалежнасць.

**15:15.** Думаецца такое: Сыс насамрэч памёр у 1991 годзе, у дзень абвяшчэння Незалежнасці Беларусі, з 1991 па 2005 Сыс піў, што да вершаў, апублікаваных пазней, дык ён проста ўспамінаў складзенае раней і запісваў. Да 1991-га мы пісалі і выдавалі кнігі, каб атрымаць незалежнасць, калі не поўную незалежнасць, дык хоць бы праспект Незалежнасці. Атрымалі, і стала горка. Атрымліваем, і робіцца яшчэ гарчэй.

**10 траўня. Аўторак.**

**13:00.** З Міхасём Талочкам у кавярні «Брыганціна» памінаем Сыса. Міхась п’е каньяк і есць перасоленую юшку. Я абыходжуся гарбатаю. За вокнамі «Брыганціны» праплывае Ганна Кісліцына. «Патэлефанаваць? Запрасіць?» — «Тэлефануй!». Званю. Ганна не чуе. Праспект Незалежнасці шумны.

**11 траўня. Серада.**

**16:00.** Сын Мікалай расказвае, што да яго заходзіла Ядзя з пісьмом ад былога ўхажора Сашы. Гэта ён прынёс букет кветак з пальмавымі лістамі і паклаў пад дзвярыма студыі, а пісьмо схаваў пад дыванок. Таму мы яго і не знайшлі. У пісьме ён зноў прызнаваўся ў каханні да маёй дачкі і нават пагражаў скончыць жыццё самагубствам, калі Ядзя выйдзе замуж за другога. Ну, гэта справа Ядзі і Сашы. А вось другая частка паслання тычылася непасрэдна мяне. У ёй Саша пісаў, што выправіўся, што займаецца сваёй адукацыяй і ўсталяваннем побыту, што можа забяспечыць нашай дачцэ дабрабыт і шчаслівае жыццё.

**18:00.** Барыс Пятровіч расказвае, што ў Гарошкаве магілу выкапалі Алесь Наварыч з Андрэем Федарэнкам. Ім яшчэ давялося спілаваць і выкарчаваць вялікую бярэзіну. Яшчэ Барыс распавядае пра морг, дзе патолагаанатам зрабіў ускрыццё і пакрыў твар Сыса бальзамічным растворам, каб плоць не спаўзала з чэрапа. Твар паэта быў чорны, як зямля. Нябожчыка шчыльна загарнулі ў цэлафан і закрылі ў труну. Адкрываць труну дактары забаранілі, бо на паветры цела імгненна распаўзецца. Барыс моцна перажывае, што пагадзіўся глядзець на труп.

**12 траўня. Чацвер.**

**08:00.** Boeing. Лячу з Менска ў Маскву. На крэсле, у кішэні, пад адкідным столікам, разам з планам экстранай эвакуацыі ляжыць часопіс «Horizons BELAVIA». Часопіс гламурны, дзяржаўна-глянцавы, адпаведны боінгу. Зрэшты, ён і рабіўся на замову авіякампаніі. У часопісе ёсць артыкул «Сферы Глобуса» Міхася Талочкі, дзе распавядаецца пра стварэнне літаратурнага таварыства «Тутэйшыя». «Яны былі таленавітымі рамантыкамі» — гэта пра такіх, як Сыс. «Глобус быў таленавітым рэалістам» — пра мяне. «Яны былі нацыяналістамі» — зноў пра такіх, як Сыс. «Глобус мысліў глабальнымі катэгорыямі». Вось яна — наша слава. Цяпер кожная беларуская сцюардэса пазнае мяне ў твар і ведае, у што я апранаюся і як рэкламую «BOSS».

**14:00.** З Якавам Хелемскім і Аляксандрам Івановым узгадняю выдавецкія планы. Недарэчны званок:
— Я Рыдаль-23!
— Слухаю цябе, Вова-23.
— Давайце жыць мірна і не будзем больш сварыцца.
— Скажы Алісе, каб прыбрала з галінкі «Кальварыя» твой допіс пра смерць маёй жонкі, і будзем лічыць інцыдэнт вычарпаным.

**13 траўня. Пятніца.**

**15:00.** У скрыні знаходжу паведамленне, Аліса даслала свой ліст і ліст Каткоўскага: «Alisa, pryvitannie! Jak majessia? Szto robisz?

Ja ciapier u Miensku, ale uzo zautra jedu nazad… Maju da ciabie malenkuju prosbu: zniszczy, kali laska, moj dopis pra zonku Hlobusa u halincy «Kalvaryja». Dziakuj! Добры дзень, спадар Глобус! Па просьбе Рыдля вынішчыла гэты каментар. Не крыўдуйце. Думаю, так лепей — такое і для гісторыі пакідаць не трэба. Усяго найлепшага. Жывіце доўга!»

**15:15.** Дзе слёзы? Чаму я распавядаю пра смерць Сыса без слёз? Можа, у мяне наагул скончыліся слёзы? Не. Толькі хай Толю аплакваюць слязьмі іншыя. На Анатоля Сыса слёз больш няма, у мяне няма. Сціскаю зубы. Скрыгат. Металічную каронку, што прастаяла 20 гадоў, выплёўваю на далонь. Яшчэ і каронка! Пятніца, 13-га, 9 дзён, як карона беларускай паэзіі згубіла гаспадара, а тут яшчэ і зуб зламаўся, усё не дзякуй богу.

## 2. ТУТЭЙШЫ

*Гэты тэкст быў напісаны ў 2001 годзе па замове Ганны Кісліцынай, якая рыхтавала нумар часопіса “Крыніца”, прысвечаны постаці Анатоля Сыса. Фрагмент пра п’янку з Кузняцовым не надрукавалі. Нумар “Крыніцы” з гэтым тэкстам Сыс прынёс да мяне ў выдавецтва, паказаў і сказаў: “Вось доказ, што ты мяне любіш!”*

*

Ад адной згадкі пра Анатоля Сыса можна захмялець.

*

З Сысам мяне знаёміць Шніп. Завочна. Толік дасылае з войска вершыкі Шніпу. Той ходзіць і паказвае. Мне Сысава паэма пра Цётку не падабаецца. Пра гэта яму і кажу пры першай сустрэчы ў скверыку, каля стадыёна “Дынама”. Сыс яшчэ не пакутуе на зорную хваробу, заўвагі ўспрымае.

*

Ёсць у чалавека такая здатнасць, як параўноўваць адно з адным, а ёсць яшчэ здатнасць блытаць аднаго чалавека з дру-

гім. Часам, мяне блытаюць і параўноўваюць з Сысам. І большасць параўнанняў не на маю карысць. Сыс — геній, пакутнік, душа-чалавек. Сыс чуе адваротнае. Глобус — заможны, жыве як хоча і піша што захоча. Здатнасць людзей падштурхоўваць іншых да сваркі і бойкі раздражняе. Імкнуся не рэагаваць, не атрымліваецца. І ў Сыса не атрымліваецца.

*

Першы раз б’юся з Сысам каля прыёмнай першага сакратара Саюза пісьменнікаў — Ніла Гілевіча. Я падрыхтоўваю дакументы Таварыства маладых літаратараў “Тутэйшыя” і разам з паэтамі Сцяпанам і Шайбаком прыношу да Гілевіча, які, між іншым, за вочы называе Толіка не Сыс, а Шыз. Перад прыёмнай немаведама адкуль узнікае Сыс. “Куды гэта Вы сабраліся?” — “Дакуманты нясём”. — “Дай я гляну”, — Сыс спрабуе выхапіць у мяне тэчку з паперамі. Не даю. Мы шчэпліваемся і валімся на падлогу. Сыс пасля войска — здаровы, як мядзведзь. Сцяпан з Шайбаком нас раздзіраюць. Да Гілевіча ідзём разам. Таварыства “Тутэйшыя” набывае больш-менш легальны статус.

*

Бард Сокалаў-Воюш на паседжанні “Тутэйшых” абвяшчае: хто з Толікам вып’е, таму ён не падасць рукі. Заяўляе, маўляў, спойваюць тут Сыса і з’язджае ў Амерыку. Сыс як піў, так і п’е. А каму патрэбны той заакіянскі поціск, і ўсе ўахвотку п’юць з Сысам. Ён п’е з усімі, але застаецца самотны…

*Я змярцвеў,*
*хоць чуў вакол прамовы*
*пра каханне, адраджэнне, мову,*
*тосты за Радзіму…*
*ўсё адно*
*за самоту піў сваё віно.*

Прызнаецца Анатоль у вершы “Самотны”.

*

У вершах Сыса цячэ алкаголь. Дакладна. Але ў голасе Толіка той алкаголь утрая мацнейшы. Сыс чытае вершы дзіўным, шаманскім, лаціна-амерыканскім голасам. У выкананні Анатоля нават вершы Аркуша слухаюцца як геніяльныя. А заўважаю я гэтую прыродную якасць падчас чытання вершаў Таццяны Сапач. Дзякуючы артыстызму і алкагольнаму голасу Толік можа газетнаму тэксту надаць значнасць эпічнай паэмы.

*

Літфонд выдзяляе грошы на падрыхтоўку зборніка “Тутэйшыя”. Грошы атрымлівае Сыс. А рыхтуе-рэдагуе зборнік Сяргей Дубавец. У фае Дома Літаратараў здараецца сварка. Сыс мусіць перадаць грошы Дубаўцу. Сыс ёсць Сыс, грошы аддае, але пачынае ставіць умовы. Тое трэба так рабіць, а гэтае гэтак. Усе кажуць… Ды супакойся ты, Сысяра!!! Дубчык зробіць добра! Не супакойваецца, распаляецца, абразы вярзе на Дубаўца. Той выцягвае з кішэні пачак грошай, шпурляе ў чырвоны сысаўскі твар і ціха так гаворыць: “Ды задавіся ты гэтымі грашыма. Мы зборнік, калі на тое пойдзе, у Лондане выдадзім, і без цябе”. Рублі я збіраю і ўсоўваю Дубаўцу. Зборнік выходзіць у Мінску. Пачынаецца ён вершам Сыса, але не Анатоля, а Сержука…

*Ноч. Павуцінне сноў.*
*Дзень. Павуцінне спраў.*
*Скажаш, нібыта ўкраў*
*Некалькі нечых слоў…*

*

Сыс дастае з кішэні пачак аматарскіх фотакартак. На бляклашэрых паперках можна, калі надта захацець, пабачыць голых цыцкастых дзевак і плячыстых хлопцаў, якія забаўляюцца каля грузавіка, на беразе шырокай рэчкі. Здымкі рабіліся на Сысавай радзіме, у Гарошкаве, на беразе Дняпра. “Добра вы ў сваім Гарошкаве час бавіце. Хацеў бы і я далучыцца”, — жартую. А Сыс на поўным сур’ёзе: “У мяне правіла: я да дзевак з жанатымі не хаджу”. Ходзіць ці не ходзіць, не ведаю. А я з ім дакладна не хаджу.

*

Называць Сыса Анатоль Ціханавіч прыдумвае Барадулін. Ён нібыта падкрэслівае Сысаву адметнасць, а з іншага боку, ведаючы недарэчнасць у беларускай культуры гэтых рыгоравічаў, іванавічаў, васілявічаў, прыкалваецца з Анатоля ў сваім непараўнальным Барадулінскім сарказме. Так ён прыдумвае называць улюбёнага Сысава паэта Разанава самабытным паэтам.

*

З Богам, з Царквою, з Вераю Сыс вызначыцца не можа, як і ўсе мы — тутэйшыя...

*Я стаю на крыжы беларускіх дарог*
*І не бачу дзвярэй, за якімі ёсць Бог.*

Кажу я.

*У гэтай краіне не маю я Бога,*
*Ушчэнт разапселі яго святары:*
*дзе церні павінны насіць — носяць рогі,*
*які ж тагды Бог, калі служкі — звяры.*

Адказвае Сыс.

*

У бары "Мутнае вока" з жонкай і рэжысёрам Панамаровым адзначаем пачатак экранізацыі п'есы Купалы "Тутэйшыя". Па законах бараў, да нас за стол падсаджваюцца нязваныя госці: знаёмыя Панамарова і Сыс. Сябрук рэжысёра напіваецца так, што нічога не застаецца, як завесці яго дамоў. Дзякуй Богу, жыве ён побач, на вуліцы Янкі Купалы. Вяртаемся і бачым тузаніну ў кустах. "Гэта ж мая жонка з Сысам б'ецца!" — крычу Панамарову і кідаюся разнімаць. Сысава кашуля падраная на лахманы. "Я табе яшчэ вочы павыдзіраю!" — крычыць мая жонка на развітанне. "Чаго біліся?" — "Ён пачаў казаць на цябе розную брыду, што ты з блядзямі гуляеш. Я сказала яму заткнуцца — не затыкаўся".

*

Выпадковая сустрэча з Сысам у пыльным двары. Мінск з тыдзень пакутуе ад спёкі. “Ведаеш, пра што думаю?” — пытаецца Сыс. “Ну?” — “Добра было б мець вядро сухога белага віна. Сядзець у цяньку каля рэчкі і ціхенька цадзіць-цадзіць той вінчык… Як прапанова?” — “Не хачу. Віно, а тым больш белае, не люблю. Ды і зараз гадзіна дня. Якое віно?!”

*

На дзень нараджэння Сыса спазняюся на столькі, што гасцей не заспяваю. Закуска, выпіўка і п’яны Сыс на ложку. Выпіваю, закусваю, гавару з імяніннікам. Раптам у Сыса пачынаецца прыпадак агрэсіі. Ён выхоплівае з-пад падушкі пісталет і пачынае раўці, што застрэліць мяне. Страху не чую. Кідаюся на Толіка і выдзіраю зброю. Ён пачынае выпрошваць цацку назад. Дулю з макам. Сыходжу з пісталетам у кішэні. Пазней зброю даводзіцца вяртаць, бо пісталет не Сысаў, а расейскамоўнай паэткі. Той паэтцы і аддаю цалафанавы пакет з пісталетам. Аддаю ў бары Дома Літаратараў, а выпіць адмаўляюся. Хопіць, навыпіваўся.

*

Іду па пероне. Раптам крык: “Глобус! Глобус! Гэта я — Сыс!” Аглядаюся, на суседнім пероне махае рукамі Толік. “Я да маці на дзень нараджэння еду. У падарунак карціну вязу. Дай пяць мільёнаў на гарэлку!” Сыс саскоквае на рэйкі і бяжыць па шпалах да мяне. Грошы даю, са шкадаваннем ахвярую мільёны.

*

З кім толькі не п’е Толік?! Не пералічыш, каб і захацеў. І сам ён не пералічыць, бо не ўспомніць. Ды і каму тыя спісы патрэбны? Але аднаго разу мы трапілі ў сітуацыю, калі куплёную разам гарэлку пілі паасобку. У бары Дома Літаратараў. Някляеў, Булыка, Галубовіч сядзяць за сталом з фаварытам расейскай патрыятычнай паэзіі Юрыем Кузняцовым, які піша дзікунскія канібалістычныя радкі накшталт:

*Я пил из черепа отца…*

Толік сядае да іх, а я — за вольны столік. Не люблю камуна-фашыстаў кузняцовых. Нават праслаўленых. А Сыс любіць. П’е з імі. Зрэшты, з кім ён толькі не п’е. Нават з уласным ценем п’е.

*

Сыс прыходзіць у маё выдавецтва і выпрошвае грошы на гарэлку. З пляшкаю вяртаецца, сядае на варэльні і пачынае піць адзін. Ап’янеўшы, соваецца па кабінетах, аблайвае пісьменнікаў. Угаворы-ўшчуванні не дапамагаюць. Пляшка ляціць за вакно. Падае на асфальт, але не разбіваецца. Сыс сыходзіць. Яшчэ з гадзіну ён з нейкім бамжом сядзіць на кукішках пад выдавецкімі вокнамі і балюе. Больш я не даю Сысу грошай.

*

Сядзім, выпіваем: Федарэнка, я і Наварыч. У прайгравальніку круціцца CD “Вольныя танцы. Слухай сваё”. Камоцкая выводзіць песню пра белую лебедзь на словы Сыса. Вочы Наварыча вільгатнеюць, ён змахвае слязу. Вось яны, развеяныя ветрам спадзяванні. CD з сумнай лебеддзю дару Наварычу. На мяне песні так не ўздзейнічаюць, а тым больш, на словы Сыса. Падман. Кранаюць.

## 3. СуЧАСНІК

### 1988. Сыс і Гітлер

Тэлевізія, студыя 600 квадратных метраў, Сыс пасярод цёмнага памяшкання. Рукі ўскідвае і гарлае: “Я — беларускі Гітлер!!!” — “Сціхні, Сысяра!” — сіпіць на яго Сцяпан. “Вось выйду ў эфір, пракрычу на ўсю Беларусь: я беларускі Гітлер. Народ здурэе...” — “Ты ўжо здурэў, ідзі спі”, — Сцяпан злуецца. “Сасцалі?!” — Сыс лыбіцца. “Пайшоў прэч, align, розгарабочы, ідзі цягай свой тэлекабель...” Сыс звальвае. Мы застаемся. Мы здымаем кіно, экранізуем “Падзенне” Альбера Камю.

## 2000. Сыс і слава

Паэт Анатоль Сыс перажыў сваю непараўнальную славу найлепшага (самага энергаёмістага, паводле Акудовічавага вызначэння) беларускага паэта сучаснасці. Ягоныя заўсёды хмельныя паводзіны не даюць вярнуцца нават кавалачку былой пашаны. Я ўпэўнены ў Сысавым пасмяротным прызнанні. Але варта аддаваць належнае Анатолеву таленту пры жыцці, як ні цяжка гэта рабіць.

## 1993. Краўчанка і букет

Паэт Сыс любіў свой дзень нараджэння. Гасцей запрашалася поўная кватэра. Пілося, ялося, спявалася і паэзія чыталася. Такія вершы гучалі, што ўсім плакалася ад радасці. Артысты, журналісты, мастакі, дзівакі і міністры… Зарыфмаваўся. Прабачаюся, выбачаюся. Міністр быў адзін. Міністр замежных спраў — Пётр Краўчанка — падарыў Сысу найвялікшы з букетаў і самую ёмістую бутэльку з віскі. Не ўсё так кепска, калі міністры… Зноў, загіпербалізаваўся. Калі міністр дорыць паэту кветкі, не ўсё так кепска, як газеты пішуць і тэлевізія паказвае. Як казаў Сыс: «Надта хочацца верыць, надта хочацца верыць…»

## 2003. Сыс і сабака

Сыс працягвае піць — не навіна. Сабака цапнуў паэта за вока — не дзіва. П’яны Сыс палез да цюцькі цалавацца, а той укусіў, ды так хвацка, што вока на лоб вылезла. Цяперака паэт падобны да цыклопа. Аднавяскоўцы і браты па алкагалізаванай крыві цешацца: сабака застаўся жыць. Сыс не забіў кусачага звяругу, бо лічыць сябе вінаватым. На халеру было лезці п’янаму да сабакі з пацалункамі?! Сунуўся — і маеш чырвонае вока на лобе! Вось ён — гуманізм.

## 2003 Сыс і паэт

Толькі Сыса можна называць — паэт. Колькі я іх бачыў на сваім вяку, тых, што саманазываліся паэтамі, тых, каго іншыя абвяшчалі паэтамі. Але з гэтых тысячаў вершаскладальнікаў і рыфмаплётаў, лірнікаў і версіфікатараў, перакладальнікаў і песеннікаў, эпікаў і трагікаў толькі Анатоль — паэт. Паэт без дадатковых азначэнняў, без лішніх словаў, без допускаў і без удакладненняў. Паэт? Сыс! Усе астатнія, каго я бачыў, чуў, з кім гаварыў і ў каго вучыўся, былі паэтамі і … яшчэ кімсьці. Крапіва — сацыялсатырык. Танк — грамадзянін. Дзяргай — аскет. Вялюгін — майстар. Гілевіч — фалькларыст. Караткевіч — нацыянал-рамантык. Барадулін — блазнаваты пакутнік. Стральцоў — самотнік. Разанаў — рацыянальны містык. Галубовіч — вясковец. Мінкін — запазычальнік. Арлоў — стыліст. Бабкоў — выкладальнік. Адамовіч — правакацыяніст. Хадановіч — эрудыт. Ніхто нават не спрабаваў наблізіцца да чыстых паэтычных паводзінаў. Наадварот, усе толькі дадавалі да сваёй паэтычнасці нейкія рысы. Сыс адсякаў ад сябе ўсё непаэтычнае, разам з непаэтычным ён пазбавіўся і ўсяго чалавечага, але застаўся паэтам. Каб жа я мог параўнаць Сыса з Купалам, ці з Багдановічам, ці з Багрымам… Калі б я мог даверыцца іншым. Але ў паэзіі я нікому не веру. У паэзіі можна верыць толькі ўласнаму лірычнаму пачуццю. Таму паўтару, што ў жыцці бачыў аднаго паэта — Сыса, астатнія складалі ды складаюць вершы.

## 2004. Сыс і сорам

Ёсць людзі, побач з якімі сорамна стаяць з-за іх выгляду. У беларускай тусоўцы падобны выгляд мае Сокалаў. Нястрыжаныя валасы, кепска паголены і прыпухлы ад піва твар, на лобе стужка з колерамі нацыянальнага сцягу, разшпіляханая джынсовая куртка, неваксаваныя чаравікі. Ён такі неахайны, што складаецца ўражанне, нібыта прарэху ў ягоных нагавіцах зашпілілі не на тыя гузікі. А голас… Асіплы тэмбр Сокалава проста наждаком дзярэ. Нават калі Сярожа заводзіць сваю ўлюбёную песню: “Аксамітны летні вечар атулі-і-іў-у-у-у зямлю-ю-у-у-у…”

Дзяркатасць застаецца. З юнацтва мне хацелася, каб людзі, заангажаваныя ў беларускі рух, выглядалі прыстойна. Каб стылістыка іх адзення і паводзінаў адпавядала ўзорам нашай еўрапейскай цывілізацыі, а не нагадвала этнаграфічныя экспанаты, знойдзеныя на вясковых гарышчах. Яшчэ горш пачуваюся, калі вядомы і таленавіты чалавек апускаецца да стану п’янтосабажаволка, пачынае пускаць слязу і раўці на ўсе могілкі: “Зараз я соплі прыбяру і скажу, як я вас усіх люблю”. Анатоль Сыс яшчэ нешта крычаў, ашчаперыўшы таполю побач з магілаю Алеся Асташонка, а я сышоў. Сілаў маіх не хапае глядзець на заняпады асобаў. Анатоль апусціўся так нізка, што нават на пахаванні сябра ён блазнаваў, шальмаваў прысутных і выклікаў агіду. Здаецца, прасцей простага: скінуць рыззё, пастрыгчыся, пагаліцца і гаварыць ціха. Не. Равуць, смаркачы па твары размазваюць і плачуць салодкімі слязьмі самазакаханасці.

## 4. РАЗВІТАЛЬНЫ ВЕРШ

*Вядро віна цябе заўжды чакае.*
*Ты п’еш, бадзяешся, буяніш, п’еш,*
*А геніяльная душа твая спявае*
*За добрым вершам новы лепшы верш…*

*Здарожаны, знясілены пакутнік —*
*Ты зачыняешся ў захламлены пакой,*
*Дзе ў змроку тытунёва-каламутным*
*Бясконца п’еш любімы свой напой.*

*Кроў з горла выцякае на падлогу.*
*Кроў выцекла, змяшаная з віном.*
*Ты — чысты — выпраўляешся ў дарогу,*
*У светлы і празрысты райскі дом.*

## 5. ЛЕГЕНДЫ І ЎСПАМІНЫ

### 1993. Сыс і Бог

П'ю з паэтам Сысам. Напіваемся. "Каб зараз прыйшоў сам Бог, дык заўтра мы не ўспомнім, што Ён прыходзіў!" — кажа нехта з нас. "Успомнім, Ён — запамінальны!" — нехта некаму пярэчыць. Праз некалькі дзён пытаюся ў Сыса: "Памятаеш, мы пілі, і нехта сказаў, што, каб да нас завітаў Бог, дык мы б на раніцу пра Яго і не згадалі б?.." — "Памятаю..." — "Хто гэта сказаў?" — "Не помню". — "І я не памятаю..."

### 2005. Сыс і апантанасць

Сыс быў апантаны паэзіяй, апантанасць тая часам выглядала вар'яцтвам.

### 2005. "Камсамолка" і легенда

На радые "Свабода" была ў мяне канферэнцыя, сярод пытанняў з адказамі праскочыла і такое: "Ходзіць легенда, што Адам Глобус набыў верш у Анатоля Сыса і надрукаваў у сваёй кнізе. Алесь". Мой адказ прагучаў так: "Ніхто не паверыць у тое, што Сыс прадаў хоць бы адзін свой радок... Легенда зусім іншая...

*Музейнік Алесь прадаў мне сшытачак з невядомымі вершамі Багдановіча. Алесю не хапала грошай на кватэру на праспекце Скарыны, вось ён і прыгандлёўваў народным багаццем. Музейнік яшчэ хацеў загнаць мне інтымны дзённік Максіма Адамавіча, але я не ўзяў, бо дзённік той напісаны на паганай расейскай мове. Шкадую. Трэ' было браць... Бог з ім. Адзін верш Багдановіча я пакінуў сабе, а вось астатнія перапрадаў Толіку Сысу. Мы тады выпілі вядро армянскага каньяку і дамовіліся маўчаць да магілы. Сыс надрукаваў вершы Багдановіча як свае. Так Анатоль стаў жывым класікам беларускай паэзіі. Цяпер, калі Сыс у магіле, можна казаць праўду..."*

Праз некалькі дзён тэлефануе мне «Камсамолка» з газеты «Комсомольская правда» ды кажа: «Вы з Сысам надрукавалі вершы Багдановіча, як свае. Мы хацелі б зрабіць матэрыял з гэтай нагоды!» — «Жарт гэта быў, жарт!» — «Шкада, а то б мы зрабілі выбуховы артыкул…»
“Вось, — думаю, — розную фігню яны бачаць і чытаюць, а тое, што памёр вялікі паэт, паэт, роўны з Максімам Багдановічам, не бачаць. Зрэшты, яны не бачылі і не чулі яго, калі ён жыў з імі побач… Роспачна. Што яны бачаць наогул?”

**2005. Сыс і бісэкс**

Варта сказаць, што разнастайнастайнасць сэксуальнага жыцця Сыса абмяркоўвалася даўно, але гаварылася пра тое неяк вяла, неяк напаўголасу, няпэўна… “Ты ведаеш, Сыс — блакітны?” — неяк пад чарку спыталася ў мяне Паўліна. “Адкуль я ведаю?” — “Хіба ён да цябе не прыставаў, калі вы разам спалі?” — “Не!” — “А пра дыктара Будзевіча што скажаш?” — “У Будзевіча ёсць дачка. Калі Будзевіч напіваецца, ён пачынае вярзці лухту пра запланаваны інцэст. У Будзевіча такі чорны гумар. А Сыс кажа, што Будзевіч яму пераказвае Марселя Пруста. Мне ж слухаць Пруста ў пераказе Будзевіча ніколі не хацелася…” Акром, як з Паўлінай, гомасэксуальнасць Сыса я раней мала з кім і абмяркоўваў. А вось пасля Анатолевай смерці пайшла цэлая хваля розных размоў пра ягоную гомасэксуальнасць. Нейкі малавядомы мастачок Янка з Віцебска пачаў усім распавядаць, як Сыс у яго закахаўся, як хацеў боты яму цалаваць, як грошы дарыў… Анатоль, канечне, мог і боты цалаваць, і сабачыя пысы. Аднаго разу Сыс у рэдакцыі літаратурнага тыднёвіка чэлес паказаў, дастаў з портак і “вось вам пятак, засранцы”! Эпатажны жэст. Паэт Морысан чэлес са сцэны паказваў, а паэт Шугалей са сцэны голую дупу дэманстраваў. Стрыптыз паэтаў быў модны ў мінулым стагоддзі. Таму я не надаю асаблівай увагі слоўцам мастачка, бо на простае пытанне: “Сэкс быў?” Ён адказвае: “Не было…” Ну і тупай у дупу са сваімі зацалованымі ботамі. Бо лезуць і лезуць да геяў, нібыта ў гейскай культуры дупы мёдам намазаны, і розныя Янкелі з Янкамі не могуць прамінуць, каб

не лізнуць дупу вядомага і таленавітага творцы. Модная, бач ты іх, тэма. Сапраўды ж, пра геяў гавораць шмат. Яркіх асобаў у беларускай гей-культуры нямнога. Вось і перакрыжаваліся, вось і перасякліся асоба з тэмаю, вось і выбілася блакітная іскра. Каб тэма эксгібіцыянізму была такой жа моднай, як аднаполае каханне, дык Анатоль і тут бы даў усім фору.

**2005. Карпейчык і Сыс**

Біёлаг Карпейчык пытаецца: “Ты калі быў апошні раз у кватэры Антоля Сыса, узяў якую небудзь рэліквію, якую небудзь рэч на памяць?” — “Не. Нічога не браў...” — “Дарма, трэба было нешта ўзяць...” — “Калі табе трэба, я магу ўзяць на сваёй кухні чарку і сказаць, што з яе піў Анатоль, вось табе і рэліквія. Сапраўдная рэліквія, бо ён сапраўды з яе піў...” — “Я крышку не пра тое, крышку пра іншае...” — “Патлумач...” — “Сыс, той выпадак апантанасці і геніяльнасці, калі проста так ён не пакіне гэты свет. Ён пацягне за сабою іншых, вось паглядзіш, як ён будзе цягнуць. Таму будзь вельмі асцярожны...” Папярэджанне Карпейчыка я ўспрыняў усур’ёз. Былі падставы. Праз дзень пасля пахавання Сыса мне затэлефанаваў Язэп Янушкевіч. Ён распытваў пра хаўтуры, шкадаваў, што не змог развітацца з нашым паэтам, і расказаў пра смерць мастака Драчова. Таго самага Пятра Драчова, якога без усялякіх перабольшванняў я называў найлепшым сябрам Уладзіміра Караткевіча. Сэрца Драчова спынілася якраз тады, калі закопвалі ў зямлю Анатоля.

# САШ

## Словы пра таварыша майго, школьнага настаўніка біялогіі — Аляксандра Карпейчыка

### Вестка

Памёр мой таварыш — Карпейчык. Сумную навіну паведаміў мне праз тэлефон мастак Грышкевіч, спаслаўшыся на настаўніцу, якая працавала ў школе разам з Карпейчыкам.

### Час

Саш! Так я да яго звяртаўся. Нехта называў яго Аляксандрам Казіміравічам Карпейчыкам. Хтосьці — Карпейчыкам, Казіміравічам, Батанікам, Біёлагам, Географам, Саняй… Вучні ў школе навыдумлялі яму мянушак: Чэрап, Пятка, Фантамас… Для мяне ён — Саш. Раптам ён спыніўся, застыў, стаў у вялікім часе, пра які Магамет сказаў: “Час стаіць, вы рухаецеся!” Тромб. Інсульт. Саш знерухомеў, а мы — жывыя — плывем далей. Заўтра пайду на пахаванне Сашы, паеду ў Чыжоўку, на вуліцу Чырвонаслабадскую, у дом дзевяць, у корпус адзін, у кватэру сто восемдзесят сем. Развітанне адбудзецца а першай гадзіне дня. Развітаюся. Я толькі чуў, што мой таварыш Саш спыніўся. Заўтра… Саш! Заўтра…

**Рашэнне**

Мы — я і Саш — курым на пляцы Перамогі. Мы заўжды выкурвалі па цыгарэце перад развітаннем. Мы закурвалі, каб пастаяць і сказаць адзін аднаму самае істотнае. “Мне цяжка прымаць рашэнні…” — пачынае ён. “Ты хутка прымаеш рашэнне, хутка пачынаеш дзейнічаць. Калі ты бачыш сваю памылку, ты выпраўляеш яе і дзейнічаеш далей. А я доўга разважаю, доўга ўзважваю разнастайныя “за” і “супраць”. Рашэнне задачы адкладаецца і не прымаецца своечасова. Я пакутую праз нерашучасць…” — “Ты, Саш, асцярожны і ўраўнаважаны чалавек, а я імпульсіўны, неабачлівы… І невядома, каму з нас горш, а каму лепш”. Мы выкідаем у сметніцу загашаныя недапалкі і разыходзімся.

**Сяброўства**

“Не ўмею сябраваць. Не разумею сяброўства. Ад слова “друг” патыхае ненатуральнасцю…” — кажа Саш. А я згадваю іншую нашую размову, калі Сцяпан не падаў мне рукі. Не падаў і не падаў, мне столькі розных людзей не падавалі рукі, а потым выбачаліся і зноўку падавалі, што я перастаў пераймацца з-за нейкага аднаго няспраўджанага поціска. Саш заперажаваў замест мяне і за мяне: “Гэта ж сур’ёзная знявага. Ты яму працягнуў руку, а ён сваю руку схаваў у кішэнь. Ён цябе зняважыў!” — “Не заганяйся, Саш! Сягоння ў Сцяпана кепскі настрой, заўтра настрой зменіцца, і ён першы падасць мне руку”. — “Ты не павінен больш з ім вітацца. Ты не мусіш яму дараваць такую знявагу. Ён жа табе абавязаны за ўсё, што ў яго ёсць. Ты яго ўладкоўваў на працы. Ты даваў яму зарабіць. Ты дапамог яму купіць кватэру. Ты яму дапамагаў?” — “Дапамагаў”. — “А ён схаваў руку ў кішэнь…” — “Саш, забудзься пра дурню…” — “Не магу, не разумею… Ты можаш растлумачыць, чаму ён не падаў табе рукі?” — “Магу, але ты ўсё адно скажаш, што нас не разумееш”. — “Растлумач так, каб я зразумеў!” — “Сцяпан паспрабаваў парушыць іерархію, якая склалася ў кнігавытворчых і кнігагандлёвых структурах. Ён паспрабаваў, але ў яго нічога не атрымалася. Ён раззлаваўся на мяне і на сябе. Праз пэўны час ён асэнсуе памылкі, і нашы

ўзаемаадносіны выправяцца…” Узаемаадносіны нашыя і сапраўды выправіліся, але Саш нас так і не зразумеў. Я з Сашам і сапраўды, калі быць дакладным у словах, не сябраваў і не дружыў, мы былі таварышамі.

**Дысцыпліна**

“Саш, раскажы, як настаўнік настаўніку, пра дысцыпліну ў класе. Рознае ж здараецца. Як ты супакойваеш вучняў?” — “У мяне ў кабінеце біялогіі ёсць акварыум. Калі ўсчынаецца шум, я падыходжу да акварыума. Паварочваюся да класа спінаю. Насыпаю рыбам корм. Стаю. Доўга стаю. Стаю так, пакуль клас не суцішыцца. Клас замірае. Здаецца, што нават чуваць, як акварыумныя рыбкі ядуць корм...” — “Жорсткі прыём”. — “Ты разумеш, што прыём жорсткі. Яны ж не здагадваюцца, наколькі гэта жосткі прыём. Ты спытаў, я адказаў”.

**Горад**

Саш любіў Мінск. Я не ведаў чалавека, які б любіў Мінск больш за яго. Ён любаваўся Мінскам, ведаў, якой парою і куды трэба пайсці, каб налюбавацца сваім горадам напоўніцу. Ён ведаў, калі ў Мінску закрасуе першы белы бэз ці першая ліпа. Ведаў, з якой кропкі трэба паглядзець на Дом афіцэраў, каб раскрылася ўся манументальная веліч гэтага даволі змрочнага, на мой розум, будынка. Ведаў, у які летні вечар лепей палюбавацца выспаю на Свіслачы. Ён паказваў мне свой Мінск і прапаноўваў: намалюй такі краявід ці напішы апавяданне пра гэткае месца. Нешта-нейкае з прапанаванага Сашам я маляваў і апісваў. Ягоны падказкі заўжды былі (Я ўсё ніяк не магу прызвычаіцца да гэтага “былі”…) і цікавымі, і нечаканымі. Як жа я мог раней не заўважаць светланоснасці нашага Опернага тэатра? Як я мог не пацікавіцца паганскімі камянямі? Свае здзіўленні я спрабаваў напісаць і намаляваць. Саш абураўся: “Ты ўсё сапсаваў! Узяў і сапсаваў!” Я бараніўся: “Сам пішы і сам малюй!” — “Я — настаўнік, а не літаратар…” Нашы сваркі часам былі жорсткія,

мы лаяліся адзін на другога мацюкамі. Нас ніхто не чуў! Нашы праўдзівыя ўзаемаадносіны былі таемнымі і таямнічымі. У вялікіх кумпаніях мы не закраналі важных тэмаў. У кумпаніях мы з ім гаварылі пра нашых людзей, пра наш горад, пра наш Мінск.

## Адсутнасць пярэдняга зуба

Тыповае абагульняе людзей, а характэрнае іх адасоблівае. Мяне цікавяць характары, бо яны здзіўляюць, яны вылучаюцца, яны запамінаюцца. Дзякуючы характарам адбываюцца рухі, змены, ператварэнні. Характары невыгодныя грамадству. Грамадства самазадавальняецца тыповым, стабільным, абагульненым. Грамадству патрэбна жалезная плынь тыповага, а не зыркае полымя харызматычнай асобы. Грамадству патрабуюцца пасады, прызначэнні, агульныя адзнакі. Вылучанасць яскравага характару асуджаецца грамадствам. Каб зацяніць характар, грамадства ідзе на падробку, падмяняе характар артыстычна выкананай лялькай. Выкарыстоўваючы кіно і тэлебачанне, грамадства стварае тып, не вобраз, а менавіта тып. Прыклад: яно фінансуе кіно пра настаўніка. Замест сапраўднага настаўніка з характэрнай і запамінальнай знешнасцю на мільёнах экранаў з'яўляецца саладжавы тварок актора, які робіць выгляд, што ён добры, разумны і запатрабаваны настаўнік. Слабадушныя супрацоўнікі навучальных установ пачынаюць пераймаць манеры актора. Сапраўднаму настаўніку вельмі цяжка працаваць ва ўмовах такой вялікай хлусні. Але ў сапраўднага настаўніка ёсць характар. Я добра ведаў настаўніка Карпейчыка, у якога выпаў пярэдні зуб і які свядома выкарыстаў гэткую брыдкую на першы погляд дэталь знешнасці, каб падкрэсліць сваю адметнасць і запамінальнасць. Я лічыў, што адсутнасць пярэдняга зуба ў школьнага настаўніка — занадта выразная дэталь, што гэта — гратэскны перабор выразнасці. Таму ў маім кашальку ляжала візітоўка стаматалагічнай палiклінікі, якую я збіраўся аддаць Карпейчыку з абяцаннем аплаціць паслугі дантыста. Ці прыняў бы ён такі падарунак? Пасля сыходу Карпейчыка пытанне застаецца без адказу. Я збіраўся настойваць на падарунку, як ён настойваў на тым, каб я прыняў кнігі лірыкі з ягонай бібліятэ-

кі. Я падарунак прыняў, больш за тое, зрабіў спіс кніжак, якіх у мяне не хапае ў падоранай серыі. Той спіс я паклаў у кашалёк побач з візітоўкаю дантыста, бо Саша Карпейчык абяцаўся прынесці кнігі па гэтым спісе. Спіс кароткі: дэ Камоэнс, Цютчаў, Нэзвал, Петэфі, Украінка. Сягоння я дастаў са свайго кашалька візітоўку дантыста, бо Саша адасобіўся ад мяне назаўжды, пакінуўшы адно ўспаміны пра свой адметны характар.

**Змрочнасць**

Апошнія месяцы, нават гады ў Сашы быў змрочны настрой. Таму мяне не здзівіў пераказ камерсанта Алега ягонай апошняй гутаркі з Сашам… “З’ездзіў на могілкі да бацькоў. Пастаяў над магіламі таты і мамы. Там так ціха і добра, што мне ажно захацелася легчы на зямлю…” — гэта апошняе, што Алег пачуў у кавярні “Акварыум” ад Сашы за некалькі дзён да ягонай смерці.

**Чытанне**

Ён быў чытачом. Уважлівым, памятлівым, дасціпным чытачом. Я не сустракаў чалавека, які б прачытаў больш за Саша. Ад мяне ён увесь час нечага патрабаваў як чытач. «Напішы пра мінскія вуліцы!» — «Я не люблю назвы мінскіх вуліц. Уласна вуліцу, можа, і люблю, а назоў у яе, на мой густ, антыпаэтычны... Як пра яе напісаць?» — «Напішы кнігу мінскіх апавяданняў! Напішы пра наш горад». Ён прачытвае некалькі часопісных публікацый і кажа: «Кепска! Вось у Бабеля «Адэскія апавяданні» атрымаліся, а ў цябе пра Мінск не атрымліваецца...» Мы сварымся, потым мірымся. Дакладней кажучы: мы робім выгляд, што сварымся, і робім выгляд, што мірымся. У нас нармальныя ўзаемаадносіны чытача і літаратара. Ён кажа, што я не Дзёблін, а я і сам ведаю, што я не Дзёблін і раман «Аляксандр пляц» пісаць не збіраюся. Раней ён чытаў кнігі, апошнім часам чытаў газеты і часопісы. А ў адну з астатніх нашых сустрэч ён раптам спахмурнеў і сказаў: «Я ўсё жыццё чытаў. Я прачытаў безліч усяго ўсялякага, а цяпер стаю і думаю, што я дарма гэта рабіў, я дарэмна змарнаваў про-

цьму часу на чытанне!» Я не паверыў, што Саша Карпейчык зможа адмовіцца ад свайго найулюбёнейшага занятку — чытання. Ён адмовіўся. Я страціў аднаго з найлепшых сваіх чытачоў. Дзіўна, што ён паспеў пры жыцці мне пра гэта сказаць. Мы стаялі на беразе Свіслачы, і ён сказаў, што больш не будзе чытаць.

**Танцы**

За келіхам каньяку ў кавярні “Акварыум” матэматык Пятраеў распавёў мне пра тое, што ў дзяцінстве Саша Карпейчык займаўся бальнымі танцамі ў палацы школьнікаў. Ён займаўся танцамі якраз у той час, калі я ў тым жа ж палацы вучыўся маляваць і скакаць на батуце. Мяне гэты факт біяграфіі Карпейчыка зацікавіў, бо слаба верылася ў тое, што такі чалавек, як Саш, мог танцаваць у белай саколцы і кароткіх майтках. Я добра памятаў тых танцораў, сваіх раўналеткаў. Яны ўсе былі вытанчаныя пазявоцку. Выглядалі яны легкаважнымі і легкадумнымі ў сваіх мякенькіх чэшках на падэшве з ласінай скуры. Саш, якога ведаў я, заўжды глядзеўся падкрэслена мужна. Я папрасіў Саша патлумачыць мне такую метамарфозу. Як хлопец з заводскай ускраіны, пацан з пралетарскай сям’і мог патрапіць у ружавасценную залю для бальных танцаў? “Мама вельмі хацела, каб я хадзіў у палац і танцаваў. Яна прывезла мяне ў цэнтр, завяла ў палац і запісала на бальныя танцы. Купіла чэшкі, саколку і чорныя майткі. Маму не хацелася расчароўваць. Я схадзіў пару разоў на заняткі танцамі, каб пераканацца, што ўсё гэта мне страшэнна не падабаецца. Мне там было гідка. Я пачаў ілгаць — казаў маме, што хаджу ў палац, а сам гуляў у горадзе. Мусіць, тады я і палюбіў Мінск, ягоныя вуліцы, ягоны дождж, рэчку Свіслач пад даждждом, цемнаватыя кніжныя крамы…” Гэта я зразумеў, бо сам з дзяцінства прагульваў заняткі ў школе і басцяўся па Мінску. А вось тое, што Саш ні разу ў жыцці не ўзяў у паліклініцы бюлетэнь і за дваццаць два гады працы школьным настаўнікам не прапусціў ніводнага ўрока, я зразумець не змог.

## Пахаванне

Каб не Юра Хацкевіч, я б і не развітаўся з Сашам. Юра сказаў, што трэба ехаць раней, не ў гадзіну, калі прыйдуць усе, а зранку, каб без мітусні сказаць апошнія словы да Сашы. Машына была Хацкевічава, таму спрачацца не выпадала. У Чыжоўцы мы заблукалі. Разы тры пыталіся дарогі. Нарэшце, мы заехалі ў двор поўны школьнікаў з кветкамі. Людзей было шмат. Знаёмы настаўнік сказаў, што труну вынесуць не ў гадзіну, як планавалі раней, а ў адзінаццаць. Было халодна і змрочна. Стаяць пад сіберным ветрам рабілася небяспечна. Асабліва гняло тое, што і дзеці стаяць без шапак. З пад'езднай цемры выплыў праваслаўны крыж, за ім неслі века труны, абабітае цёмна-вішнёвай тканінаю. Не ведаю, як хто, а я да апошняга імгнення ўсё не верыў, што Саш наш памёр. Не верыў, ажно пакуль не пабачыў труну. Нябожчык быў прыбраны ў чорны гарнітур. На шыю яму павязалі гальштук… Саш так не любіў гальштукі! Ён іх прынцыпова не купляў і не насіў. А тут сіні гальштук! Недарэчнасць! Я глядзеў на гальштук, каб не глядзець на бяскроўны твар. Дактары рабілі ўскрыццё чэрапа, таму на галаве нябожчыка застаўся вялікі неахайны шнар. Таму і твар моцна змяніўся, але гэта быў усё яшчэ Саша Карпейчык. Труна паставілася на табурэткі, каб мы змаглі развітацца. Я падыйшоў, нахіліўся і сказаў: “Бывай. Бывай, Саш…” Класці кветкі ў труну не стаў, бо людзей было так многа, і кветак было так шмат, што класці іх у труну было не варта. Дырэктар школы спытаўся, ці паеду я на могілкі і ці скажу там слова. Я прызнаўся, што сіл ехаць на могілкі ў мяне няма, а словы я напішу. Настаўніца Люда папрасіла мяне напісаць пра таварыша добра. Я аддаў ёй кветкі, каб паклала пад крыж.

## Чыстая бялізна

Здаралася, што я не бачыўся з Сашам па некалькі тыдняў. Ці то я некуды з'язджаў, ці ў школе пачыналіся канікулы, і тады настаўнік Саш выпраўляўся ў вандроўку. Аднойчы ён патлумачыў сваю тыднёвую адсутнасць у цэнтры горада тым, што пахаваў бацьку. Я выказаў спачуванні. Саш замовіў гарэлкі, выпіў і спытаў:

“Ён будзе да мяне прыходзіць?” — “Напэўна”. — “І як мне з ім сябе паводзіць? Можаш не адказваць, але я спытаю. Як ты сябе паводзіш, калі бачыш нябожчыка тату?” — “Паводжу сябе так, нібыта ён жывы. Калі ён паводзіць сябе, як жывы, дык і я раблю выгляд, што ён жывы”. — “Мне страшна! А табе? Хіба табе не страшна?” — “Горш, калі з’яўляецца чужы нябожчык. Тата — свой”. Гэтая даўняя размова ўсплыла ў памяці, калі мне сказалі, што Саш, перасцілаючы свой ложак, перасцілаў чыстай бялізнай і ложкі бацькоў нябожчыкаў.

**Прысутнасць з адсутнасцю**

Ён памёр, і яго стала многа для мяне. Здавалася б… Здаецца, што ён стаіць на гастраномным ганку і курыць моцную цыгарэту. Адварочваюся і бачу, як ён у сваім плашчыку спускаецца ў падземны пераход. Я сустракаю яго ў букіністычных крамах, у кавярнях, у тэатральных фае, у музейных калідорах… Самае цяжкае — бачыць яго ў сябе дома, ён стаіць каля кніжнай шафы і кажа: “Тут няма выпадковых кніжак”. — “Можаш узяць сабе любую кнігу. Можаш выбраць і ўзяць. Саш, вазьмі кнігу. Любую…” Ён не адказвае. Калі Саш апошні раз заходзіў да мяне ў госці, ён так і стаяў каля кніжнай шафы, так і адмаўляўся ад кніжкі. Тады ён адмовіўся і ад вячэры. Я еў, а ён сядзеў за сталом і маўчаў. Нават ад гарэлкі ён адмовіўся. Пагадзіўся выпіць кубак гарбаты. Адпіў адзін глыток, дзеля прыстойнасці. Я запрасіў Саша ў госці, бо Алег сказаў, што з Сашам творыцца нешта кепскае, ён не хоча ісці дамоў, не хоча есці, не хоча піць. Раней мы пілі, мы прыходзілі да мяне і пілі абсент. Свядомасць мянялася, лямпачкі ператвараліся ў бенгальскія агні. Мы весяліліся, знаходзілі дзявуль і весяліліся да самай раніцы. Мы адвесяліліся? Мне хацелася спытаць у Саша. Не спытаў, бо ведаў ягоны адказ. Апошнія месяцы ў маёй рэальнасці было зусім мала Саша. Смерць змяняе ўсё! Любіў гаварыць Саш. Яна змяніла… Цяпер яго многа. І гэта, канечне, зменіцца. Але зараз яго шмат, усё яшчэ шмат. Мне трэба схадзіць у царкву. Ёсць моманты, калі нават такому анархісту, як я, трэба пастаяць у царве адну хвіліну.

## Рамантыка

У ім праяўлялася рамантычная жудасць жыцця. Ён быў захоплены лірыкаю апантаных і праклятых паэтаў. У найпростых рэчых ён, часам, вышукваў містыку — сувязі ўсяго з усім. Аднойчы, убачыўшы мяне з жанчынаю, праз дзень ён пачаў нагаворваць на яе: “Вядзьмарка! Кажу табе: яна — вульгарная вядзьмарка! Прылепіцца да цябе і будзе высмоктваць па кропельцы твой талент. Будзе ілгаць, будзе лашчыцца і хлусіць, будзе замінаць табе сур’ёзна працаваць! Пабачыш, яна будзе шкодзіць. Пачне лезці ў тваю літаратуру. Што ты з ёй тады зробіш?” — “Заступлю за рысу! Накрэслю рыску на пяску і пераступлю праз яе. Зраблю адзін крок, павярнуся і вытру рысу. Яна не будзе ведаць пра рысу. Не здагадаецца, дзе і калі я адмежаваўся ад яе. І месца тое ніколі не знойдзе, каб пераскочыць рысу і зноўку апынуцца поруч са мной!” — “Ты не баішся займацца такімі рэчамі?” — “А ты?” — “Баюся!” — “А я не баюся!” — “Жартуеш?” Тады было прасцей, тады я выпіваў. Можна было замест адказу напоўніць чаркі і глынуць гарэлкі. Алкаголь дае права не адказваць на жудасныя пытанні.

## Воцат

Ёсць аматары лічыць калорыі ў харчах. Таму на паліцах кнігарняў вышнураваліся томікі з назваю “Лічыльнік калорый”. Можаш набыць папяровы “лічыльнік” і даведацца пра колькасць калорыяў у сваім сняданку. Забаўка як забаўка, гульня як гульня, прынамсі, да таго моманту, пакуль яна не ператвараецца ў абсурд. Калі навукоўцы паспрабавалі вылічыць адзін-адзіны прадукт харчавання, каларыйнасці якога хапіла б чалавеку на год, у іх атрымалася прыбліза семдзесят літраў воцату. Пасля такога навуковага адкрыцця можна з лёгкім сэрцам закрыць тэму каларыйнасці. Я так і зрабіў, пасмяяўшыся, бо звесці свой кулінарны рацыён да аднаго воцату не захацеў, зразумела. Але тэма воцату выплыла зноўку, калі я пабачыў, як Саш прынюхваецца да кнігі ў букіністычнай краме. “Не пахне!” — сказаў ён і вярнуў кнігу на паліцу. “Чым яна павінна была пахнуць?” —

“Воцатам!” — “Чаму?” — “У Мінску ёсць калекцыянер, які збірае кнігі пра д’ябла. Асобнікі з ягонай бібіятэкі пахнуць воцатам...” Такая дэталь мяне зацікавіла, я спытаў у Саша пра імя калекцыянера, але ён не захацеў раскрываць таямніцы. Калекцыянеры — людзі скрытныя. Настойваць не мела сэнсу. Захоча сказаць — скажа, не захоча — застанецца з таямніцаю сам-насам. Зразумела, што збіральнікі кніжак імкнуцца зрабіць сваю калекцыю непаўторнай і адметнай. Раней ці пазней, яны прыходзяць да высновы, што самыя рэдкія, а таму і самыя каштоўныя выданні знітаваны з д’яблам, бо кніжкі пра яго вынішчаліся ва ўсе часы, ва ўсіх дзяржавах і пры ўсіх уладах. Выхваляцца кнігазборам пра д’ябла разумны чалавек не стане, а нават выпадкова прагаварыўшыся пра сваё захапленне, пастараецца адрачыся ад уласных словаў. Таму і Саш праз некалькі месяцаў спакойна сказаў мне, што пра кнігі з пахам воцату ён мне нічога не гаварыў. Маўляў, я выдумляю абы-што, начытаўшыся Пшыбышэўскага. Сапраўды, я чытаў “Сінагогу сатаны” Станіслава Пшыбышэўскага, перакладзеную з нямецкай мовы на расейскую Кайранскім. Чытаў, бо менавіта яе і абнюхваў Саш перад тым, як параіць мне набыць і прачытаць кнігу. Чытаючы Пшыбышэўскага, я падумаў, што кнігі пра д’ябла і мусяць пахнуць воцатам, бо кнігі пра Хрыста павінны пахнуць віном.

**Стаўленні**

“Смерць змяняе ўсё!” — любіў паўтараць Саш. Ягоная смерць змяніла стаўленне да яго асобы. Адны паставіліся да яе, як да вялікай страты, іншыя не сталі перажываць. Здавалася б, знаёмыя, з кім Саш сядзеў за адным сталом, з кім ён размаўляў пра смак свежых шакаладных цукерак і жартаваў пра водар брэндзі, бутэляванага ў Бабруйску, з кім гутарыў на патаемныя тэмы сУчаснай палітыкі, мусілі замаркоціцца. Мусілі, але я пачуў іншае...
Культуролаг Х-р, разглядаючы дыяментавае пабліскванне гарэлкі ў стограмовай чарцы, сказаў так: “Я хацеў, каб ён здох! Ён здох! Утварылася пустата. Думалася, калі ён здохне, мне стане лягчэй, а лягчэй не стала!”

Антыквар Я-н, сёрбнуўшы кавы з вяршкамі, прагаварыў: “Ён памёр ад незапатрабаванасці. Ён пакутаваў ад свайго розуму. У грамадстве ён займаў не сваё месца. З ягоным інтэлектам ён павінен быў займаць высокую пасаду, а ён кожную раніцу ўставаў і ехаў у простую школу. Памятаеш нашую апошнюю размову з ім? Ён тады і пытаўся пра запатрабаванасць. І толькі ты сказаў, што цалкам запатрабаваны, усе астатнія былі незадаволеныя сваім месцам у жыцці. Незапатрабаванасць — прычына ягонай смерці!”
Будаўнік Ю-а, надкусіўшы піrожнае “Ласунак”, паспрабаваў мяне суцешыць: “Не перажывай. Ён ставіўся да цябе не так добра, як ты думаеш. За апошні месяц ён усім, каго бачыў, казаў, што ты пішаш дрэнь. Не пераймайся. Канечне, ягоная смерць у нейкай ступені — нечаканасць, бо ён ведаў сябе да малекулы. Ён вылічваў, што і калі трэба есці, як і колькі трэба піць. Сёння ён мог дазволіць толькі сто грамаў вермуту, бо Сірыус заняў нейкае там месца, а заўтра можна і каньяку папіць. Такое веданне самога сябе, напэўна, шкоднае. Бо яно перайшло ў расчараванне сабою і абыякавасць да жыцця. Змрочнасць ахапіла Карпейчыка пасля смерці ягонага таварыша Кастуся Канановіча. Сашка зрабіўся палахлівы, нашатораны, загаворваў пра Калі-югу, пра заняпад маральнасці, пра эпоху цемры, пра тое, што Канановіча прыбралі… Трызненне! А ты не перажывай…”
Паліграфіст А-г, гледзячы на няспынную плынь мінакоў на праспекце, сказаў: “Я вачыма шукаю ў натоўпе ягоную кепку. Усё яшчэ шукаю ягоную кепку. Заходжу ў кавярню і шукаю вачыма ягоную лысіну. Я ніколі не задумваўся, а хто ён для мяне. Мы былі сябрамі, напэўна, мы былі сябрамі… Усё! Трэба пачынаць яго забываць. Яго тут больш не будзе, ніколі. Трэба забыць”.
Лодачнік К-р, зазірнуўшы мне ў вочы, прамовіў: “Навіною пра смерць Карпейчыка ты сапсаваў мне раніцу. Не! Ты сапсаваў мне панядзелак. Не! Ты сапсаваў мне ўвесь тыдзень!”
Банкір В-я быў нечакана шматслоўным: “Жыццё — дрэнь! Што такое сорак дзевяць гадоў для чалавека? Імгненне. Сашка пражыў адно імгненне. Нам дадзена адно імгненне. Мы толькі паспяваем пакаштаваць гэтае жыццё. Пакаштаваў? І давай, і ідзі ў зямлю! Дрэнь — нашае жыццё. А калі яно — дрэнь, дык якога чорта я буду за яго перажываць? Нашто перажываць, калі

заўтра ўсё адно ў зямлю? Нават калі б нам з табою далі не сорак дзевяць, як Карпейчыку, а дзвесце гадоў? Што б змянілася? Нічога! Пакаштаваў салодкага, ням-ням-ням і няма цябе. Таму я зараз куплю кветак, сустрэнуся з жанчынай, схаджу з ёй у рэстаранчык. Калі ўсё складзецца добра, дык я з ёй і прачнуся ў сваім ложку".
Дальнабойшчык В-ра выцер слязу, што выкацілася з пачырванелага вока, і спытаў у мяне: "Грошы на пахаванне збіралі?" — "Не ведаю". — "Хто Сашку хавае?" — "Мусіць, школа. А можа, брат... Пэўна, брат".

## Саш і крымінальнае апавяданне

Даўно збіраўся напісаць тузін дэтэктыўных навел пра Беларусь. У нашай літаратуры не хапала прыватнага дэтэктыва, які б жыў у Мінску на Пляцы Перамогі, які б меў кабінет у вежы над хлебнай крамаю «Каравай», які б знаходзіў і караў злачынцаў не таму, што яму плоцяць за гэта грошы, а з-за свайго прыроднага паклікання змагацца са злом. Шматкроць я абмяркоўваў гэтую сваю ідэю з сябрамі, у тым ліку гаварыў пра яе і з Сашам. На ўзроўні ідэі яму падабаўся такі праект. Мы са Сцяпанам распачалі працу. Мы напісалі шэсць навел, прыдумалі сабе новы псеўданім і разнеслі творы па рэдакцыях. Першая сварка з Сашам адбылася з-за псеўданіма. Яму не спадабаўся наш «Раман Бортнік». «Пад такім псеўданімам можна друкаваць яўрэйскія показкі, а не апавяданні пра Мінск!» — здзекліва кідаў Саш. «Каб вы чыталі працы пра паходжанне яўрэйскіх прозвішчаў у Беларусі, вы б ніколі не паставілі пад сваімі творамі прозвішча Бортнік!» Мы адно пасміхаліся з ягонай зацятасці і агрэсіі. «Я на вас спадзяюся, а вы творыце абы-што!» Выказванні ў наш бок рабіліся ўсё больш нахабнымі і абразлівымі. Мы вырашылі адказаць Аляксандру Казіміравічу Карпейчыку. Мы ўзялі здарэнне, пра якое нам распавёў у кавярні «Акварыум» Алег, і напісалі крымінальнае апавяданне, дзе ахвяраю быў настаўнік біялогіі Казімір. Вось гэтае апавяданне:

*Раман Бортнік*

*Сатана на Кальварыйскіх могілках*

*Крымінальнае апавяданне*

*Стральцоў еў падсоленую смятану з чорным хлебам.*
*Сняданак ён гатаваў сам. Аўсяная каша, зваранае яйка, смятана, хлеб і кубак гарбаты з долькаю цытрыны штораніцы ўпрыгожвалі халасцяцкі стол. Снедаў Глеб а шостай, пасля пятнаццаціхвіліннай прабежкі і кантрастнага душа.*
*Стральцоў мыў посуд, калі яму патэлефанаваў брат: “Глеб, такога наш Мінск яшчэ не бачыў. Мы, канечне, знойдзем звяругу, але я хацеў бы табе паказаць труп. Пад’едзь на Кальварыю, зірні на месца злачынства. Машыну я выслаў… Я б цябе не торгаў, але гэта ж наш раён, усе свае, а тут, ты ўбачыш, натуральны сатана на могілках лютаваў… Прыедзеш, жахнешся!”*
*Мажны следчы сустрэў Глеба каля могілкавай брамы: “Ваш брат загадаў паказаць вам труп…”*
*Фатограф-крыміналіст здымаў касцёльную сцяну з намаляванымі крывёю зоркамі і крыжамі.*
*Следчы правёў Стральцова да паўразбуранай капліцы: “Папярэджваю, відовішча для моцных духам!” Следчы акуратна зняў з трупа чорную цырату. Забіты ляжаў на спіне, у лужыне загуслай крыві. Успораты жывот, бэзавыя вантробы, рассечаная грудная клетка, цукрова-белыя рэбры, перарэзанае горла… Адпрасаваныя чорныя штаны, прыстойныя чаравікі… “Хто гэта? Ужо вядома?” — “Настаўнік біялогіі з шаснаццатай школы…” — “Сапега? Бачу — твар быццам і знаёмы… Хто ж гэта яго так вытрыбушыў?” — “Дзікунства суцэльнае! Паглядзіце — у яго сэрца няма! Выдраў сэрца нейкі нелюдзь! Страўнік і ныркі пакінуў. Якія трэба нервы мець, каб такое ўтварыць і не звар’яцець. Ён яшчэ і зоркі крывёю панамалёўваў на касцёле! Сектанты, сатаністы, садысты, адным словам — звяры. Гэта ўсё з інтэрнэту паўзе. Панаглядзяцца фільмаў і сайтаў, а потым вось такое вырабляюць са сваімі ж настаўнікамі!” — “Вы тут сваім займайцеся, а я пакуль абыду могілкі, па раёне прайдуся, дзяцінства школьнае ўспомню…”*

*За спінаю Глеба зашархацела цырата: следчы накрываў апаганены труп настаўніка. Стральцоў абыйшоў капліцу, прыпыніўся пад касцёльнай сцяной і накіраваўся да дамка, дзе мусіў быць вартаўнік.*
*“Я ўжо ўсё ўсім расказаў тры разы! Нічога не бачыў, нічога не чуў, сабака не брахаў…” — “Ён у вас наогул брэша?” — Глеб пагладзіў старую аўчарку па вялікай галаве. “Бывае гыркне, калі хто пабудзіць-спалохае! Увечары ўсё было ціха і спакойна. Касцёл зачынілі, я абышоў усе брамы і весніцы, праверыў замкі і лёг спаць! Раніцай я раблю абход без сабакі… Спачтку ўбачыў, што зноў наш касцёл запэцкалі, а потым і труп побач з капліцай знайшоўся. Міліцыя адразу паналяцела, як чакалі…”*
*Стральцоў рушыў уздоўж плота. Непадалёк ад вуглавых весніцаў, у прымятай траве ляжалі чорныя акуляры. На адным са шкельцаў зіхцела залатая налепка ў выглядзе пяцікανцовай зоркі.*
*Ад Кальварыі Глеб праз падземны пераход падаўся да Макдональдса. Каля службовых дзвярэй ён знайшоў дзвюх дзяўчат, якія палілі тонкія цыгарэты. “Добрай раніцы!” — павітаўся Стральцоў. “Вы таксама з міліцыі? Што там на могілках? Згвалтавалі каго?” — “Можна і так сказаць… Вы тут усю ноч былі?” — “Былі!” — “Нічога не чулі і не бачылі?” — “А што мы павінны былі ўбачыць?” Глеб паказаў акуляры з зоркай: “Не вашы?” — “Гэта ж мужчынскія…” — “Ваша праўда! Яны нават для мяне зашырокія…” — “Рыта, гэта ж новыя акуляры Качана!” — “І дзе мне знайсці вашага Качана?” — “Які ён наш? Круціўся тут учора… Ён тут пасля адзінаццаці вінам і гарэлкай прыгандлёўвае. У іх тут цэлая банда, адны цыгарэтамі гандлююць, другія — гарэлкай. І прастытутак тут поўна. Зараз раніца, усё ціха і спайна, а ноччу жыццё кіпіць. Як яны нас задралі, на двор не выйдзеш, каб перакурыць…” — “А што міліцыя?” — “Нічога! Кажуць, што яны грашыма дзеляцца, і кіруе гэтай дзяльбою мяснік з гастранома. Толькі вы на нас не спасылайцеся. Мы вам пра Валеру-мясніка нічога не казалі. І Качана мы не ведаем…” — дзяўчаты схаваліся за дзвярыма.*
*Стральцоў прыйшоў у гастраном, што месціўся на першым паверсе высокага цаглянага дома. У касіркі ён спытаў пра мясніка Валеру. Тая паказала на дзверы, ababітыя шэрай бляхай.*

*Мядзведзекаваты мужчына ў скураной кепцы, павернутай брылём да спіны, сек свіную галаву. “Здароў, Валера!” Мяснік увагнаў у калодку лязо цяжкой сякеры, валасатай рукою выцер узмакрэлы лоб: “Мастак? Ты? Сто гадоў цябе на раёне не бачыў, толькі ў тэлевізары. Ты патрыярху маскоўскаму алтар у Полацку паказваў...” — “Было такое...” — “Мяса трэба? Колькі?” — “Не, я тут па іншай справе. У нас на раёне звяруга завялася. Казіміра, настаўніка ведаеш?” — “Акуратны п’яніца, ведаю... П’е толькі ўвечары, жыве адзін, у нас яго паважаюць”. — “Паважалі! Няма больш Казіміра. Ноччу на Кальварыі забілі...” — “Хто? У каго на святога чалавека рука паднялася? Будзеш?” — Валера выцягнуў з вялізнай лядоўні бутэльку гарэлкі. “Не, і ты пачакай...” — “За Казіміра трэба махануць!” — “Маханём!” — Глеб паклаў на цынкавы стол знойдзеныя каля могілак акуляры. “Ты гэтыя акуляры бачыў?” — “Ты як сабе хочаш, а я сваю дозу прыму. Сто грам зраніцы мне не пашкодзяць...” Мяснік адхапіў кавалак свінога вуха, тыцнуў у паўлітровы слоік з шэрай соллю і захрумсцеў, нібыта капусным лістом. “Акуляры Качана! Выхваляўся, што знайшоў...” — “Ты даўно Качана бачыў?” — “Глеб, давай без балды. Ты мне скажаш, што адбылося, а я чым змагу дапамагу...” — “Уночы на Кальварыі нехта раздзелаў Казіміра так, як ты гэтага кабана. Жывот і грудзі развалілі. Вантробы падаставалі. Крывёю зоркі на касцёле панамалёўвалі...” — “Каюк раёну. Калі такое творыцца, трэба падлу знайсці, скуру злупіць і жыўцом закапаць!” — “Акуляры я знайшоў каля веснічак, з боку Макдональдса. Атрымліваецца, што Качан там быў...” — “Бляха муха! А я думаю, дзе сякерка падзелася? Мне яе на замову на радыятарным заводзе Чмель зрабіў. Я яму мяса на вяселле, ён мне сякерку... Быў учора ў мяне Качан! Казаў, што хутка разбагацее... Як з Казіміра разбагацець можна? Сякерку ён звалок...” — “Дзе хата Качана?” — “Зараз, здыму фартух, закіну паддоны на зал і пойдзем...”*

*Мяснік і рэстаўратар ішлі па Бірузовай: “Ты так у гумовых ботах па раёну і ходзіш...” — “Не на вяселле ідзём. У мяне дома шэсць касцюмаў у шафе вісіць! А надзець няма куды... Глеб, а ты мяса ясі?” — “Ем!” — “Нешта па табе не відаць! Ты худы, як вегетарыянец...”*

*Мужчыны завярнулі ў двор шэрага пяціпавярховіка. Зайшлі ў першы пад'езд і ўзняліся на апошні паверх. "Пяты паверх, у вакно не выскачыш!" — мяснік садануў нагою ў дзверы так, што тыя з трэскам расхінуліся. "Качан! Ты дзе?" — "Тут я, Валера. Якога ражна ты дзверы вынес? А гэта яшчэ хто такі?" — Качан стаяў у адных трусах побач з ваннай. У бруднай вадзе плавала адзежа і абутак. "Дзе мая сякера?" — мяснік сціснуў кулакі. "Там, на кухні, пад лядоўняй ляжыць. Я б сягоння табе яе сам прынёс… Валера, я сабе матацыкл куплю, астатнія грошы твае. Думаеш, мы б з табой не падзяліліся? Я Шылу папярэдзіў — палова нам палова мясніку!" — "А Шыла дзе?" — прасычэў, наліваючыся чырванню, Валера. "Яму кепска было, усю ноч рыгаў… Яму паветра не хапала. На балконе лёг!"*
*Мяснік ударыў Качана ў жывот. Той скурчыўся. Другі ўдар паваліў маладзёна на падлогу. Трэці забраў свядомасць.*
*Ударам нагі пад рэбры Глеб Стральцоў ускінуў Шылу: "Ты настаўніка пасек?" — "Качан, Качан яго забіваў! І сэрца Качан выдраў! Казаў, прададзім орган і заробім на матацыкл і скураныя курткі!"*
*Глеб прайшоў на кухню і адчыніў лядоўню. На шкляной паліцы стаяў літровы слоік з чалавечым сэрцам.*

Апавяданне надрукавалі ў БС. Саш пакрыўдзіўся. Ён прылюдна пытаўся ў мяне: «У цябе грошы скончыліся? Не? Тады якога чорта ты пішаш дрэнь? І чаму дзяржаўная газета такую дрэнь друкуе? Мы ў школе стварылі музей. Прыйдзі да нас у школу і напішы пра наш музей. Напішы пра светлае і чыстае, напішы пра добрае...» Саш пачынаў сварку, а я адказваў. Наша сварка нечакана памяняла памер, бо ў рэдакцыю і розныя іншыя інстанцыі пасыпаліся лісты абураных чытачоў і чытачак. "Ну што, прыкрылі ваш крымінальны праект?" — саркастычна пытаў Саш. "Прыпынілі. Часова. Хваля неадэкватну спадзе, і мы яго адновім…" Мае спадзевы на хуткае прымірэнне з Сашам не спраўдзіліся. За дваццаць гадоў нашых узаемаадносінаў мы столькі спрачаліся, сварыліся і мірыліся, што я і думаць не думаў, што лёс нам выпадзе — разысціся ў сварцы. Вярнуцца ў мінулае і нешта-нейкае там змяніць немагчыма, але ад псеўданіма, які

так раздражняў Казіміравіча, мы са Сцяпанам вырашылі адмовіцца. Апавяданні пра прыватнага дэтэктыва Глеба Стральцова мы цяпер будзем падпісваць “Адам Глобус і Уладзімір Сцяпан”, а ўсю кнігу крымінальных апавяданняў прысвецім Аляксандру Карпейчыку.
“Трывала і доўга стаіць толькі тое, пад што кроў пацякла!” — любіў паўтараць Саш. І я пра гэта памятаю заўжды.

**Саш і гісторыя**

Гісторыю трэба расказваць ад пачатку і да канца, інакш расповед не мае сэнсу. Калі табе падасца, што ты выгаварыўся і слоў больш няма, варта паглядзець на свайго героя зноў, каб спраўдзіць завершанасць расказанага. Так я зрабіў са словамі пра школьнага настаўніка біялогіі Аляксандра Казіміравіча Карпейчыка, якога называю Саш. І ўбачыў я раніцу… Быў вечар са звонам чарак, з эратычнымі жартамі і з колцамі тытунёвага дыму ў вясновым паветры. Была ноч з нечаканым падарожжам на край горада, ноч з бутэлькаю каньяку, ноч з аголенымі спінамі вясёлых жанчын. І была раніца. Быў канец траўня. Плыў лёгкі туман. Горад яшчэ не прачнуўся. Сонца шчэ не ўзышло. Мы — я і Саш — ішлі ў незашпіленых пінжаках па пустым праспекце. “Хораша!” — сказаў тады Саша. Праз два крокі ўзышло сонца, і горад прачнуўся.

# ЛЮД

## Словы пра мастачку Люду Русаву

### Блакітная зямля

У перадапошні дзень вясны, а дзясятай раніцы памерла Люда Русава. У першы дзень лета а дванаццатай пачалася яе крэмацыя. Хай зямля ёй будзе нябесна-блакітным (як яна хацела!) пухам.

### Саш і Люд

Непадалёк ад букіністычнай крамы я сустрэў нябожчыка Сашу Карпейчыка. У руках ён трымаў даволі вялікі стос, кніжак з дзесяць, падручнікаў. Саш сказаў, што накіроўваецца ў сваю школу, каб паказаць вучням новыя кнігі. Мне зрабілася няёмка, бо я ведаў, што ён памёр яшчэ ў мінулым годзе, адпаведна — яму зусім не трэба з'яўляцца ў школе, дзе ён некалі працаваў настаўнікам біялогіі, не трэба сваім з'яўленнем з іншасвету палохаць дзяцей. Канечне, я б спыніў Карпейчыка, каб падзеі разгортваліся ў рэальнасці, а не ў маім хісткаплынным сне. Мова ў мяне прапала. У снах такое здараецца: сабраўся бегчы, а ногі адняліся; наважыўся нешта сказаць-крыкнуць, а голас прапаў... Нябожчык Саш мову не згубіў, ён сказаў, што рады быў мяне

пабачыць, развітаўся і панёс у школу, дзе ішоў апошні дзень заняткаў, навюткія падручнікі. Не пісаў бы я пра банальную начную сустрэчу з нябожчыкам біёлагам, каб увечар наступнага дня мне не затэлефанаваў раманіст Зміцер Вішнёў і не сказаў, што памерла мастачка Русава. “Спадар Адам (Зміцер робіць у маім імені націск на першы склад), вы ж яе добра ведалі, таму я і патэлефанаваў…” Сапраўды так, я выдатна ведаў Люду Русаву і звяртаўся да яе — Люд.

**1979. Каханкі**

“Мне патрэбна прапіска ў Менску. Мне патрэбны замовы ў мастацкім камбінаце. Мне патрэбны грошы, майстэрня і жытло. Адамчык, я пайшла б у каханкі да якога з заможных мастакоў. Не сумнявайся! Але ў іх няма каханак! Якая каханка можа быць у Савіцкага? А ты можаш уявіць Вашчанку з каханкаю? А ў Кішчанкі? Зрэшты, у Кішчанкі можа быць каханка, але гэтая каханка пасля першага сэксу зробіцца жонкаю. Нашы старыя мастакі нічога не разумеюць у каханні, нічога не ведаюць пра ўтрыманак, нічога… Яны і ў мастацтве нічога не разумеюць. Пэцкаюць палотны, каб зарабіць… Ты мне дапаможаш?” — пытаецца ў мяне Люда Русава. Ідзе снег. Мы стаім на праспекце каля сувенірнай крамы “Купалінка”. Снег густы, блакітны, цёплы… “Паспрабую!” — “Не спрабуй!”

**1992. Чалавек-функцыя**

“Ты паглядзі на іх. На спіны, пакрытыя непрабіўным салам, на вусікі-нітачкі прусачыныя, на чуйныя вушы, на алейны бляск у хіжых вачах… Не мастакі яны! Не людзі яны… Суцэльная камбінаторыка і функцыя! Яны функцыянуюць! Іх наканавана насць у бесперапынным функцыянаванні! Ненавіджу чалавека-функцыю. Такі не жыве, не любіць, не стварае, толькі функцыянуе. Ты, Валодзя, можаш ператварыцца ў такога. Мы сустрэнемся, і я спытаю… Функцыянуеш, Адамчык? Што адкажаш? Ты адкажаш… Жыву! А я пачну смяяцца…” — Люда пачынае смяяцца гучна і тэатральна. Люда Русава любіла жыць тэатральна.

## 2010. Свіное лёгкае і кот

Цяпер, калі Русавай няма сярод жывых, можна задаць адно важнае пытанне пра ўсё яе жыццё… Каго любіла Людміла Русава? Яна любіла ката. У Люды быў велізарны кот, самаўпэўнены, гаспадар. Безумоўна, кот быў гаспадаром у майстэрні-кватэры мастачкі Русавай. Дзеля яго Люда ездзіла па два разы на тыдзень на Камароўскі базар у мясныя рады, каб прывезці свайму любімцу свіное лёгкае. Кот упадабаў лёгкае, ён яго праг нават больш за нырку. Зазвычай кот ажно калоціцца, калі яму выкладаюць свіную нырку, а гэты жадаў цёплага свежага духмянага лёгкага. Як звалі ката Люды Русавай? А так і звалі — кот Русавай. У рэальным жыцці гэта быў і не адзін кот, гэта было некалькі катоў у жыцці Люды, але пасля яе смерці ўсе каты зліліся ў адзінага самазадаволенага, самаўпэўненага, самазахопленага ката, які прагна жарэ сённяшняе лёгкае.

## 2008. Тры цыгарэты

Яна шмат курыла, не выпускала з рота цыгарэту. Колькі яе ведаў, Русава ўвесь час паліла перасушаны тытунь. Яна купляла цыгарэты блокамі, распакоўвала пачкі і сушыла іх. Тытунь перасыхаў, рабіўся порсткі і крохкі. Люда падоўгу размінала цыгарэту. Яна ўслухоўвалася ў яе шархатанне і патрэскванне. Прыпальвала. Набірала поўныя грудзі гарачага, пякучага і жорсткага дыму. “Ха-а-а!” — казала Люда нялюбаму свету і адгароджвалася ад яго дымным воблакам. У час нашай апошняй сустрэчы мы сядзелі на лаўцы, што ў алеі на вуліцы Леніна. Было цёпла і сонечна, можна было доўга сядзець на лаўцы і няспешна курыць. Мы больш курылі, чым гаварылі, бо хто-хто, а мы паспелі сказаць адно аднаму ўсё, што трэба было сказаць. Падчас нашай апошняй сустрэчы Люда размяла ў пальцах тры цыгарэты.

**1999. Адзіны фотаздымак**

“Чым займаешся, Люд?” — “Фатаграфуюся! Знаходжу хлопчыкаў, і яны мяне фатаграфуюць. Ад сучаснага мастака застаецца адзін фотаздымак, гэта ў лепшым выпадку. У горшым выпадку ад яго не застаецца нічога. Цікава… Што застанецца ад мяне? Які здымак? Фатаграфуюся, разглядаю здымкі, са здымкаў раблю паштоўкі… Хочаш, я падару табе свае паштоўкі? Трымай? Як яны табе? Можаш не напружвацца… Я ўсё ведаю сама, яны ўсе харошыя хлопчыкі, яны выдатныя хлопчыкі, яны цудоўныя хлопчыкі, а здымкі ў іх херавастыя, херовыя здымкі, здымкі хуёвыя! У цябе шмат добрых здымкаў, у цябе выдатны фатограф, табе шанцуе, Адамчык. У цябе ёсць нават мае добрыя здымкі. А мне ніколі не шанцавала, але я фатаграфуюся і фатаграфуюся”.

**2010. Час Малевіча**

Яна жыла не ў нашым і не ў сваім часе, яна жыла ў дзясятых, у дваццатых і ў трыццатых гадах дваццатага стагоддзя, жыла побач з Казімірам Малевічам. Квадраты, крыжы, кругі, трохкутнікі пераследавалі Русаву. Яна збірала і разбурала свае геаметрычныя кампазіцыі, нібыта супрэматыстка і вучаніца Малевіча. Але калі ў Казіміра Малевіча ёсць праясненасць і крыштальнасць, дык у Русавай паўсюль панавалі змрочнасць і дэструктыўнасць. Яе палеміка з Малевічам так нічым і не скончылася. Люда нешта ўсё казала свайму непараўнальнаму Казіміру, але ён яе не пачуў. А так як большасць з прамоўленага Людмілай Русавай было адрасавана Казіміру Севярынавічу Малевічу, яе мала хто слухаў ды чуў — наогул.

**2010. Незадаволенасці і смех**

Яна была незадаволеная заўсёды і паўсюль. Русавай не падабаліся: імперыя, дзе яна жыла; горад, дзе даводзілася працаваць; майстэрні, дзе пісаліся карціны; установы, дзе змушана была

вучыцца; цела, у якім жыла душа мастака; пол! Таму ўсё навокал падлягала разбурэнню і рэвалюцыйнаму пераўтварэнню. Імперыю трэба было разбурыць! Горад неабходна пераназваць, перапланаваць ці, у крайнім выпадку, перафарбаваць! Цела варта было трымаць у чорным панцыры! Ад полу неабходна было адмовіцца! Русава паслядоўна пазбаўлялася ад сваіх незадаволенасцяў. Яна зрабіла ўсё, што толькі магла, каб струхнелая і маразматычная імперыя абрынулася ў незваротную бездань. Праекты па перастварэнні гарадскога асяроддзя засталіся адно праектамі, але яны былі намаляваны і накрэслены. Русава стрыглася "пад нуль" і галіла валасы на ўсім целе. Апраналася ў шэрае і чорнае. Нават белыя капелюшы і нагавіцы на Людзе Русавай выглядалі чарнейшымі за рэвалюцыйна-чорныя. Пра пол, пра сваю прыналежнасць да жанчын Люда выказвалася з пагардлівай усмешкай. Яна смяялася сухім, гістэрычным, тэатральным смехам. Яна смяялася заўсёды, паўсюль і з усяго на свеце.

### 2010-1969. Рыса

Калі я блізка пазнаёміўся з Людай Русавай у 1973 годзе, яна сядзела пад сваёй карцінаю "Пакаранне смерцю нарадавольцаў" і пруткамі вязала шалік. Люда ўсё жыццё вязала сабе шкарпэткі, рукавіцы, шапкі, шалікі… Яна мерзла і вязала цёплыя рэчы. Змрочныя нарадавольцы ў доўгіх белых кашулях стаялі пад віседьняю на высокім эшафоце. Неба над змагарамі за лепшую долю і волю было нігілістычна-берлінска-сіняе, кашулі на змагарах былі бела-залацістыя, палатняныя. Нарадавольцы мерзлі пад бясконца-халодным бясхмарным небам. Люда вязала і чакала разам са сваімі намаляванымі нарадавольцамі ката і смерці. Чаканне смерці было для Русавай натуральным працэсам, як вязаць і мерзнуць. Сваё чаканне яна ператварыла ў акцыю. Усе, хто ведаў Русаву, чакалі яе смерці, развіталіся і зноў чакалі. Усе так доўга чакалі смерці, што, дачакаўшыся, не паверылі ў яе праўдзівы прыход. "Яна сапраўды памерла?" — "Гэта чарговая акцыя ці не акцыя?" — "Ты яе мёртвай бачыў?" Пра смерць Люды Русавай мяне перапыталі некалькі разоў. Я запэўніў усіх, што Русава сапраўды згасла, што працэс згасання завершаны.

Смерць-мужчына-кат наведаў яе. Люды больш няма. Нарэшце, зноў накрэслена выразная рыса паміж жыццём і смерцю. Зноўку ёсць рыса паміж жыццём Русавай і яе мастацтвам. Люда старанна і паслядоўна выцірала рысу паміж рэчаіснасцю і мастацтвам, выцірала-выцірала, але так і не выцерла да канца.

### 2010–1984. Русава і мая апошняя карціна

Жывапіс я кінуў. Можна інакш сказаць… Жывапіс на доўгі час пакінуў мяне. Я перастаў пісаць карціны. Замоў на карціны не было. Ніхто іх не купляў. На выставы мае палотны не траплялі. Я заняўся літаратураю і графікай. Тут і з'явілася Русава… Трэба рабіць альтэрнатыўную выставу! Трэба пісаць карціны! Усе нашы дамовіліся напісаць па нацюрморту да выставы! У мёртвай краіне трэба зрабіць жывую акцыю, прысвечаную нацюрмортам! На апошнім закліку мы спыніліся. Я паабяцаў напісаць карціну для Люды Русавай. Гэта быў жывапіс на палатне, які імкнуўся зрабіцца графікаю, а тая, у свой час, намагалася пераўтварыцца ў літары… Мая апошняя карціна называлася “За два імгненні, як чымсьці стаць…” Карціна і зараз вісіць у маёй кватэры, на ёй няма ні подпісу, ні прысвячэння, ні даты… Трэба дааформіць яе, дарабіць, бо палатно, замазанае фарбамі, так і не даспела за дваццаць пяць гадоў да паўнавартаснай карціны. Тое палатно не даспела, яно даспявае. А я зноўку вярнуўся да жывапісу, ці жывапіс вярнуўся да мяне… Зноў была напісана карціна для Люды, блакітнае палатно называецца “У белым доме, ля сіняй бухты…”.

### 2010. Русава і Архангельская

Большасць з мастакоў піша і чытае вершы. Большасць з іх захапляецца паэзіяй. Праўда, праўда. Але, чытаючы тэксцікі, напісаныя мастачкаю кшталту Люды Русавай, карціць зрабіць абагульненне: мастакі не разумеюць паэзіі. Вядома, гэта не так. Далёка не кожны мастак возьме пашлаваты, у сваім штучным і запозненым дысідэнцтве, псеўданім Архангельская. Далёка не

кожны пачне пакрэмзаную і размалёваную паперу выдаваць за авангардную паэзію. Русава зрабіла менавіта так. Яна ўзяла псеўданім Архангельская, бо нарадзілася ў Архангельскай вобласці. Пад гэтым псеўданімам выдала том з абракадабрычнымі тэкстамі ды паспрабавала прадаць гэта ўсё за паэзію. Акцыя выглядала драматычна... Зрэшты, усё зробленае Русавай, глядзелася і глядзіцца драматычна. Але акцыя з гульнёю ў паэзію была ганебнай паразаю. Выдадзеныя кнігі так і засталіся ляжаць мёртвым грузам у аднапакаёўцы аўтаркі. Дзіўна, але ў Люды хапіла мужнасці прызнаць паразу. Зазвычай у такіх выпадках людзі не прызнаюць правал, яны абвінавачваюць наваколле ў дурасці ды тупасці. Русава пагадзілася, што яна не паэт. Прынамсі, у нашых размовах яна з гэтым пагаджалася лёгка… Згарэла, ачахла, астыла, халодны попел… У кнізе тэкстаў Архангельскай ёсць толькі халодна-шэры попел, агню тамака няма, ніводнага пялёстка.

**2010–1978. Русава і Шымрук**

Люда Русава вучылася ў тэатральна-мастацкім інстытуце на манументальным аддзяленні мастацкага факультэта. Вучылася з вялікімі складанасцямі, бо роспісы і вітражы цяжкія ў вытворчасці, а менавіта іх вучылі выштукоўваць на манументальным аддзяленні. З трыццаці студэнтаў сярод манументалістаў было тры дзяўчыны. Яны вучыліся, бо іх бралі за пол, а не за здольнасці. Павінны быць жанчыны, і яны былі: Карэлкіна, Шымрук і Русава. Вучыцца ў інстытуце было ўвогуле так складана, што, напрыклад, у групе Русавай на чацвёртым курсе засталася адна Русава. Каб неяк выправіць сітуацыю, да Русавай перавялі дваіх халтуршчыкаў з аддзялення інтэр’еру. Русава малявала похвы і сперматазоіды, спіралі і яйцы. Яна малявала ў духу пазнейшых узораў нямецкага экспрэсіянізму Ота Дыкса і Ганса Грундзіга. Яна малявала апантана, адчайна, па-вар’яцку. Выкладчыкі маўчалі. Яны ненавідзелі Люду Русаву, але яны не маглі яе выгнаць, бо яна засталася адна з тых, хто паступіў. Выгнаць яе — азначала паказаць сваю слабасць як педагогаў. Выкладчыкі замест Русавай выгналі яе сяброўку — Шымрук. Гнюсны ўчынак. Ка-

нечне, Шымрук таксама малявала разяўленыя похвы ды гнілыя яблыкі ў руках сУчасных Еў. На фоне сацрэалістычных карцінак з лабатымі Ленінымі ды манернымі камсамольцамі гнілы яблык у руцэ біблейскай Евы глядзеўся дысідэнствам. Але выганяць Шымрук замест Русавай было мярзотнасцю. Выгналі. Русава сказала, што для Шымрук так нават і лепей. Сапраўды, яна кінула мастацтва, зажыла ціха і звычайна. Казалі, што Шымрук знайшла сваё шчасце. Не веру, але дапускаю і такую версію са знойдзеным шчасцем у лёсе Шымрук. Русава свайго шчасця не знайшла. Дакладна: не знайшла. Ахвяра ў асобе Шымрук была дарэмнай, як і большасць нашых ахвяр.

**2010. Русава і парадаксальнасць**

Люда была прадказальнай, а не парадаксальнай, як ёй гэта бачылася. Яшчэ ў юнацтве Люда Русава абсалютызавала акт творчасці. Жыццё без мастацтва і жыццё па-за мастацтвам яе не цікавіла. Нават сэкс яна спрабавала падпарадкаваць мастацтву, нават смерць ёй бачылася творчым здзяйсненнем. Таму жыццё Люды Русавай часцяком выглядала бязглуздым, недарэчным, выглядала пластылінавай цацкай. Нібыта яна паспрабавала падужацца з багамі, паспрабавала з тлену вылепіць форму і ўдыхнуць у штучнавылепленае цела жывую пульсацыю. Не атрымалася! Пластылін застаўся сабачым тлушчам.

**2000. Люда і пакет**

Добра, калі ў цябе ёсць чалавек, да якога можна занесці пакет з прадуктамі. Добра, што той чалавек не адмаўляецца браць у цябе звычайны харч. У гэтым ёсць вялікі пафас жыцця. Ты заходзіш у краму, купляеш хлеб, крупы, алей… Некалькі такіх пакетаў я занёс і Людзе Русавай. Ніякіх абавязкаў у нас не было. Ні яна мне нічога не абяцала, ні я яе ні пра што не прасіў. Усе нашыя страсці даўно згарэлі і зрабіліся халодна-блакітным попелам. “Ты пазвоніш?” — пыталася Русава, калі я сыходзіў. “Пазваню”, — казаў я. І званіў, і слухаў нейкія глупствы, пазапісваныя

на аўтаадказчык. Калі мне надакучвала слухаць аўтаадказчык, я купляў прадукты, складаў у пакет і ехаў да Люды Русавай. Добра, калі ў цябе ёсць чалавек… Добра, калі ён у цябе быў.

### 2002. Люда і зайздрасць

Люда любіла зайздросціць. Яна зайздросціла мужчынам, бо яны — мужчыны. Зайздросціла здаровым, бо — здаровыя. Яна зайздросціла нават пасрэдным мастакам, калі яны набывалі вядомасць. Люда зайздросціла Марачкіну, бо ягоную карціну насілі па праспекце. Яна зайздросціла Пушкіну, калі той прывёз тачку з гноем да прэзідэнцкага палаца. “Што ты ім зайздросціш? Хіба ты лічыш іх мастакамі, лепшымі за сябе?” — пытаюся. “У іх атрымліваецца зрабіць акцыю. У іх атрымліваецца сваім жэстам сабраць вакол сябе вялікую колькасць публікі. У іх атрымліваецца…” — “Займайся палітыкай, удзельнічай у шэсцях, стварай партыю… Не будзеш! Ніжэй за цябе! Тады чаго зайздросціш?” — “Проста так! Зайздрошчу, бо мне зайздросціцца!” Некалі Люда Савіцкаму і Кішчанку зайздросціла, бо ў іх вялікія замовы на сценапісы. Зайздросціла, але розных Ленінаў і камсамольцаў з камуністамі не малявала, бо не яе ўсё гэта. Зрэшты, буду шчыры і скажу… Люда не змагла б намаляваць Леніна так, каб ён спадабаўся начальству і народу. Варта ўдакладніць: начальства і народ мае аднолькавы пасрэдны густ. Тое самае ў Люды было і з антыленінскімі ды антыкамуністычнымі вобразамі… Люда заўжды была элітарнай, снобскай, зайздроснай (ледзь не напісаў “сучкай”!) мастачкай. А яшчэ яна была досыць баязлівай, каб ладзіць палітычныя акцыі ды выходзіць на несанкцыянаваныя вулічныя шэсці. Яе рэвалюцыйнасць заўжды абмяжоўвалася інтэр’ернай прастораю.

### 1987. Русава і скульптура

З усіх скульптурных аб’ектаў, якія зрабіла Люда, найбольш мяне ўразіла скрыня. У той скрыні былі вылепленыя з чорнага

пластыліну полавыя ворганы Люды і яе тагачаснага мужа Ігара. На вылепленых і засунутых у фанерную скрыначку ворганах былі сапраўдныя валасы. Люда згаліла валасы з лабкоў (свайго і мужавага) ды ўпрыгожыла імі інтымны твор. Скрыначка адчынялася толькі для сапраўдных аматараў мастацтва. Скрыначка з пластылінавымі ворганамі жыла ў вясковай хаце Люды ды Ігара. У гарадскую кватэру Люды Русавай скрынка не перавезлася.

**2010–1973. Русава і сур'ёзнасць**

Яна спрабавала быць сур'ёзнай. Яна дзеля сваёй уяўнай сур'ёзнасці манціравалася з вялікімі мастакамі-папярэднікамі, кшталту Малевіча і Ван Гога. Яна станавілася побач з Ван Гогам, а трапляла ў кампанію да прафесара Міхася Раманюка, які жартам паабяцаў яе ўвекавечыць за першы беларускі перфоманс. Дзеля той жа сур'ёзнасці Люда Русава адмаўлялася супрацоўнічаць з перыядычнымі выданнямі для масавага спажыўца, а ў выніку пра яе пісалі ў тупых прафкрытыністычных выданнях куртатаслоўныя ідыёткі. Са сваёй напышлівай сур'ёзнасцю Люда выглядала трагікамічна. У выніку яе сур'ёзнасці ўсім зрабілася цяжка глядзець на хворую, злую, неадэкватную, старую бабу. Ад Люды адвярнуліся яе вучні і сябры, яе ўсе пакінулі. Яна памерла сам-насам са сваёй неўтаймаванай сур'ёзнасцю.

**1999. Люда і валасы**

У яе былі кепскія валасы. Яна іх стрыгла, фарбавала, згольвала… Яна здзекавалася не толькі са сваіх валасоў, але здзек з валасоў быў навідавоку… Таму чужыя людзі запомнілі яе ў шапачках ды хустачках. Таму і самы знакаміты перфоманс Люды Русавай быў звязаны з валасамі… Аёй-аёй! Выбачай! Я прадам наперад інтрыгу перфоманса! Ніхто нікога не забіў! Ха-ха-ха! Цяпер адпачатку… Па горадзе папаўзлі чуткі, што падчас чарговага перфомансу Русава адсячэ нейкай дзеўцы галаву. Маўляў, дзяўчынка вырашыла скончыць жыццё самагубствам менавіта ў час мас-

тацкага дзеяння. Народ сабраўся. Русава адсекла асістэнтцы валасы. Люда заўжды замахвалася на ролю ката, а скончыла гульнёю ў цырульніцу. У гэтым наогул слабасць перфоманса як такога. Кепскі сцэнар, падманы, дрэнны актор, мастачкоўская сцыклівасць, калі замест крыважэрнага чалавека-забойцы мы бачым цырульніцу-няўмеку. Сорам ахоплівае гледачоў. За Русаву мне было сорамна шмат разоў, было сорамна за яе лысую любімую галаву.

### 2010. Русава і артыстызм

У кожнага, хто старанна вучыўся ў тэатральна-мастацкім інстытуце, з'яўлялася жаданне паспрабаваць сябе ў ролі артыста… Не важна, куды ты паступіў, на скульптуру ці на прамысловы дызайн, на кніжную графіку ці на банальны карцінны жывапіс — раней ці пазней ты абавязкова апынаўся на сцэне альбо на здымачнай пляцоўцы, а там ужо як карта ляжа. Мастакі ніколі не прайгравалі на сцэне ўласна артыстам, прынамсі, у сценах тэатральна-мастацкага інстытута, а далей… Далей мала хто з мастакоў пераходзіў у прафесійныя артысты ці тэлевізійшчыкі. Мастакі заставаліся мастакамі, артысты артыстамі. Але мастакам зноў хацелася давесці сваю перавагу. Тут якраз новы жанр мастацтва з'явіўся — перфоманс. І можна самому напісаць маленькую п'есу, і можна сабраць публіку і тую п'есу самому ці з сябрамі хуценька сыграць. Люда Русава пісала п'ескі, сама іх прылюдна выконвала. У свае п'ескі яна спрабавала ўкладаць вялікую колькасць розных сімвалаў і сэнсаў. Сэнсы і сімвалы не ўкладаліся. Русава заставалася малавядомай артысткай. Яна заставалася і засталася да канца жыцця малавядомым мастаком. Яна так хацела, каб яе пазнавалі на вуліцы, а яе не пазнавалі ні на вуліцы, ні ў метро. У нешматлікіх інтэрв'ю Люда казала, што не хоча быць знакамітай і пазнавальнай артысткаю. Какетлівая жаночая хлусня. У Люды Русавай не атрымалася быць знакамітай пры жыцці. Наўрад ці ў яе гэта атрымаецца і пасля смерці. Але яе жыццё,ператворанае ў артыстычны перфоманс, было цяжкае, але цікавае і змястоўнае.

**1978. Русава і пастаўленая адзнака**

Дыпломным праектам Русавай у тэатральна-мастацкім інстытуце быў эскіз роспісу на плафоне Опернага тэатра. На ўвесь плафон Люда намалявала жаночую похву. Мастачка крыху замаскавала похву пад неба ў аблоках, а сперматазоідаў пераапранула ў касманаўтаў. Маскіроўка была вельмі ўмоўнай, і похва атрымалася досыць схематычная, але ўсё ж пазнавальная. Выкладчыкі зрабілі выгляд, што не пазналі разяўлены на ўвесь тэатральны плафон жаночы полавы орган. Выкладчыкі паразважалі пра касмагонію і паставілі Русавай за дыпломны праект найвышэйшую адзнаку.

**2010. Форма Русавай**

Калі б у мяне стаяла задача выказаць праз адно-адзінае слова ўсё творчае жыццё перфамансісткі Русавай, я б прамовіў “нішчыміца”. У ім ёсць і аскеза, і шчымлівасць, і нішто, і нікчэмнасць, і жабрацтва, і жаноцкасць, і тутэйшасць, і гаротнасць, і лёс… Уся доўгая і вялікая творчасць Людмілы Русавай — нішчыміца.

**1999. Русава і прах Шыдлоўскай**

У Русавай быў муж — Ігар Кашкурэвіч. А ў Ігара таго была яшчэ да Русавай першая жонка — Алена Шыдлоўская. Усё, што прырода не дадала Русавай, яна шчодра насыпала Алене. У Шыдлоўскай была цудоўная смуглявая роўна-залацістая скура, ружовыя пазногці, вялікія роўныя бела-белыя зубы, малінавыя вусны, пластычная пастава, доўгія ды густыя валасы… Шыдлоўская была азіяцкай прынцэсаю, татарскай вядзьмаркаю, беларускай русалкаю, цялеснай і мажорна-жывой. Алена нарадзіла ад Ігара дачку. Ігар кінуў Алену і ўзяў сабе Люду Русаву. Люда не любіла Алену Шыдлоўскую, яна нагаворвала на яе, кляла яе і ў рэшце рэшт пракляла зусім. Яна яе пракляла так, што Шыдлоўская памерла. Канечне-канечне, Алена магла памерці і без праклёнаў Русавай, урачы запэўнілі ўсіх, што ў смерці

вінаваты рак. Дачка спаліла маці, а прах з падмаскоўнага гарадка прывезла ў Менск. Яе бацькі Ігар тым часам жыў ужо ў трэцяй жонкі, недзе пад Берлінам. Дачка прынесла прах Шыдлоўскай у кватэру Люды Русавай. Люда патэлефанавала мне: "Што рабіць з прахам?" Вядома-вядома, каб я жыў у рамантычнай японскай аповесці, мы б з Русавай і дачкой Алены Шыдлоўскай пайшлі б на бераг суворага і няветлівага мора ды развеялі попел у халодных вятрах. Але мы ўсе былі ў Менску. "Люда, ты не ведаеш, што рабіць з прахам! Ты не ведаеш, што з ім рабіць! Ты проста не возьмеш прах. Адмовішся браць… А дачка? Дачка стане дарослай і ўсё зробіць правільна з прахам сваёй маці. Што б яна ні зрабіла, усё будзе правільна! Павер мне! Усё будзе правільна…"

## 1986 (?). Русава і фотаальбом

Люда любіла кнігі. Яна шмат разоў спрабавала сабраць сваю творчасць у альбом, у сшытак, у кнігу… І толькі аднойчы ў яе атрымалася зрабіць уласна кнігу, сваю фотакнігу пра вандроўку па Дняпры з Магілёва ў Кіеў. Яны паплылі ўтрох: Люда і два Ігары — Надашкевіч і Кашкурэвіч. У Кіеўскім моры яны думалі, што патонуць. Усчаўся вецер, узняліся хвалі, човен іх быў якраз пасярэдзіне штучнага, але вялікага мора. Сяк-так Ігары з Людаю выплылі. Ператрухалі яны моцна. Там, на беразе штучнага мора, і скончыўся слаўны паход украінкі і двух беларусаў. Там і задумаўся фотаальбомчык. Вярнуліся і зрабілі. Альбом дзівіў нешматлікіх гледачоў эратычнасцю. Ігары бессаромна разгульвалі па прыдняпроўскім пяску, трасучы чэлесамі. Паход па Дняпры, фотасесіі ды кніга — адзін з найбольш удалых праектаў Русавай.

## 2010. Русава і Басаў

Ці ставілася Люда Русава да якога з жывых мінскіх мастакоў добра? Ці любіла яна чужы мінскі жывапіс? Ці было жыццё якога з мінскіх мастакоў ёй за прыклад? Так. На ўсе гэтыя пытанні

ёсць станоўчы адказ, бо Люда паважала Басава, які моцна вылучаўся з натоўпу сквапных, нікчэмных, баязлівых пэцкуляў з іх сацыялістычным рэалізма-маразмам, з іх саюзам і камбінатам па вытворчасці халтуры, з ордэнамі-прэміямі-званнямі… Басаў паставіў каштоўнасць уласна жывапісу вышэй за прыстасавальніцтва. Басаў не выкарыстоўваў свой талент жывапісца, свае здольнасці мастака дзеля атрымання сацыяльных выгодаў. Ён не ўхваляў уладу. Басаў быў сумленны мастак. Русава яго паважала і ўдзельнічала ў падрыхтоўцы ды выдання кнігі пра Ізраіля Басава.

2010. Русава і паштоўка

Калі нехта дасціпны будзе ўважліва і нетаропка разбіраць архіў нябожчыцы Русавай, ён можа знайсці і паштоўку з краявідам Барселоны, сфатаграфаванай з птушынага палёту. Звычайная паштоўка для турыстаў, такіх прадаецца тысячы… Але ж горад які… Люда выпрасіла ў мяне паштоўку. Яна спадзявалася з’ездзіць у Барселону, на радзіму мадэрнізму. Такая простая мара ўсіх мастакоў-постмадэрністаў у Люды Русавай не спраўдзілася. Шкада. У Люды, як і ў яе папярэдніка мадэрніста Пікаса, быў блакітны перыяд. Блакіт на палотнах Пабла Пікаса з’явіўся менавіта ў Барселоне. Месячнае Месяцовае святло, блакітны горад пад поўняю, могілкі, пахавальныя шэсці, журба — матывы, якія пісаў Пікаса ў Барселоне. Люда мусіла гэта пабачыць. Не лёс…

Ван Гог і акадэмія

Выкладчык Акадэміі мастацтваў Вашчанка сказаў сваёй студэнтцы Русавай: “Ты думаеш, што ты — Ван Гог? Ты — не Ван Гог!” Русава падумала, што Вашчанка памыліўся. Ён і сапраўды памыліўся, калі пачаў параўноўваць Людку Русаву з непараўнальным Ван Гогам.

# АЛЬГЕРД

## Словы пра мастака і настаўніка Альгерда Малішэўскага

### 1976. Жывапіс

Расказваць пра колеры і жывапіс Альгерд Адамавіч Малішэўскі мог бясконца, бо ўсё ягонае жыццё — адзін суцэльны аповед пра жывапіс, пра тэмпераментны жывапіс алейнымі фарбамі на льняным палатне. “Акварэлка — чуш сабачая!” — так ён выказваўся пра акварэль. “Што ты мажаш? Што ты ўсё мажаш? Што ты, як той Воранаў, які змешвае чорную фарбу з белай і не ведае, што ў яго атрымаецца!” Пра колеры, пра жывапіс Малішэўскі заўсёды выказваўся гучна. Інакш, ён лічыў, будзе няшчыра, атрымаецца няпраўдзіва, выйдзе няякасна. Толькі так!

### 1976. Мянушка

Жывапісца Альгерда Адамавіча Малішэўска злаязыкія людзі перахрысцілі ў Мальберта Падрамавіча Умалішэўскага.

**1976. Далі**

“Вазьмі пэндзлік тонкі, як шыла, і напішы гэты зялёны гарбатнік, як Сальвадор Далі. Ружовую драпіроўку празудзі так, каб Далі, убачыўшы яе, заплакаў!” Такое першае заданне я атрымаў ад Альгерда Адамавіча. Я ўзяў пэндзаль тонкі, як голка, і пачаў выпісваць цёмна-зялёны гарбатнік і шаўкавіста-ружовую драпіроўку, а Малішэўскі з’ехаў у Парыж. Калі ён вярнуўся і паглядзеў на маё палатно, дык сказаў: “Можа быць!” Гэта была высокая адзнака, але я зразумеў, што Далі не заплача, убачыўшы мой просценькі вучнёўскі нацюрморт.

**1976. Парыж**

Спачатку па мастацкай вучэльні ляцела чутка: “Альгерд едзе ў Парыж!” Каму іншаму зайздросцілі б, а Малішэўскаму не зайздросцяць. Ён варты Парыжу, бо Парыж варты Малішэўскага. Ён вернецца і распавядзе нам — вучням сваім — пра Луўр, пра Арсэ, пра Манэ, пра… Калі Альгерд з’ехаў у Парыж, мы чакалі цэлы месяц. Альгерд зайшоў у студыю, сеў на крэсла, закінуў нагу на нагу і сказаў: “Яшчэ раз з’езджу ў Парыж — і можна паміраць…”

**1976. Вучэльня**

Вучыцца жывапісу і кампазіцыі ў Альгерда Малішэўскага лічылася за вялікі гонар. У Менскай мастацкай вучэльні ён быў выкладчыкам нумар адзін. Блізу трыццаці гадоў ён быў выкладчыкам нумар адзін. Мяняліся моды, мяняліся павевы, мяняліся куміры, а ён заставаўся першым. Гэта важна, каб вучэльня мела аўтарытэтных выкладчыкаў. І яшчэ больш важна, каб была іерархія з асобаю нумар адзін. Падчас маёй вучобы Менская мастацкая вучэльня — гэта Малішэўскі. І хай сабе наша вучэльня насіла імя скульптара Глебава, усе ведалі і ведаюць дагэтуль, што яна павінна была б мець імя Малішэўскага. Так было б справядліва, але назвы рэчаў у большасці сваёй вельмі далёкія ад іх зместу і формы. Змястоўныя формы жывуць сваім, асобным ад

назоваў, жыццём. Так менская мастацкая вучэльня жыла талентам Малішэўскага.

### 1976. Беднасць

Альгерд насіў цёмныя касцюмы і светлыя кашулі пад гальштук. Заходняя ганарыстасць і кропля польскай крыві вылучалі яго сярод нашых мастакоў. Ён быў падкрэслена шляхетны, рацыянальна злы, відавочна заможны сярод таталітарна-савецкай беднасці. Мы жылі ў краіне, дзе на словах шанаваўся матэрыялізм, а насамрэч дзяржава была наскрозь ідэалагічная і ідэалістычная. Грэблівае стаўленне да ўсялякага дабрабыту, да ўсяго цялеснага, да ўсіх рэчаў наогул культывавалася паўсюдна. На гэтым брудна-жабрачым тле чалавек у касцюме, пры гальштуку і дарагіх дагледжаных чаравіках быў выклікам. Мне падабаўся гэты выклік. Падабаўся тады і цяпер, праз трыццаць гадоў падабаецца.

### 1976. Дактары

Альгерд напісаў некалькі вялікіх палотнаў з партрэтамі дактароў. Манументальныя, суворыя, урачыстыя, як апосталы, як апосталы на фрэсках Джота, яны ўражвалі спакойнай веліччу. Малішэўскі паміраў, а дактары ўратавалі яго, падарылі яму другое жыццё. Ён, удзячны за выратаванне, напісаў іх партрэты. Станоўчы вобраз доктара ў мастацтве і літаратуры сустракаецца не часта. Зазвычай калі доктар, дык абавязкова Фауст, абавязкова алхімік і цемрашал, калі доктарка, дык алхімера. Альерд убачыў у дактарах апосталаў і намаляваў дактароў-апосталаў, гэта быў пераканаўчы варыянт.

### 1977. Падарункі

“Нікому не дары свае карціны! Чуеш? Нікому і ніколі не дары свае палотны. Здаецца, разумны чалавек просіць у цябе кар-

цінку… Ты адмаўляеш, а ён просіць і просіць. Ты ж ведаш, што жывапіс ён насамрэч не любіць, а толькі ўмее выпрошваць рэчы. І ты дорыш яму карціну. Раму робіш харошую, а потым урачыста перадаеш палатно ў “добрыя” рукі. А ён прыходзіць дадому і вешае тваю карціну на кухні, над плітою. Ягоная жонка смажыць бульбу з салам і нават не глядзіць на тваю каціну. Праз пару месяцаў палатно пачарнее і зарасце тлушчам і пылам. Карціны нікому не дары!” — вучыў Малішэўскі. Правільна вучыў, але я ўсё адно раздорваў і раздорваю свае малюнкі і карціны. Пэўна, вакол мяне шмат людзей, якія ўмеюць доўга прасіць.

### 1977. Акадэмія

“Памятай, яны не прымаюць у сваю Пухавіцкую акадэмію мастакоў, разумнейшых за сябе. Як толькі яны ўбачаць, што ты разумнейшы за іх, табе каюк, цябе не возьмуць. Таму на іспытах зрабі ўсё кепска, зрабі так, як яны любяць, зрабі горш, чым ты можаш, і тады ты паступіш у Пухавіцкую акадэмію. А калі паступіш, калі цябе залічаць, вось тады ім і пакажаш усё, на што здатны. Пакажаш ім, чым адрозніваецца Пухавіцкая акадэмія ад Парыжскай школы!” Параду Малішэўскага я выкарыстаў і паступіў з першага разу ў тэатральна-мастацкі інстытут — нашу Пухавіцкую акадэмію. Толькі гэтая парада адрасавалася не столькі мне, колькі самому Альгерду Адамавічу. Па вучэльні ўвесь час хадзілі чуткі, што Альгерда запрасілі выкладаць у інстытуце, і з наступнага навучальнага года ён туды пяройдзе. Але ён туды так і не перайшоў. Лепш быць першым у вучэльні, чым другім ці дваццаць другім у акадэміі, тым больш, што ў акадэміі не было першага. Там было шмат выдатных выкладчыкаў, але першага не было.

### 1977. Більдачкі

“Усе любяць Парыж! Усе любяць імпрэсіяністаў! А я з’ездзіў у Балгарыю і палюбіў балгарскіх жывапісцаў. Так-так, яны мала-

вядомыя і зусім не геніяльныя, яны жывуць у маленькіх гарадках і пішуць невялікія більдачкі. Іх палотны памерам меншыя за метр. А на розныя святы яны выстаўляюць свае більдачкі проста на плоце. Мастак вешае на плот некалькі сваіх карцін, і кожны можа іх паглядзець. І няма ніякіх урадавых камісій і мастацкіх салонаў, няма ацэначных і закупачных гвалтаў і спрэчак… Я хацеў бы стаць балгарскім жывапісцам, які піша карціны для сябе і сваіх гледачоў…” Гэтае прызнанне Малішэўскага мяне зусім не збянтэжыла. Я заўсёды высока цаніў своеасаблівы каларыт балгарскага мастацтва. І я не сумняваўся, што большасць карцін Малішэўскага напісана без уліку эстэтыкі савецкіх салонаў і меркаванняў саўдэпаўскіх чыноўнікаў. А самае галоўнае, я і тады верыў, што надыдзе час, калі мастакі змогуць пісаць і выстаўляць тое, што самі захочуць.

### 1977. “Дэман”

“Ты кажаш — мы кепска жывем? У нас забараняюць фармальныя пошукі і мадэрнізм? У нас нельга пісаць абстрактныя карціны? Чуш сабачая! Ты не ведаеш, як яны могуць усё забараніць! Яны могуць забараніць не толькі Шагала з Далі, яны могуць забараніць нават згадку пра геніяльных мастакоў! Калі я вучыўся ў Харкаве, мой выкладчык жывапісу клікаў мяне ў калідор, аглядаўся, каб нікога не было побач, ціхенька даставаў паштоўку з карцінаю “Дэман” Міхаіла Урубеля і казаў: “Урубель — геніяльны мастак, геніяльны! Паглядзі, паглядзі…” Я хвіліну разглядаў паштоўку, што ляжала на ягонай далоні. Паштоўка хавалася ў кішэню, і выкладчык хуценька сыходзіў. Ты ведаеш, як у яго трэслася рука з паштоўкаю? Ты ведаеш, які паўсюль быў страх? Не! Вось і не кажы, што табе нешта забараняюць і штосьці там не даюць зрабіць!” — казаў мне Альгерд. Так, і сапраўды страху ў паветры ўжо не было, але быў пыл застою. Паўсюль панаваў ілжывы кансерватызм з лісліваю лаяльнасцю да геранталагічнай улады. Камуністы ўжо здагадаліся, што камунізм на зямлі не пабудуецца, што іх ідэя падобная да пабудовы Вавілонскай вежы. Але разважаць на такія тэмы можна было толькі ў пустым калідоры.

## 1977. Адам з Евай

Выконваючы заданне па кампазіцыі, я намаляваў мужчыну і жанчыну пад дрэвам. Яны стаялі спіна да спіны. На маленькім квадрацiку паперы сіняй шарыкавай асадкай я намаляваў, як мне падавалася, матыў развітання. Зусім іншае пабачылася ў малюнку настаўніку Альгерду Адамавічу. “Ведаеш, што ты намаляваў? Не адказвай, бо не ведаеш. Ты намаляваў рай, намаляваў Адама і Еву, намаляваў іх цноту. Ты пра гэта і не здагадваўся, калі крэмзаў ручкаю па паперы. Нідзе ў мастацтве я не сустракаў, каб нехта маляваў Адама і Еву спіна да спіны. Беражы гэты матыў, такія кампазіцыі прыдумляюцца раз за жыццё, а можа, і зусім не прыдумляюцца. Ты яшчэ шмат разоў вернешся да гэтага малюнка…”

## 1977. Булачка

Альгерд Адамавіч мяне любіў. Ён запрашаў мяне дамоў, не ў майстэрню, а дамоў па-бацькоўску. “Я жыву над кафэ “Вавёрачка”!” Мне запомнілася інтанацыя, з якой ён сказаў “вавёрачка”. Часам і праз трыццаць гадоў я чую ягоны голас, я чую запрашэнне: “Я жыву над кафэ “Вавёрачка”. Тады мяне сустрэў гучны брэх маленечкага чорнага цуцыка. “Я сабачак не люблю, а жонка завяла, і даводзіцца трываць!” — Альгерд нагою адсунуў сабачку ад дзвярэй. Ён доўга і ўважліва разглядаў мае малюнкі, а потым сказаў: “Ты — малявальшчык. Ты павінен займацца кніжнай графікай. Табе не трэба пісаць карціны. Ты павінен працаваць з кнігамі. Той, хто працуе з кнігамі, заўсёды есьць булачку з маслам…” Я не паслухаўся Малішэўскага, і мы пасварыліся. Я сказаў, што буду пісаць карціны, буду паступаць на манументальны жывапіс, буду… Ён сказаў, што ў такім разе адмаўляецца мяне вучыць. Ён быў мудры чалавек, ён бачыў далёка наперад, бачыў, што мой лёс зніταваны з кнігамі, а я ў той момант недаацаніў і не зразумеў яго. Шкада! Ён быў першы, хто безапеляцыйна сказаў, што мой лёс — кніга.

## 1977. Табурэтка

Расказваючы пра Малішэўскага свайму быломy выкладчыку кампазіцыі Кіму Шастоўскаму, я паскардзіўся на грубасць Альгерда. “Цяпер ён спакойны, вось раней ён быў вельмі шумны. Прыходзіў у студыю, ставіў пасярод яе табурэтку, уздымаўся на яе і з-пад столі глядзеў, як студэнты пэцкаюць палотны. Ён і так высокі, а ўяві яго на табурэтцы. А як ён крычаў?! “Што ты шкрэбаеш і грабеш, як курыца лапаю! Мякчэй трэба, лягчэй! А ты што ліжаш і ліжаш сваё палатно? Зараз заліжаш так, што адтуль чорт выскачыць!..” У нашай студыі Альгерд не ўскокваў на табурэтку, але крычаць крычаў: “Ты, ты, я табе кажу, барон Агафоненка, вазьмі сваю карцінку, занясі на трамвайны прыпынак, акуратна пастаў каля сметніцы, а сам хуценька-хуценька ўцякай, а калі цябе зловяць і скажуць забраць сваю паганую карцінку, ты не прызнавайся, што яна твая! Ты крычы — не мая, не мая!!!” Прывыкнуць да крыкаў Малішэўскага было немагчыма. “Ты, графіня Роберман, напэўна, не выспалася, напэўна, усю ноч лётала за хлопцамі на памяле, а цяпер спіш! Дзе ты бачыш сіні колер? Што ты мажаш сінімі саплямі, калі трэба мазаць зялёнымі! Я табе кажу — трэба зялёнымі, а не сінімі, тады і ружовы стане на месца!” І так я слухаў Альгерда па тры разы на тыдзень цэлы год, і шкадаваў, што ён не заскоквае на табурэтку.

## 1977. Схаваныя карціны

Выслухваць парады і заўвагі Альгерда было настолькі цяжка, што мне давялося прыдумаць адпаведную схему паводзінаў. Палатно, над якім працаваў, я не адразу паказваў Малішэўскаму. Папярэдне я распачынаў працу яшчэ над некалькімі карцінамі, а паказваў яму ранейшае, амаль завершанае палатно. Ён яго крытыкаваў, я спакойна ўлічваў абразлівыя заўвагі, бо думаў пра новыя таемныя карціны. Такія паводзіны скончыліся скандалам. Калі выкладчыкі сабраліся абмяркоўваць эскізы маёй дыпломнай работы, Малішэўскі сказаў: “Ён вас слухаць не будзе. Вы будзеце тут гаварыць, а ён будзе смяяцца з вас і думаць пра палотны, што стаяць у яго дома, на мальберце!” Выкладчыкі

пачалі пытацца ў мяне, ці праўду кажа Альгерд. Гэта была пастка. Сказаць, што Альгерд ілжэ, я не мог, бо скандал стаў бы яшчэ большы; сказаць, што ён мае рацыю — нашкодзіць сабе. Я выбраў варыянт праўды. Выкладчыкі папрасілі прывезці ўсе праекты дыпломных карцін. Я прывёз яшчэ два, і Малішэўскі сказаў, што я ўсё адно не ўсё паказваю. Тут я пачаў ілгаць, бо не бачыў сэнсу прыніжацца яшчэ больш. Сказаў, што прывёз усё, што маю. Зрэшты, мой жывапіс і мае малюнкі мяне цікавілі больш, чым адзнакі, выстаўленыя нейкімі там выкладчыкамі. Гэта прынцып схаванай карціны я перанёс і на сваю іншую творчасць.

**1977. Рэўнасць**

Адна з асноўных прычынаў нашага разыходжання з Альгердам была рэўнасць. Звычайная, банальная і прымітыўная рэўнасць да поспеху ў жанчын. Пачалося ўсё з Алены Шыдлоўскай. Смугласкурая Алена закручвала адзін раман за другім. Яна спала з Алесем, потым спала з Уладзімірам, потым з Ігарам… Я не спаў з Шыдлоўскай, я яе маляваў аголенай. Чаму мы не спалі? Не скажу дакладна, але, хутчэй за ўсё, з-за маёй страсці да малявання. Я маляваў Шыдлоўскую гадзін дзесяць. Зрабіў вялікі малюнак алоўкам і вельмі ганарыўся гэтай штудыяй. Шыдлоўская стаяла голая на двух сталах, пад самай столлю, а я маляваў і маляваў. Я намаляваў яе і страціў цікаўнасць да спакуслівага цела, а яна страціла цікаўнасць да мяне. А вось Малішэўскі на мяне насварыўся з-з гэтага малюнка. Ён сказаў, каб я нікому яго не паказваў, зняў са сцяны і ніколі нікому не паказваў, бо ён парнаграфічны. Калі я здымаў малюнак, Альгерд сказаў: “Паглядзіце на яго… Ён здымае малюнак і плача! Здымае і плача!!!” Я не плакаў, я злаваўся. “Ну што ты на мяне ваўком глядзіш?” Я не адказаў, зняў малюнак і сышоў са студыі. І без гэтага малюнка мне паставілі “выдатна” па маляванні, але злосць на Альгерда доўга не праходзіла. На тую злосць наклалася і наступная, калі ён запрасіў да сябе ў майстэрню Жану. Наша Жана спала са мною, з Алесем, з Уладзімірам і… З кім толькі не спала наша белацелая Жана, але з Альгердам яна спаць не захацела. “Ён

узяў мяне за цыцку, і я ўбачыла, што ён стары, ён зусім стары!” Жана паскардзілася на Альгерда мне, Алесю і Уладзіміру. Як даведаўся Альгерд пра яе скаргі, не ведаю, але неяк даведаўся, і між мной і Малішэўскім пачалі дзьмуць халодныя проймы недаверу. У каго з нас было больш рэўнасці? Не скажу, бо не ведаю, як тую рэўнасць вымяраць, але рэўнасць сапсавала, прынамсі, моцна пахіснула, нашыя стасункі. А самае кепскае, што ні Алену, ні Жану я ў той час не любіў.

## 1977. Японцы

Савецкая дзяржава купляла карціны ў савецкіх мастакоў, як і раманы ў раманістаў, а песні ў песняроў. Савецкі творца меў права на ўзнагароджанне (часам і грашовае), але гэтае ўзнагароджанне (нават і грашовае) не з’яўлялася цаной карціны, рамана або песні, бо ўсе творы, зробленыя савецкімі людзьмі, належылі дзяржаве БССР. Так яно было, і ніхто асабліва не перажываўся і не абураўся. Але тут прыехалі японцы і купілі ў Альгерда карціну “Нарач. Спакой”. Выдатны краявід. Спакойны, лірычны і… таямнічы! Бо ў гіперрэалістычную выяву былі ўпісаныя некалькі ружовых плям. Іх з’яўленне, значэнне і неабходнасць Альгерд нікому не тлумачыў. Сасна стаяла на фоне светлага возера, а з неба падалі кавалкі анёльскай ружосці. Японцы набылі “сасну”. Нейкія грошы дасталіся і Малішэўскаму. Хутчэй за ўсё 10 % ад сумы, заплочанай пакупнікамі. Такая была завядзёнка. Альгерд спачатку парадаваўся, але потым даведаўся, што японцы панакуплялі вучнёўскіх кравідзікаў-эцюдзікаў у Масленікава і Маскоўскіх. Тады ён спакойна зрабіў аўтарскую копію “Нарач. Спакой” і прадаў у Беларускі дзяржаўны музей.

## 1977. Новая майстэрня

Не бывае ў жывапісца лепшага свята за пераезд у большую і святлейшую майстэрню. Малішэўскі атрымаў вялікую і сонечную майстэрню ў новым, збудаваным спецыяльна для мастакоў доме. Зладзіць пярэбары са старой майстэрні ў новую ён за-

прасіў сваіх студэнтаў. Усе пайшлі са спадзяваннямі на пачастунак, а я не пайшоў. Адносіны ў нас ужо былі напружаныя, ды і выпіваць з выкладчыкамі, калі сказаць шчыра, я не любіў. А выпіўкі, на якую так спадзяваліся мае аднакурснікі, не было. Пасля пярэбараў, Малішэўскі падсмажыў яечню, пакарміў змораных хлопцаў і выставіў іх за парог. Правільна, між іншым, зрабіў, па-настаўніцку. Студэнты напіліся без Малішэўскага, што таксама правільна. Напіліся так, што не прыйшлі раніцай на заняткі, але і Альгерд не прыйшоў, бо не бывае ў мастака большага свята за пераезд у большую майстэрню.

**1977. Мальберт**

Да мяне падыйшоў сябра мой — Мішка Нацэўскі і папрасіў дапамагчы яму скрасці ў вучэльні мальберт. Сябра просіць! Як тут не дапамагчы? Вынеслі мы новенькі мальберт з вучэльнай мансарды, спыніліся перакурыць за гаражамі, тамака я і спытаўся: “Нашто табе, Міш, мальберт?” — “Мне? Не трэба мне гэты мальберт… Мяне Малішэўскі папрасіў прынесці яму мальберт у новую майстэрню. А мальберт цяжкі…” — “Ён што, не можа сабе купіць мальберт?” — “Сказаў, што нейкія тэрміновыя замовы, што трэба хутка здаваць карціны, а мальбертаў у горадзе няма… Ты што не панясеш Малішу мальберт?” — “Панясу. Трэба, значыць трэба. Толькі калі нас заловяць за крадзёж дзяржаўнай маёмасці, Маліш нам не дапаможа!” — “Не заловяць. І ён сказаў, што толькі пазычае мальберт…” Мы валаклі мальберт з Даўгабродскай ажно на Друкарскую. Стаміліся страшэнна. І мальберт, калі яго доўга нясеш, аказваецца вельмі цяжкай рэччу. А мо ён быў такі цяжкі бо крадзены?.. Прынеслі, паставілі пад дзвярыма майстэрні, пазванілі. “А-а-а, прынеслі!” — сказаў Маліш, забраў мальберт і зачыніў дзверы. Ні “дзякуй”, ні “да пабачэння”. Ці вярнуў ён той мальберт у вучэльню, я не ведаю, зрэшты, не ён яго краў, а я з сябрам сваім Нацэўскім. Хацеў было напісаць, што раскайваюся. Не напісаў, бо не праўда.

## 1977. Выстаўкам

Выстаўкам — савет з чыноўнікаў і мастакоў, які вырашаў, што з твораў можна паказваць на выставе, а што не можна. Выстаўкам даваў яшчэ і парады па дапрацоўцы твораў. Мастакі выстройваліся ў доўгія чэргі і з хваляваннем чакалі дазволу на паказ сваёй працы гэтаму выстаўкаму. Чальцы выстаўкаму здзекаваліся з калегаў: прымушалі перафарбоўваць рамы, перамалёўваць твары, перапісваць краявіды… Наколькі гэта падвышала ўзровень тагачаснага мастацтва? У пэўных межах, канечне, падвышала, але толькі ў дазволеных межах. Усё, што было горшым за агульна прыняты стандарт, выстаўкам не прапускаў, але і лепшае не прапускалася, не прапускаліся і эксперыментальныя працы. Такі задоўгі ўступ неабходны, каб зразумець наступныя словы Альгерда: "Я дасягнуў такога ўзроўню, што проста прыношу на выстаўкам палатно і сыходжу! А потым яны мне звоняць, што купілі карціну, і я іду і атрымліваю ганарар…" Збольшага так яно і было, але было і па-рознаму, тады Альгерд спакойна казаў: "Не вельмі і хацелася!"

## 1977. Кіно

"Кіношнікі нічога не разумеюць пра жыццё мастака. На фільм "Андрэй Рублёў" можаш не хадзіць і не глядзець. У іх Рублёў не малюе… Ён у іх ходзіць, маўчыць, псіхуе… Што толькі не робіць іх кіношны Рублёў, усё, акрамя таго, што малюе… Яны не ведалі, як паказаць асноўнае — ягоную працу. Тады нашто было здымаць фільм пра Рублёва? Ну назаві ты таго кіношнага Рублёва Феафанам Грэкам, і нічога ў фільме не памяняецца…" Спрачацца з Малішэўскім я не стаў, і не таму, што мне не спадабаўся фільм Андрэя Таркоўскага, які я паглядзеў у Саюзе пісьменнікаў, куды яго правёз рэжысёр, шукаючы падтрымкі ў творцаў, каб атрымаць дазвол на паказ "Рублёва" у кінатэатрах. Спрэчак і так хапала. Я спытаў, а што варта паглядзець: "Вазьмі Жану Башук, вазьмі Галю Роберман і звадзі іх на "Старое ружжо"!" І я пайшоў і паглядзеў "Старое ружжо" з Нуарэ і Шнайдэр. Сюжэт? У 1944 годзе французскі лекар губляе жонку і дачку. Дзіця застрэлілі,

а жанчыну згвалцілі і спалілі агнямётам. Апалітычны і гуманны лекар пераўвасобіўся ў жорсткага мсціўцу. Помсцячы, ён забіў больш за дзесяць фашыстаў-гвалтаўнікоў. “Такім павінен быць мужчына, так трэба здымаць кіно!” — казаў мне Альгерд. Яго можна было зразумець, бо аператар рабіў варыяцыі на тэмы Дэлакруа, Рэнуара, Сіслея, Рэмбранта… Фільм атрымаўся жывапісны. Асобныя кадры чымсці нагадвалі карціны самога Малішэўскага, а галоўны герой меў Альгердаву мужнасць.

### 1979. Алкаголь

Альгерд Малішэўскі не піў. Шклянка віна ці чарачка лікёру — і ўсё. Для мастакоўскага асяроддзя нехарактэрная з’ява. Калі ўсе навокал п’юць, а ён не п’е, гэта выклікае асуджэнне. Толькі не ў выпадку з Малішэўскім. Яму дазвалялася не піць, як іншым дазвалялася піць запойна. Канешне, я лічыў, што мне можна піць, напівацца і скандаліць. Маўляў, таленту ў мяне хапае, і мае скандалы, бойкі і лаянкі даруюцца. Я піў… І ў такім п’яным, да пахіствання, стане сутыкнуўся ў горадзе з Малішэўскім. Я павітаўся. “Мне сказалі, што ты п’еш і скандаліш. Сказалі, што б’ешся і хуліганіш, а я не паверыў. Цяпер, бачу — дарэмна не верыў. Табе нельга піць. У цябе ёсць талент, і ты не маеш права яго змарнаваць!” Я пачырванеў. Мне было сорамна, вельмі. І яшчэ я зразумеў, што ў мяне недастаткова таленту, каб даравалі ўсе скандалы.

### 1985. Забароненая выстава

Справа мастака рабіць творы і ладзіць выставы. А ёсць яшчэ і дзяржаўныя чыноўнікі, якія абцяжараны абавязкам праглядаць творы і забараняць выставы. Цэнзура была, ёсць і будзе. Наіўна было б спадзявацца, што яе нехта некалі адменіць раз і назаўсёды. Цэнзура яшчэ ўвесь час і мяняе свае аблічы: з палітычнай яна перакідваецца ў эканамічную, з грашовай у рэлігійную… І кепскі той мастак, які не можа падмануць і абыйсці цэнзара-чыноўніка. Я — мастак кепскі, у мяне ўсё

жыццё праблемы з цэнзарамі. Тут не так намаляваў, там не тое сказаў, гэтага абразіў, той закрыўдаваў. Маю творчасць забараняли, забараняюць і будуць забараняць. Не магу сазаць, што да этага можна прывыкнуць. Больш за тое, забараняецца ж не ўся творчасць, а толькі асобныя творы, дзякуй Богу. Мне часам нават здаецца, што калі мой твор не забаранілі і жорстка не пакрытыкавалі, дый ён нейкі і незавершаны, і недароблены. Цяпер я кажу пра гэта ўсё з лёгкім сэрцам, а быў момант, калі мне жыць не хацелася з-за падобных забаронаў... Аднойчы ў восеньскім парку Люда Русава прапанавала мне паўдзельнічаць у выставе. Сабраліся мы — шэсць мастакоў і развесілі свае карціны ў "Доме літаратара". Назапрашалі сяброў, панавешвалі ў горадзе плакатаў. Паэт Танк і празаікі Карамазаў са Стральцовым папярэдне паглядзелі палотны і нават пахвалілі нас. Але за дзве гадзіны да адкрыцця нашай невялікай выставы "1+1+1+1+1+1=6" прыпаўзлі чыноўнікі. Яны выклікалі міліцыю, а тая не пусціла на выставу ніводнага чалавека, а нас прымусіла карціны паздымаць. Чалавек пяцьсот сабралася каля "Дому літаратара", але чыноўнікам было напляваць на меркаванне Танка, Карамазава і Стральцова, не кажучы пра нашае меркаванне. Пяць забароненых мастакоў: Люда Русава, Ігар Кашкурэвіч, Жэня Ліс, Эдзік Куфко і Сяргей Малішэўскі пайшлі ў майстэрню Валеры Мартынчыка, каб заліць сваё гора віном, а я пайшоў дамоў. На маю забароненую выставу наклалася яшчэ адна забарона. Калі я выйшаў з "Дому літаратара" зачыненага міліцыянтамі, да мяне падыйшоў Дранько-Майсюк. Ён даў мне папку з маімі вершамі і сказаў, што маю кнігу "Груд" забаранілі, што цэнзар не паставіў нейкі там дазваляльны штампік, што ў бліжэйшыя гады са тры выдаваць мяне не будуць нідзе. Свет счарнеў. Дома я выпіў гарэлкі, але свет не палагаднеў. Ён пасвятлеў толькі пасля званка Люды Русавай, якая паведаміла, што нам дазволілі развесіць карціны ў Саюзе мастакоў на дзве гадзіны. У гэтыя дзве гадзіны збяруцца ўсе паважаныя мастакі і скажуць нам, што яны думаюць пра наш жывапіс. Мастакоў сабралася шмат. Хто толькі не асудзіў нас. І Заір Азгур з Міхаілам Савіцкім, і Анатоль Анікейчык з Уладзімірам Стэльмашонкам... Нас асудзілі ўсе, акрамя Альгерда Малішэўскага. Ён нас пахваліў за мужнасць. Ён, той хто амаль ніколі нікога публічна не хваліў,

узяў і пажадаў нам не здраджваць мастацтву. Канечне, ён бараніў не толькі і не столькі нас, колькі самога сябе і свой жывапіс, але ад гэтага ягоныя словы, сказаныя ў нашую абарону, не становяцца менш каштоўнымі і дарагімі, прынамсі, для мяне — ягонага непаслядоўнага вучня.

### 1989. Вакзалы

Альгерд памёр на вакзале. Ці то некага сустракаў, ці то кагосьці праводзіў… Упаў і памёр. Мне бачыцца гэтае нечаканае падзенне вялікага чалавека. Бачыцца блакітны сполах на тварах выпадковых сведкаў…

### 1989. Акуляры

У труне Альгерда было не пазнаць. Я прывык да акуляраў на ягоным твары, а без акуляраў ён стаў для мяне амаль непазнавальны, чужы. І я развітаўся хутчэй з фотаздымкам, чым з целам. Я развітаўся з выяваю, з выяўленчым мастацтвам, якому Альгерд Адамавіч ахвяраваў сваё жыццё дарэшты.

### 2006. Партрэт сына

Альгерд Малішэўскі напісаў партрэт сына ў суровым стылі. Гэты хутка зроблены эцюд, безумоўна, адна з найлепшых работ у спадчыне Малішэўскага. Маленькі хлопчык глядзіць на свет вялікімі цёмнымі вачыма. Хлопчык вырас, стаў мастаком, зрабіўся вельмі самабытным жывапісцам-казачнікам, але ўсе яшчэ не сабраўся напісаць партрэт бацькі.

# АЛЕГ

## Словы пра выкладчыка Алега Хадыку

### Пыл на люстэрку

На барселонскіх вуліцах шмат кінутых аўто. Яны пакрытыя пылам і брудам. Дзеці пальцамі пішуць і малююць на такіх машынах… Згадалася гісторыя, расказаная выкладчыкам архітэктурнай кампазіцыі — Алегам Хадыкам. Ён распавядаў гісторыю з нагоды, а нагодаю была мая кампазіцыя. Разважаючы пра страх, які выклівае ілюзорная бясконцасць у афортах Джавані Бацiста Піранэзі “Сюіта. Турмы”, я вырашыў зрабіць сваю версію прасторы, запоўненай жахам. Пакой, звычайны пакой, цалкам зашываўся люстэркамі, столь і падлога таксама рабіліся люстранымі. Пасля абшыўкі ўсе люстэркі разбіваліся, біліся, але так, каб не высыпаліся, а заставаліся бітымі на плоскасцях. Бітыя люстэркі засцілаліся празрыстым шклом. Атрымліваўся пакой шкляны і гладкі. Чалавек, трапляючы ў такую прастору, адчуваў, прынамсі, мусіў адчуць жах, бо кожны ягоны рух множыўся і рассыпаўся на безліч рухаў. Рэха рухаў мусіла спарадзіць жах. Хадыка, праслухаўшы мае тлумачэнні да малюнкаў, сказаў, што гульні з люстэркамі ў мастацтве прытойваюць у сабе небяспеку, а ў якасці прыкладу ён і распавёў гісторыю пра сябе і маму. Пасляваеннае жыццё было паўгалоднае і паўжабрацкае. Безбацькоўства дадавала пабытовыя цяжкасці. Вучань пачат-

ковай школы — Алег, прыйшоўшы дамоў пасля заняткаў, убачыў у вітальні пыл на люстэрку. Указальным пальцам ён акуратна напісаў такі сказ: “Чистота — залог здоровья!” Хлопчык спадзяваўся, што маці пахваліць яго за такі шэдэўр. Здарылася адваротнае: маці заплакала перад запыленым люстэркам. Яе можна і варта зразумець. Яна адна гадуе сына, робіць усё, каб яму было добра і, адпаведна, чакае ўдзячнасці, а атрымлівае здзеклівы жорсткі папрок. Слёзы. Глядзець у пыльнае люстэрка, якое загаварыла з табою, сапраўды страшна. Той урок я запомніў, і цяпер асцярожна абыходжуся з люстэркамі, як у мастацтве, так і ў жыцці.

**Пінжак**

Алег Хадыка загадаў сваім адданым вучням, Цішыну і Верамейчыку, пайсці ў краму і купіць яму пінжак. Харошы пінжак — праблема, заўсёды. “Па тым, як выглядаю я, будуць судзіць на колькі разумныя і адораныя вы!” — казаў Хадыка вучням. Тыдзень шукаўся пінжак для выкладчыка архітэктурнай кампазіцыі — і знайшоўся. Выдатны, шэры, у елачку, пінжак вельмі пацешыў патрабавальнага выкладчыка. Толькі радасць была кароткая, бо такі самы пінжак у шэрую елачку быў заўважаны на няздарным мастачку Выроднічу.

**Свядомасць**

Філосаф Алег Хадыка (Хадыка, безумоўна, філосаф) пераконвае мяне, што свядомасць чалавека ўтвараюць чатыры рэчы: мастацтва, эротыка, рэлігія і навука. Абвергнуць гэтую тэзу не магу. Пакуль што не магу…

**Буракі**

Назіраць за выкладчыкам з вулічнай цемры праз вітрыннае шкло асветленай крамы вельмі цікава. Павер ты мне. Я ішоў сабе па

вуліцы, калі заўважыў у магазіне Алега Хадыку. Ён разглядаў слоік кансерваваных буракоў. Няўжо наш выкшталцоны архітэктар есць гэтыя кепска прыгатаваныя буракі? Іх жа нават гаротныя п’янтосы вельмі рэдка купляюць сабе на закуску… Сам адказаць на пытанне я не змог, а таму на лекцыі спытаўся ў Хадыкі пра буракі. “Цікаўнасць! Элементарная цікаўнасць завяла мяне ў той гастраном. Я сапраўды разглядаў паўлітровы слоік з буракамі і чытаў пра іх на этыкетцы. Я і газеты чытаю, і цікаўлюся сельскай гаспадаркай. Наогул, чалавек жыве, пакуль ён цікаўны і зацікаўлены. Абыякавы чалавек не можа быць мастаком. Так што будзь цікаўны”.

**1958 год**

Чалавеку заўсёды хочацца паболей ведаць пра час свайго нараджэння. Прынамсі, слухаць цікава. Таму я захоплена выслухоўваў успаіны выхладчыка Хадыкі пра ягонае юнацтва, пра час майго з’яўлення на свет. Уразіў адзін фрагмент з ягонага аповяда: “Страшэнна не хапала гумару. Усё навокал было сур’ёзнае, спакойнае і засяроджанае. А мне хацелася смешнага. Я хадзіў па вуліцах, ад аднаго стэнда з газетамі да другога. Памятаеце, былі такія зашклёныя каробкі, у якіх на цвічках віселі разгорнутыя для чытання свежыя газеты? Я адшукваў гумарыстычную калонку, каб пасмяяцца і пайсці за наступнай порцыяй смеху…” Дакладнае назіранне: маё пакаленне з’явілася ў спакойны і сур’ёзны час. Усё лепшае, што мы рабілі, зрабілі і робім, робіцца сур’езна. Асноўная рыса маіх раўналетак — сур’ёзнасць. А гумар? Весялосць і гумар — выдатныя рэчы, асабліва для таго, хто навучыўся сур’ёзна глядзець на свет.

**Акуляры**

Выкладчык у акулярах выглядае правільна. Ну каму, як не выкладчыку, пасуюць акуляры? Можна задумацца і пачаць пералік іншых прафесій, але прасцей паверыць, што выкладчыкам і настаўнікам акуляры пасуюць лепш, чым усім астатнім. Хадыка

акуляры насіў. Таму ягоная гісторыя пра канфлікт у трамваі выглядала праўдзівай… У паўпусты трамвай зайшоў п’янаваты рабочы ў шэрай кепачцы. Яго хістанула на чалавека ў акулярах — акулярніка. “Ты, інцялягент, чаго піхаешся? Зараз як урэжу! Развялося вас — акулярнікаў; ні прайсці, ні праехаць!” Рабочы пачаў аглядацца па баках, шукаючы падтрымку публікі. Ён, відавочна, спадзяваўся, што пралетарскіх безакулярных твараў у трамваі будзе многа. А пабачыў ён зусім іншую карціну: кругом былі адны акулярнікі. У трамваі ехалі людзі ў акулярах, усе ў акулярах, акрамя яго. Рабочы перапужаўся так, што моўчкі вярнуўся да дзвярэй і выйшаў на першым жа прыпынку. Такую павучальную гісторыю пра акуляры я пачуў ад Хадыкі. Цяпер раскажу іншую, сваю гісторыю… На аддзяленне жывапісу прынялі студэнта ў тоўстых акулярах. Тые акуляры, не памыліўшыся, можна называць біноклямі. Але сярод іншых студэнтаў гэны бінакулярнік вызначаўся не столькі кепскім зрокам, колькі тупасцю. Ён быў тупы і няздарны настолькі, што Хадыка сказаў: “Трэба гнаць!” Я б пагадзіўся са сваім выкладчыкам, каб ён не назваў прычыну, па якой трэба выгнаць няздару. “Вы бачылі, якія біноклі ў яго на носе? Ён прафнепрыдатны! Ён не можа быць жывапісцам, бо ў яго няма вачэй!” Як я заперажываў! Не за тупога няздарнага пэцкуля ў біноклях, а за Алега Хадыку заперажываў. Ён не меў права папракаць студэнта акулярамі, а папракнуў.

### Няздары

Людзі малаталенавітыя, няздарныя, нахабныя часта мне кажуць, што даўно пераўзышлі Алега Хадыку як настаўніка, як мастака і як творцу. Такія заявы толькі пераконваюць мяне ў адваротным. Я не ведаю ніводнага з вучняў Хадыкі, які б проста наблізіўся да ягонага ўзроўню.

### Вокны

Стоячы на скрыжаванні пад светлафорам, я разглядаў вокны сваёй кватэры. За гэтым заняткам мяне і заспеў Хадыка. “Куды

глядзіш? Пра што думаеш?” — “У маёй кватэры дзесяць вокнаў і дванаццаць дзвярэй. Іх трэба памяняць на новыя…” — “Дзе твае вокны?” — “На другім паверсе…” — “Паважаю! За дзесяць вокнаў у кватэры чалавека можна паважаць…” Хадыка пайшоў… Запалілася зялёнае святло, і ён перайшоў вуліцу. Алег Хадыка вельмі акуратна пераходзіць вуліцу, ён ходзіць выключна на зялёнае святло.

**Водар будоўлі**

Як доўга рамантуюць мост праз Свіслач… Другі год робяць і ніяк не скончаць. Даводзіцца лезці праз бруд, пераскокваць лужыны, выслухоўваць мацюкі рабочых. А сягоння мяне ледзь машына не збіла, бо разяваты… Іду праз мост, тамака свежыя дошкі ляжаць, і так яны пахнуць, такі ў іх водар здаровы і смалісты, што я ажно крок прыпыніў, тутака джып і прыкаціўся. Абышлося адно сполахам. Крочу далей і ўспамінаю размову з Хадыкам пра водар будоўлі. Аднойчы мы з ім узняліся на касцёльную столь. Ад той столі мала што засталося, замест столі быў зроблены дашчаты насціл. Стаімо на гнуткіх дошках, пад намі метраў з дваццаць вышыні і цэментовая падлога; бразнешся, не збяруць. “Ты любіш водар будоўлі?” — спытаў Хадыка. Я шчыра прызнаўся, што не люблю. “А я вельмі люблю пах будоўлі, ёсць у гэтым водары свежы стваральны дух. Я ж і архітэктарам стаў, бо люблю будоўлю, люблю водары будаўнічых матэрыялаў… А ты які водар любіш?” — “Бібліятэчны!” — адказаў я не задумваючыся.

**Запісы**

На лекцыях па гісторыі архітэктурнай кампазіцыі я дазволіў сабе пацікавіцца ў выкладчыка, ці запісвае ён свае лекцыі. “Раней запісваў. Прыходзіў дамоў, сядаў за стол ды натаваў. Цяпер сілаў рабіць запісы не засталося. Прыходжу дамоў цалкам знясілены…” Пачуўшы такое шчырае прызнанне ад аднаго з найлепшых выкладчыкаў, я страшэнна запеpажываў. Як так,

выдатныя лекцыі ніяк не захоўваюцца! Майго ўласнага імпэту канспектаваць лекцыі Хадыкі надоўга не хапіла. Я кінуў запісваць з дзвюх прычынаў… Па-першае, я не паспяваў пісаць і ўдзельнічаць у размовах, палеміках і абмеркаваннях, а роля пасіўнага назіральніка мяне зусім не задавальняла. Па-другое, запісы лекцыяў Хадыкі рабіў Мікола Залатуха. Значна пазней, пачытаўшы розныя нататкі Залатухі, я пераканаюся, што дарэмна паспадзяваўся на ягоную педантычнасць, але гэтае адкрыццё будзе зроблена запозна. Тое што чуў, бачыў і натаваў Мікола, моцна адрозніваецца ад таго, што чуў і пачуў я.

**Верш**

“Каб навучыцца самому, трэба вучыць іншага”, — любіў паўтараць Хадыка. Мо таму я і папрасіў у яго дазвол на чытанне некалькіх лекцыяў. Сам Хадыка мусіў быць нібыта студэнтам, я рабіўся нібыта выкладчыкам на пару заняткаў у першакурснікаў. Я вырашыў вучыць мастакоў пісаць вершы. Асноўнай праблемаю было двухмоўе. Каб зняць праблему, я прапанаваў усім, хто пісаў па-руску, напісаць адзін беларускі верш, і наадварот — нашым беларускамоўныя мастакам у якасці матэрыялу прапаноўвалася руская мова. Рускамоўныя пагадзіліся адразу, яны нават праблемы ў гэтым ніякай не бачылі, а вось беларускамоўныя заўпарціліся, іх было ўдвая меней, але трымаліся яны маналітна. Рацыянальнасць перамагла, і мне ў адной асобнай аўдыторыі на адным занятку ўдалося паставіць праблемы паэтыкі і лірыкі вышэй за праблему мовы. Я не выкарыстоўваў пагрозаў і не страшыў студэнтаў кепскімі адзнакамі. Але чамусьці Алег Хадыка напісаў мне верш менавіта пра “двойкі”. У тым вершыку Хадыка распавядаў, як у яго пад вокнамі загучала музыка Шапэна… Хавалі хлопчыка, якога забіў бацька, ён ударыў яго пасам, ударыў няўдала — спронжкаю па галаве, ударыў і забіў. А біў бацька свайго сына-школьніка за кепскую вучобу, за “двойкі” ў дзённіку… Яшчэ студэнт-выкладчык-паэт Хадыка казаў, што мая творчасць падобная да ягонага верша. Я пярэчыў, бо ніколі не працаваў з сюжэтам, дзе бацька забівае сына, як і з сюжэтам, дзе сын забівае бацьку, я таксама не

працаваў. Сыназабойства і бацьказабойства — не мае сюжэты, я на тым настойваў і перамог, бо выконваў ролю настаўніка.

### Асіраценне

Пад кіраўніцтвам Алега Хадыкі была напісана вялікая карціна ў новы катэдж. Пэўны час яна правісела ў ім на сцяне, а потым аўтары забралі палатно на выставу. «Мы без карціны асірацелі!» — паскардзіліся гаспадары катэджа мастакам. Хадыка мне з гонарам распавёў пра свой поспех і некалькі разоў паўтарыў слова «асірацелі».

### Ухваленні

Некалі архітэктар Хадыка ўваходзіў у мастацкую раду, якая зацвярджала тэмы, эскізы і выкананне манументальна-дэкаратыўных твораў. Калі прасцей, заробак мастакоў-манументалістаў моцна залежаў ад меркавання Хадыкі. Ён мог спляжыць любы малюнак, пасмяяцца з любога вітража ці мазаікі. Зрэшты, Хадыку і запрасілі ў мастацкую раду за ягоную здольнасць дакладна ацэньваць архітэктурную сітуацыю. А хто любіць крытычныя заўвагі ды парады? Мастакі Хадыку ўзненавідзелі. Гэтаму эскіз не зацвердзіў, таго прымусіў намаляванае перамалёўваць, а ў некага наогул замову адабраў… Злых на Алега Хадыку назбіралася шмат. Каб зменшыць нянавісць да сябе, Хадыка вырашыў хваліць мастакоў. Ён прымушаў сябе знаходзіць добрыя якасці ў самых безнадзейных працах. Ён спадзяваўся, што такім чынам нянавісць будзе ўраўнаважана, калі не любоўю, дык добразычлівасцю. Дарма спадзяваўся. Нянавісці стала шматкроць болей, бо ўсе кампліментарныя словы ўспрымаліся азлобленымі манументалістамі за вытанчаны здзек. Давялося архітэктару адмовіцца ад задумы з ухваленнямі пасрэднасцяў і вярнуцца да жорсткай праўды.

## Падыход

Ёсць шмат розных падыходаў да творчасці, адзін з іх Хадыка параіў Юрыю Маліноўскаму: “Трэба працаваць так, каб пераблыталіся дзень і ноч, каб знік час, і тады ў безчасовасці можа і нарадзіцца твор…” Юра працаваў дні наскрозь і ночы навылёт. Безумоўна, такі падыход можа стацца самазнішчальным для творцы, але ён правільны. У выканаўцаў можа быць рэгламентаваны працоўны дзень, у мастака выходных дзён ніколі не было і не будзе. Калі ты мастак, ты мусіш прымаць безчасовасць.

## Хадыка і Хадыка

Алег Хадыка — бязбацькавіч, удовін сын. Для папярэдніх пакаленняў, у якіх мужчыны гінулі на сусветных войнах, удовіны дзеці не выклікалі такой пільнай увагі, як у маіх раўналеткаў. Чамусьці мяне моцна напружваў генеалагічны прабел у біяграфіі настаўніка. І я вырашыў знайсці гіпатэтычнага бацьку для Хадыкі…
Можна інакш распавесці гэтую гісторыю… Чытаючы авангардную паэзію 20-х і 30-х гадоў дваццатага стагоддзя, я зацікавіўся вершамі Уладзіміра Хадыкі, пра якога Янка Купала ў 1934 годзе на Каўказе, пішучы “Нібы эпіграмы”, склаў верш:

Валодзю Хадыку

*Хадыка хадыкае,*
*Дыбае,*
*Сто вершаў задумністых*
*Выбаіў.*

*Мой мілы, мой добры Валодзя!*
*Па-мойму, во гэтак здаецца:*
*“Задумністых” можа ўжо годзе,*
*А болей — ад сэрца; ад сэрца…*

Паэт, на маю думку, ідэальна падыходзіў на ролю бацькі Алега Уладзіміравіча Хадыкі. Падыходзіла імя і прозвішча. Падыходзілі даты: Алег Хадыка нарадзіўся 01.01.1942, а даты жыцця Уладзіміра Хадыкі былі 1905–1942 (?) гады. Уладзімір Хадыка быў рэпрэсаваны і загінуў у рускім лагеры, на яго абрынулася велізарная брыла ў каменаломні.
Каб не хадзіць кругам вокол пытання, я задаў яго Алегу Уладзіміравічу: "Паэт Уладзімір Хадыка ваш тата?" — "Не… Маці казала, што ён далёкі сваяк майго бацькі…" — "А чым займаўся ваш бацька?" — "Ён быў філосафам…"

**Непатрэбнасць**

Ці тлумачыў табе нехта пра непатрэбнасць тваёй прафесіі? Не? А мне патлумачылі на першых занятках, калі я толькі паступіў у тэатральна-мастацкі інстытут. Я быў шчаслівы, мяне раздзімала ад пыхі, я верыў у сваю абранасць і выключнасць. А тут як вядро вады на галаву вылілі: "Вы думаеце, што вы неабходныя ў гэтым свеце са сваімі вітражамі і роспісамі? Памыляецеся! Людзі могуць цудоўна абыходзіцца без вашых малюнкаў на вокнах і сценах. Таму, калі ў каго яшчэ засталіся сілы, уцякайце адсюль. Знайдзіце сабе іншы, сапраўды патрэбны людзям занятак, і працуйце, і атрымлівайце радасць ад жыцця…" Першая лекцыя, пачутая мною ад Алега Хадыкі, была прысвечана малапатрэбнасці манументальнага мастацтва і жорсткай волі замоўцы, які цалкам канралюе працэс работы. Ці паверыў я тады ў словы выкладчыка? Не так і важна. Галоўнае: я запомніў мэсідж, і пыхі ў мяне крыху зменшылася.

**Скарачэнні**

Хадыка папрасіў не скарачаць словы ў час запісвання. Ён нават сказаў, што словы наогул нельга скарачаць. Мяне зацікавіла настойлівасць выкладчыка. На маё пытанне, чаму нельга скарачаць словы, Хадыка сказаў: па-першае, скарочанае слова цяжка прачытаць, і па-другое, я павінен паверыць выкладчыку.

Канечне, я паверыў выкладчыку, але мяне яшчэ цікавіла, хто яго навучыў запісваць слова цалкам. Хадыка згадаў, як, праглядаючы нататнікі рэжысёра Эйзенштэйна, ён не пабачыў ніводнага скарочанага слова. Нават калі Сяргей Эйзенштэйн рабіў хуткую нататку, едучы ў дрыготкім трамваі, ён усё адно пісаў слова цалкам. Аповед Хадыкі пра Эйзенштэйна ў трамваі прагучаў пераканаўча. З таго часу я не скарачаю словы.

# ГЕН

## Словы пра мастака Гену Хацкевіча-Мінскага

### Гена і бутэлька піва

У пачатковай школе хацелася расці і вырасці як хутчэй, ажно да трымцення ў целе мне карцела зрабіцца дарослым. Рос я, тады так падавалася, ну зусім марудна. Другія раслі хутчэй. І росту я быў зусім малога, сярод хлопчыкаў у класе стаяў чацвёртым, калі адлічваць ад ніжэйшага. Ніжэйшымі за мяне былі Мацяш, Панасюга і Навуменка. Потым я стаў вышэйшы за Хвастовіча. Я вельмі сабою заганарыўся. Ганарыўся, што расту. Каб быць дарослымі, мы — я і Мацяш — курылі. А калі студыя выяўленчага мастацтва на вясновых вакацыях выправілася ў вандроўку на эцюды ў Лагойск, я з Яўменавым дзеля даросласці набыў у краме сваю першую бутэльку піва. Яўменаў быў за Ван Гога, а я быў за Гагена. Мы як сапраўдныя дарослыя мастакі вырашылі выпіць. Замест абсэнта ў нас была пляшка піва “Жыгулёўскага” з маленечкай жоўтай папяровай налепкаю ў выглядзе паўмесяца. Толькі мы сабраліся тое піва піць, як да нас у гатэльны пакой прыйшоў дзевяцікласнік Гена Хацкевіч-Мінскі. Ён забраў “Жыгулёўскае”, сказаўшы, што мы — малыя і не маем права піць піва і курыць. Яшчэ ён сказаў, каб мы не зачынялі гатэльны пакой, бо за намі ён цяпер будзе сачыць. Нашае піва Хацкевіч-Мінскі выпіў са сваім сябруком — васьмікласнікам Свінаровым.

## Намалёваныя сандалеты

Калі развярнуцца да будучыні спінаю, а да мінулага тварам, дык можна ўбачыць творы, якія паўплывалі на Гену Хацкевіча вельмі моцна. Зараз я схільны думаць, што прысланыя з Францыі малюнкі і гуашы ўразілі яго больш за ўсе скарбы з парыжскага Луўра ды з пецярбургскага Эрмітажа. Малюнкі прыслалі ў палац школьнікаў, куды мы з ім хадзілі ў студыю выяўленчага мастацтва. Наш настаўнік, Сяргей Пятровіч Каткоў, паслаў нашы малюнкі ў Францыю, а ўдзячныя французы даслалі нам свае творы. Мы апынуліся, як цяпер кажуць, у шоку. На паперы з выціснутымі ў кутку каронамі былі намалёваны скураныя сандалеты. Такія брунатныя, моцна паношаныя сандалеты проста ляжалі, як жывыя, на пяшчотна-жоўтым аркушы паперы. Былі яшчэ малюнкі з кветкамі і травою, але сандалеты скарылі ўсіх. Мы ўжо ведалі пра чаравікі Ван Гога. Але ягоныя чаравікі былі недасяжна далёка, за жалезнай, непераадольнай для большасці з нас заслонаю, а сандалеты былі тут, у нас, у нашай майстэрні, у нашых, можна сказаць, руках. Гена захапляўся сандалетамі больш за ўсіх. “Так і трэба маляваць! Так і трэба пісаць карціны! Каб кожная стужка, кожная дзюрка ў той скураной стужцы была, як жывая. Каб праз дзюрку тую паветра магло прайсці!”

## Сляды на партрэце

У войску Гена служыў недалёка ад роднага Мінска — у Гародні. Пра войска расказваць любіў, у яго быў альбом са здымкамі ды малюнкамі. З альбомам на каленях Ген проста песні спяваў пра войска. Усе песні, якія спяваў Хацкевіч, былі жартоўныя. Сум ён не шанаваў. Маркота — не ягоны стан. Так і пра войска ён расказваў са смехам, нават пра здзекі над сабою, казаў і смяяўся. Мастак і ў войску — мастак. Гену даручылі зрабіць вялікі, тады усё рабілася вялікім, партрэт Леніна. Ён тыдзень таго Леніна маляваў, а скончыўшы, вырашыў, што другі раз Ленін намалюецца значна хутчэй, а часу на яго маляванне можна папрасіць і ўзяць столькі ж. Пачатак службы, Ген не высыпаўся, а тут мелася перспектыва доўга і салодка паспаць. Ён паклаў Ле-

ніна на зямлю і пахадзіў па ім. Раніцай Ген сказаў прапаршчыку, што нейкі вандал сапсаваў партрэт правадыра пралетарыяў. Прапаршчык, ён жа і дырэктар клуба, загадаў аглядаць боты ўсіх, хто мог зайсці ноччу ў клуб. Фарба знайшлася на ботах самога прапаршчыка. Гэта не толькі не ўратавала Гену, а, наадварот, дадало некалькі цяжкіх дзён у тэрмін зняволення. Хацкевіч прасядзеў у камеры-адзіночцы цэлы тыдзень. Адслужыўшы тэрмін, едучы на чыгуначны вакзал, каб нарэшце вярнуцца ў Мінск, Ген убачыў у тралейбусе помслівага садзюгу-прапаршчыка. Ён стаяў у цывільным, стаяў ціха і рабіў выгляд, што не ведае радавога Хацкевіча. А Ген падыйшоў да яго ўшчыльную і стаў сваім дэмбельскім ботам на цывільны чаравік зласлівага прапара. Так і прастаялі яны моўчкі да самага чыгуначнага вакзала.

### Харакіры на сцэне

Ген любіў сцэну. Прыродная схільнасць да эпатажу, натуральная эксцэнтрычнасць дапамагалі яму трымаць на сабе ўвагу вялікай залы. У часы нашае вучобы ў тэатральна-мастацкім інстытуце было модна ладзіць капуснікі… Не перфомансы, не акцыі, не інсталяцыі, не КВН, а капуснік — вясёлы, задзірысты, запамінальны спектакаль складзены з кароткіх сцэнак. З усіх капуснікаў, у якіх удзельчаў і якія сам ладзіў Гена Хацкевіч, мне запомніліся два. Адзін быў з пачварным змеем-цмокам. Гэты змей харчаваўся студэнтамі-першакурснікамі, а гадзіў студэнтамі-дыпломнікамі. Працэс навучання-straўлівання сімвалізавала топанне і лопанне паветраных шарыкаў, якіх у цмоку было поўна. Сама пачвара была пашытая з брудныхануч. Цмок выпаўз на сцэну, паеў, папукаў, пагадзіў і споўз са сцэны. Спаўзаць было цяжка, бо першакурснікам ні халеры не было відаць у той змяюцы. Сярод першакурснікаў на той час якраз быў я. Другі капуснік, зроблены Хацкевічам, мог скончыцца для яго выгнаннем з інстытута, але не скончыўся… Выкладчыкі вырашылі не факусаваць увагу грамадскасці на выхадцы Гены. А выхадка была выразная. Ген проста на сцэне вялікім нажом разрэзаў сабе жывот так, што кішкі пачалі вывальвацца. Ген з жудаснымі

крыкамі пачаў кідаць вантробы ў залу. Выкладчыкі, што сядзелі ў першых радах, знямелі ад страху і агіды. Студэнты, што сядзелі за выкладчыкамі, таксама не адразу зразумелі, што Гена кідае ў іх не сваімі вантробамі, а свінымі кішкамі, загадзя купленымі ў гастраноме. Гену ўратавала ад выгнання з інстытута тое, што яго палічылі за поўнага дурня. Шмат мастакоў у гэтым свеце ратавалася тым, што іх лічылі маргіналамі і неадэкватамі. Такое стаўленне да мастакоў выратоўвала Гену шмат разоў.

### Сонечнасць і Свінароў

Ёсць адна рыса ў абліччы Гены Хацкевіча, якую інакш як сонечнасць і не назавеш. Ён увесь ззяе. Чырвоны, блакітны, жоўты колеры перамешваюцца ў ім, каб стварыць непаўторнае аптымістычнае калейдаскапічнае ззянне. Апранаецца Гена ярка: аранжавыя кашулі і зялёныя штаны, пурпуровыя кеды і малінавыя шкарпэткі, белыя курткі і сінія пальчаткі... Да яго вечнай усмешкі, да вясёлых вачэй, да румяных шчок і цёмных кудзераў усё пасуе, але ён выбірае найярчэйшае, найстракацейшае, найарлекіністае, каб падкрэсліць, каб дадаць да сваёй радаснай сонечнасці яшчэ крышку святочнасці. Аднойчы Гена схібіў і пашыў сабе з чорнага аксаміту нагавіцы з пінжаком. Такі быў той аксаміт чорны-чорны, такі глыбока-чорны, такі бяздонна-чорны, што нешта чарнейшае і ўявіць цяжка. У гэтым навюткім гарнітурчыку ён і забег да сябра-жывапісца, Валодзі Свінарова, у майстэрню. “Ну як табе? Праўда, цудоўны строй? Я пра такі марыў!” Сябра Свінароў прапанаваў гарбаты папіць. Ген не адмовіўся. Ён паразглядаў сяброўковы карціны, пакуль той напой гатаваў, а потым сеў на крэсла. “А-а-а!!!” — крык выбухнуў так, што Свінароў ледзь не ўпісяўся. “Ка-а-асцюм!!!” — Ген круціўся пасярод майстэрні, спрабуючы зірнуць на сваю дупу. На чорным аксаміце ільснілася і пералівалася алейная вясёлка. Ген сеў на палітру, дзе жывапісец Свінароў шчодрай рукою панавыціскаў яркіх фарбаў. Ідучы рабіць гарбату, ён кінуў палітру на крэсла, а Хацкевіч сеў на яе. Нагавіцы прапалі, бо Генка спрабаваў іх адмыць шкіпінарам, цёр мылам, драў губкаю, а нарэшце, псіханулўшы, падраў наласкуты. А як падраў, так і

супакаенне да яго прыйшло. “Пінжак застаўся! Галоўнае — пінжак!” — разважаў Ген, ідучы ў краму па віно. Страту штаноў сябры адзначылі добрай выпіўкаю, падчас якой зрабілі выснову, што Хацкевічу не трэба насіць радыкальна-чорную адзежу, яму трэба заставацца сонечным.

### Забаронены прыём

У мастацтве ёсць забароненыя прыёмы. Напрыклад, на тэатральнай сцэне сабаку нельга паказваць жывым сабакам. Артысты граюць на сцэне і сабак, і катоў, і коней, што цалкам натуральна. А з’яўленне на сцэне нават добра выдрэсіраванага цуцыка — антымастацтва, натуралізм і глупства, бо самы нікчэмны сабачка лёгка забярэ ўсю ўвагу гледачоў, забярэ нават у народнага-разнароднага артыста. Таму прафесійныя мастакі і артысты не паказваюць сабаку сабакам. Нават на арэне ў цырку сабачка выконвае ролю артыста-акрабата, а не ролю сабакі. Але Ген змог “паказаць сабаку сабакам” і застацца ў прафесійным мастацтве. Твор ягоны называўся “Пралескі”. Гена заклеіў-заляпіў усё палатно сатлелымі ды напалову спарахнелымі леташнімі лісцямі. А на гэтым шэра-брунатным тле намаляваў тэмпернай фарбаю бэзавыя кветкі пралесак. Палатно натуральна запахла вясною, ад яго сыходзіў водар сакавіка. Карціна “Пралескі” доўгі час вісела ў кабінеце колеразнаўства. Яно вісела, каб нагадваць простым мастакам, што сабаку нельга паказваць сабакам.

### Ракаўкі-пярловіцы

Ген марыў пра Парыж, пра чырвонае бурбонскае, пра белае і ружовае, пра смажаныя каштаны, пра вустрыц… Чаму ім — французам — можна высмоктваць мяса з ракавак, а нам няможна? Чаму яны — французы — ужо навучыліся есці жабак, а мы ўсё ніяк не навучымся? Ген задаваў гэтыя пытанні сабе, калі блукаў з эцюднікам па берагах Браслаўскіх азёраў. Кулінарную рэвалюцыю ў Беларусі Ген вырашыў распачаць з пярловіц, з вялікіх азёрных ракавак. Ён вырашыў ракаўкі зварыць,

а змесціва звараных ракавак з'есці. Каб рэвалюцыю ў тутэйшай кулінарыі было рабіць не сумна, Ген запрасіў у рэвалюцыянеры свайго аднакурсніка Сяргея Малішэўскага. Яны доўга, больш за гадзіну, варылі ў кіпені ракаўкі-пярловіцы. Потым Ген узяў змесціва адной ракаўкі ў рот і праглынуў. Усе думалі, што Хацкевіч праглынуў. Насамрэч ён не праглынуў, а праглынуў вараную пярловіцу якраз Малішэўскі, думаючы, што Ген праглынуў. Ён трымаў мяса пярловіцы за шчакою. А Малішэўскі яго заглынуў, але ягоны страўнік сціснуўся ў ванітным спазме, і пярловіца вярнулася ў талерку. Туды ж выплюнуў і Ген сваю пярловіцу, дастаную языком з-за шчакі. Кулінарная рэвалюцыя скончылася бясслаўна. Эксперыментаваць з беларускімі жабамі Ген не наважыўся.

**Песні і навушнікі**

Ген заўсёды спяваў. І яго маці спявала. Яна любіла спяваць за сталом разам з гасцямі. Некалькі разоў я трапляў за стол разам з мамай Гены Хацкевіча, і кожны раз мы спявалі. Яна спявала самыя звычайныя песні, а Гена спяваў адметныя. Ён спяваў:

*Трыпер-пер-тоцын. Нацын-тацын.*
*Вер-вер-сале. Херцын-мерцын.*
*Шышка з перцам. Данцын-грыпцын. Гоп-цаца.*
*Цягнуць за нос мертвяца…*

А яшчэ Ген спяваў душэўную сагу пра калгасніцу Дусю:

*І захацелася калгасніцы Дусі*
*Абзавесціcь хазяйствам в новам фкусе,*
*І што б на зажытачны манэр*
*Паявілась всё і напрымэр:*

*І кравать з раскрасівымі шышкамі,*
*Туалетнае мыла ТэЖэ,*
*Чайні-чачкі, ложа-чачкі, віла-чачкі,*
*І прымус на скаварадзе.*

*А яшчэ: паціфон са спласцінкамі,*
*Лісапет на драўлянай хадзе,*
*Чорныя боты з пазбацінкамі…*
*Вось што была в Дусінай мячце.*

*І мчыцца поезд, у вагоне качка,*
*А у Дусі в чулке грошай пачка,*
*Тут падзапрапал яе чулок,*
*І пішы “Прашчай на долгі срок…”:*

*І краваць з раскрасівымі шышкамі,*
*Туалетнае мыла ТэЖэ,*
*Чайні-чачкі, ложа-чачкі, віла-чачкі,*
*І прымус на скаварадзе.*
*А яшчэ: паціфон са спласьцінкамі,*
*Лісапет на драўлянай хадзе,*
*Чорныя боты з пазбацінкамі…*
*Всё, што была в Дусінай мячце.»*

*І тут патходзіт к Дусі праваднічы:*
*“Ці ж ня Вы згубілі той чулок?”*
*“Вой вы, даражэнькія, знайшліся!*
*Зраствуй, судзьбы шчаслівай рок,*

*І краваць з раскрасівымі шышкамі,*
*Туалетнае мыла ТэЖэ,*
*Чайні-чачкі, ложа-чачкі, віла-чачкі,*
*І прымус на скаварадзе.*
*А яшчэ: паціфон са спласьцінкамі,*
*Лісапет на драўлянай хадзе,*
*Чорныя боты з пазбацінкамі…*
*Всё, што была в Дусінай мячце».*

Адкуль Ген браў такое? На якіх ускраінах Мінска павывучваў? Але ж павывучваў!
Апошнім часам Гена пакутаваў ад пытанняў: “Чаму людзі не спяваюць? Валодзя, яны ж слухаюць песні, слухаюць паўсюль, куды ні зірні — паўсюль людзі ў навушніках… Слухаць слуха-

юць, а спяваць не спяваюць… Чаму?” — “Проста змянілася парадыгма”, — адказаў я.

## Нацюрморт у прыбіральні

Малаапетытная гісторыя з кавалкам лайна! Толькі выкінуць яе з творчасці Гены немагчыма. Здарылася тое на Браслаўскіх азёрах, куды першакурснікаў з Акадэміі мастацтваў возяць пісаць эцюды. Там, у краі блакітных азёраў, маладзенькія мастакі павінны закахацца ў бацькаўшчыну, спазнаць яе непаўторнасць, каб у сваёй творчасці апяваць Радзіму дарагую. Ген прыехаў на Браслаўшчыну ў вёску Слабодка і намаляваў кілбаску гаўна. Ён вельмі дэталёва і старана выпісаў дзірку ў дашчатай вясковай прыбіральні. Нехта схадзіў па вялікаму і не пацэліў, лайно засталося ляжаць на бліскучых пазасіканых дошках, звісаючы над смярдзючай чарнатою. Смярданосны нацюрморт і натхніў Гену. А вось выкладчыка — Бараноўскага — нацюрморт з кілбаскай чалавечага гною абурыў: “Хацкевіч, ты не проста намаляваў кавалак гаўна, ты абасраў Радзіму!” Выкладчык пачырванеў, як той браслаўскі кінуты ў кіпень рак, і паспрабаваў схапіць і парваць палатно свайго вучня. Ген не даў. Бойка выкладчыка і вучня, дзякуй Богу, не разгарнулася і не зрабілася крывавай драмаю. Выкладчык вылаяўся і сышоў, а Ген пачаў святкаваць перамогу маладосці над старасцю. Ген спяваў!

## Дзед Мароз

Ёсць людзі, здатныя і найпрасцейшы занятак ператварыць у подзвіг. Напрыклад, Ген, які нават маляванне Дзеда Мароза ўспрымае як самаахвярны ўчынак дзеля росквіту ўсяго чалавецтва. Толькі ўсе ягоныя подзвігі больш нагадвалі выхадкі — учынкі, якія парушалі агульныя нормы паводзінаў. Ён любіў перадражніванні чужых вобразаў, жэстаў і словаў. Таму Дзед Мароз у Гены маляваўся безбародым з паголенай галавою, на якой чырванеў каптурык памерам з напарстак. Нос у таго Мароза быў не сіні і не чырвоны, а зялёны, як малады агурок.

## Рэстарацыйныя афіцыянткі

Толькі Ген мог мяне падбіць на заляцанкі з рэстарацыйнымі афіцыянткамі. І дзе? У забытым Богам Мсціслаўлі. Мы працавалі на рэстаўрацыі былога касцёла. Снедалі ў сталоўцы, а вячэралі ў рэстарацыі “Віхра”. На пошукі жанчын часу не было, а таму і завязаліся размовы з афіцыянткамі. Ніякія размовы, пустыя словы ні пра што. А тут Ген мне кажа, што трэба накупіць віна і пайсці ў госці да афіцыянтак. Мы і накупілі, і прыйшлі, і сядзім у афіцыянтачак — выпіваем. Яны ўжо пачалі падавацца мне і прыгожымі, і разумнымі. Але раптам з’явіўся, як чорт з табакеркі, брат адной афіцыянткі, а потым яшчэ ягоны сябра. Брат прапаноўваў нам кінуць касцёл і паехаць на Сахалін. Сам ён адсядзеў даўжэзны тэрмін за бойку. У Мсціслаўлі работы не знайшоў, але даведаўся, што на Сахаліне шмат мсціслаўскіх хлопцаў грошы зарабляе. І паехаў, і зарабляе, і можа нас уладкаваць. Ехаць на Сахалін мы адмовіліся. Тут і афіцыянткі нам перасталі падабацца. А мы ну зусім перасталі падабацца брату самай гадкатварай афіцыянткі. Ён бы і бойку распачаў, каб не касцёл. Ён сказаў, што паважае людзей, якія працуюць у касцёле, калі ўсе навокал у Бога не вераць. Мы з Генам сышлі цэлыя. Пашанцавала…

## Склад бутэлек

Ген — цікаўны. Сто чалавек пройдзе паўз вакно, што вядзе ў касцёльныя сутарэнні, а толькі ён у тое вакно палезе. Ён і палез у вакно былога езуіцкага касцёла. Той касцёл разам з кляштарам пасля кастрычніцкай рэвалюцыі аддалі інтэрнату для дзяцей са слабым слыхам. У касцёле быў зроблены клуб. Фінансавыя цяжкасці інтэрната вымусілі адміністрацыю адмовіцца ад клуба. Пра склад, які быў у сутарэннях, усе проста забыліся. Касцёл-клуб доўга стаяў пусты. Ён быў зусім занядбаны. Рэстаўратары Верамейчык, Атас і Слюнчанка зрабілі агульныя абмеры, але на гэтым першая спроба рэстаўрацыі і скончылася. А Ген тады і знайшоў тысячы бутэлек са старой нягоднай мінералкай пад іржавымі коракамі. “Давай мінералку выльем, а бутэлькі зда-

мо!” — прапанаваў мне цікаўны ды ініцыятыўны Ген. Рабаваць клуб-касцёл я не захацеў. Мсціслаўль — горад маленькі. Здасі дваццаць пляшак, і заўтра ўсе загавораць пра іх. Каб я быў якім школьнікам з малодшых класаў, дык паквапіўся б і на бутэлькі. А для студэнта, супрацоўніка рэстаўрацыйных майстэрняў нават тысяча пустых бутэлек — фігня. За падобную фігню з нашага інстытута ўжо праганялі. Аднаго студэнта, таксама Гену, але іншага. Той Гена скраў у гастраноме пачак з сухім канцэнтратам супа харчо. Скраў, бо есці хацеў. Скраў, бо ўсе грошы прапіўпрагуляў, а есці хацелася. Скраў, і злавілі. Я не хацеў папасціся з пустымі пляшкамі ад мінералкі. Ген таксама перадумаў рабаваць сутарэнні пад былым касцёлам, сказаў, што лянуецца і аднаму сумна нават красці.

**Несцярук і абразы**

Ген — вандроўнік па сваёй натуры. Ён заўжды некуды едзе, а калі не едзе, дык збіраецца ехаць. Гену гоніць, гнала і будзе гнаць нейкая сіла. І тая сіла гоніць яго на край света, за край святла і на край ночы. На Далёкі Усход, на Камчатку і ва Уладзівасток сіла тая Гену загнала. Быў ён і на Мадагаскары, быў на Каўказе, і ў Сярэдняй Азіі быў… Паганяла яго па Лонданах ды Парыжах. Аднойчы яго занесла на поўнач Расеі, некуды ў снягі паміж Архангельскам і Петразаводскам. Занесла так далёка, дзе і людзі не жывуць. Некалі жылі там праваслаўныя людзі, былі ў тых людзей вёскі і цэрквы. Людзі сышлі, а дамы і саборы пазаставаліся. Ген разам з іншымі вандроўнікамі апынуўся там марознай зімою. Ішлі яны на лыжах праз вёскі пустыя. Справаздачу пра сваё вандраванне на рускую поўнач Ген апісаў у самаробнай газеце, якую павесіў у фае нашага інстытута. Да газеты былі прымацаваны дзве шкарпэткі, пра якія пісалася, што гэта не шкарпэткі, а рукавіцы вандроўніка Нясцінога. Побач з надпісам быў здымак вандроўніка Несцерука. Несцярук за прыдуманага Нясцінога пакрыўдзіўся. Тут і ўсплыла гісторыя пра паводзіны Гены ў паўночных цэрквах. Казалі, што ён панавыдзіраў у алтарах абразоў столькі, сколькі змог павалачы. І валок. Яму раілі: не браць абразы! Даводзілі: ніхто несці не дапаможа! Ген

нікога не слухаў, ішоў, адстаў, стаміўся, змогся і выкінуў усе пазабіраныя ў царкве абразы проста ў снег. Калі я перапытаў у Гены пра выкіданне абразоў, ён распавёў наступнае… Вандалы пазапаскудзілі там усе цэрквы, не ў метафарычным сэнсе пазасіралі, а ў натуральным. Яны нават знарок залазілі на алтар, каб гадзіць лайком на абразы. Уяўляеш, што гэта былі за дошкі, якія я павынімаў з алтара ў безваконнай царкве? Абразы так і так загінулі б. А я паспрабаваў іх уратаваць. Не ўратаваў! Не лёс. Павыкідаў абразы ў снег. Прасіў, каб несці дапамаглі! Не дапамаглі. Ні адна свалата не дапамагла ні той Раманко, ні той Нясціног…

## Праца і катлета

“Адамчык, ты працуеш з раніцы да самага вечара, а потым зноў з раніцы і да вечара! Гэта не правільна!” — “Ген, а што правільна?” — “Правільна працаваць зранку, а пасля пяці вечара трэба сядзець каля тэлевізара з вялікай гарачай катлетаю на відэльцы!” Тады мяне моцна ўразіла абмаляваная Генадзем гарачая катлета. З’едзеная каля тэлеэкрана катлета — распуста. Я так і не навучыўся гэтай катлетнай распусце. Спрабаваць спрабаваў, але не атрымліваецца ў мяне есці катлету і глядзець на экран.

## Пытанне і адказ

На чацвёрты курс да мяне ў групу Ген прыйшоў давучвацца. Праз які тыдзень ён паклікаў мяне выйсці з майстэрні на калідор, дзе шэптам спытаўся: «Адамчык, як ты змог з такімі мудакамі тры гады ў адной майстэрні прапрацаваць?» — «Цяжка! Асабліва невыносна было выслухоўваць парады туябняў наконт мастацтва. Біўся! Ты працуеш, а ён пішчом шчэміцца паміж табой і карцінаю. Я ў пысу! Толькі бойкі-сваркі ніякай карысці не даюць. Хаця… Каб не біўся, не агрызаўся, не пасылаў іх «на пярцовы хрэн» першыя паўгады, а пры першай магчымасці не нагадваў пра іх свінячае месца ў загарадцы, было б значна

цяжэй. Так што, Ген, калі хочаш заставацца чалавекам, заганяй жывёлу ў хлеў». Цяпер варта было б сказаць, што мой радыкалізм у маладосці быў глупствам. Але што гэта зменіць?

### Мянушка і будоўлі

У нашай групе ва ўсіх былі мянушкі. Усе яны мелі крыху абразлівае і здзеклівае гучанне. Слон — Грыша Шараеў, Крук — Мікола Крукаў, Блін — Толік Сакалоў, Нэгора — Саша Пятроў, Глобус — я… Карэлкіна з Гавазюком называліся Карэлкіна і Гавазюк. Лічылася, што ў іх прозвішчах дастаткова немілагучнасці, каб быць паганялам. Гавазюка спрабавалі перахрысціць у Гавазу, але ён злаваўся, бо бракавала ў яго самаіроніі, быў засур’ёзны. Ён і не ўдзельнічаў у прыдумлянні мянушкі для Гены. І Карэлкіна не прыдумляла мянушку. А ўсе астатнія вычвараліся. Дарэчы, сам Хацкевіч падпісваў свае карціны Хацкевічам-Мінскім-Бамскім (гэта ад моднай тады ўсесавецкай будоўлі Байкала-Амурскай чыгуначнай магістралі!)-Ленінскім. Але гэта задоўга і малавымаўляльна. Мянушка мусіць быць кароткая, абразлівая, лёгказапамінальная і лёгкавымаўляльная, бо мы рыхтаваліся да працы на новабудоўлях ды наогул на будоўлях. Калі ты высока на рыштаваннях і табе трэба… Ці мала што табе спатрэбіцца на рыштаваннях… Скажам у адно слова — дапамога! Ты не будзеш крычаць: “Хацкевіч-Мінскі-Бамскі-Ленінскі!”, ты гукнеш: “Ген!” ці… Крукаў прыдумаў называць яго Сайгакам. І прыжылося! Сайгак ды Сайгак. Нешта было ў ім ад гэтай гарбаносай і лёгканогай жывёлы. Лёгкасць была, палахлівасць, спрыт і вялікавокасць жывёльная, адкрытая свету. Два гады, пакуль вучыўся ў маёй групе, Ген прахадзіў Сайгакам, а потым зноўку стаў для ўсіх проста Генам.

### Танец і КДБ

Ген пайшоў у заклад са сваімі аднагрупнікамі на дзесяць савецкіх рублёў, што выйдзе на праспект насупраць будынка КДБ, стане пасярод вуліцы на выспачцы бяспекі, распранецца да пояса

і станцуе ўпрысядкі. Пакуль гарэла чырвонае святло, Ген танчыў пасярод галоўнага сталічнага праспекта. Міліцыянт зрабіў выгляд, што не бачыць непарадку, і схаваўся за помнікам Феліксу Дзяржынскаму. Хацкевіч за тры хвіліны зарабіў дзесяць рублёў, чвэрць стыпедыі.

**Адэса і траўмы**

Ёсць людзі, якія не могуць жыць у пэўных гарадах. Ім хочацца жыць-быць менавіта ў гэтым горадзе, а горад іх не прымае. Ён здзекуецца з чалавека, ломіць яго, гне, гняце, трушчыць і выплёўвае. Так было ў Баброва з Лонданам. Сталіца Брытаніі і выплюнула Баброва, а Мартынчыка не выплюнула. Адэса двойчы выкідала з сябе Гену. Хто б мог падумаць, што ў вясёлага Гены не складуцца адносіны менавіта з горадам-гумарыстам. Але Ген менавіта ў Адэсе трапіў у халерны барак. Халера яго не ўзяла. Халеры ў Гены не знайшлі, але на ўсялякі выпадак загналі на сорак каранцінных дзён у барак. Ён ехаў у Адэсу цягніком. Недзе паміж Кіевам і Чорным морам, на нейкай станцыі купіў Ген вядро алычы. Паеў. Не памыў, а паеў. Страўнік сказаў алычы мяккае “не-не-не-не-не”. Да Адэсы Ген не вылазіў з вагоннай прыбіральні. Таму і пабег на Адэскім вакзале ў медпункт, а адтуль яго завезлі ў халерны барак. Другі раз Ген ляжаў не ў інфекцыйным аддзяленні, а ў траўматалогіі са зламанай нагою. Нагу Ген зламаў сабе сам. Канечне, ён не збіраўся ў першы дзень свайго другога наведвання Адэсы ламаць нагу. А зламаў… Ён зламаў нагу на пляжы. Зламаў з-за цяжкога заплечніка. На Гены было два заплечнікі. За плячыма свой, а на грудзях жончын. Ген зрабіў вынаходніцтва. Ён прыдумаў, як насіць два заплечнікі. Адно было кепска. Заплечнік на грудзях не даваў бачыць, куды нага ступае. Нага ступіла на нейкі камень, той паехаў па пляжным пяску. Нага паехала за каменем, падкруцілася, падвярнулася; тут на яе і ўпаў гаспадар з двума заплечнікамі. З траўматалогіі Ген прыслаў мне пісьмо, у якім распавядаў пра сябе і пра чалавека, які паспрачаўся з сабутэльнікамі, што скочыць з аглядальнага кола. Скакун выйграў бутэльку віна. Ген суцяшаў сябе і мяне, што ў Адэскай траўматалогіі яму не горш, чым астатнім.

## Пакаленне і рэвалюцыі

Наша пакаленне было і застаецца рэвалюцыйным і кансерватыўным у адначассе. Зламаць Берлінскую сцяну і вярнуць храмы вернікам у былых атэістычных краінах, разваліць імперыю зла і распачаць глабалізацыю, здзейсніць сэксрэвалюцыю і пашырыць іслам да мяжы з фанатычным тэрарызмам, наладзіць выбух камунікацыйных сістэм і збудаваць лабірынтападобныя гіпермаркеты — наша дзейнасць. Мы належым да генерацыі рэвалюцыйных парадоксаў. Ген не выключэнне, ён — зорка майго парадаксальнага пакалення. Сваю рэвалюцыю ён распачаў на палатне. Намаляваў кастрычніскі пераварот у Мінску, што адбыўся ў 1917. Горад убачаны з птушынага, ці хутчэй з верталётнага, палёту кішэў узбударажанымі мінчукамі. Пралетары, салдаты, мяшчане, сяляне, крамнікі, настаўнікі, сабакі, каты, вароны, галубы — усе жыхары і наведнікі горада радаваліся. Рэвалюцыя адбылася, заўтра прыйдуць свабода, роўнасць, братэрства. Заўтра зямля будзе ў сялянаў, заводы — у рабочых, улада — у народа. Гэта мы цяпер ведаем, што нічога такога і блізка не здзейсніцца, а яны ж верылі. Яны крычалі "ўра", яны кідалі ў неба пагляды з верай, надзеяй і любоўю. Ген Хацкевіч-Мінскі злавіў гэтыя пагляды ў 1982. Карціна атрымалася ўдалай. Больш за тое, яна атрымалася прарочай... Калі ў 1989-м распачалася нацыянальна-вызваленчая рэвалюцыя ў Беларусі, я не раз і не два згадваў шэдэўр Хацкевіча-Мінскага. Мастак толькі той, хто здатны зазірнуць наперад, чым далей сягае ягоны позірк, тым большы ён мастак.

## Тэрарызм і Растоў

Ці ёсць у Беларусі тэрарысты? Ці ёсць у нас паветраныя тэрарысты? Так. Прынамсі, пра гэта пісаў таварыш Плужнікаў у газеце «Комсомольская правда» 9 снежня ў 1990 годзе, калі падаваў спіс паветраных тэрарыстаў СССР:

*«1987. При попытке угона «ТУ-134» из Минска в Париж задержали художника Хацкевича. Судебно-психиатрической экспертизой он признан невменяемым».*

Мастак з Мінску, зрабіў спробу ўгнаць самалёт. Пакунак з двума кавалкамі гаспадарчага мыла ён назваў бомбаю і запатрабаваў ад пілотаў ляцець у Парыж. Камандзір карабля прыняў рашэнне не мяняць маршрут, паветраны карабель прызямліўся ў Растове, як і планавалася. Група захопу хутка абясшкодзіла мастака.

### Вітражы ў вар'ятні

Калі Гену за спробу захапіць самалёт закрылі ў растоўскай турме, мінскія мастакі напружыліся і сабралі блізу паўтысячы подпісаў у ягоную абарону. Ліст да растоўскіх праваахоўнікаў падпісваў і я. У ім распавядалася, што Гена з дзяцінства быў неадэкватным і неўраўнаважаным хлопчыкам, але эксцэнтрычнасць і эпатажнасць не перашкодзілі, а, наадварот, толькі дапамаглі яму стаць выдатным мастаком. Мастакі — карацей, мы ўсе прасілі праваахоўнікаў прызнаць Гену хворым эксцэнтрыкам, а не радыкал-тэрарыстам. Здарылася дзіва! Гену з растоўскай турмы перавезлі ў мінскі дурдом, што ў раёне Навінкі. Ці ліст спрацаваў, ці зоры так сышліся, ці змены ў сусветнай палітыцы так паўплывалі на растоўскіх турэмшчыкаў, што яны дазволілі дэпартаваць Гену на гістарычную радзіму. Доктар Круглянскі, збіральнік жывапісу душэўна хворых творцаў, моцна дапамог мастаку-тэрарысту. А той, каб аддзячыць доктару і бальніцы, арганізаваў стварэнне вітражоў для бальнічных калідораў. Разам з братам Юрам Ген упрыгожыў клініку ў Навінках зыркаколернымі вітражамі, падобнымі да вітражоў у мінскім касцёле святых Алены і Сымона, якія ён рабіў яшчэ да спробы ўгнаць растоўскі самалёт і такім чынам наведаць вялікі Парыж.

### Турма і памяць

"Ген, раскажы, як табе сядзелася ў растоўскай турме?" — "Не. Ёсць моманты ў маім жыцці, пра якія згадваць не хачу. Такі жах, такі бруд, такая чарната гнілая, што лепей забыцца на яе. Вядома, не забудуся, але і гаварыць не хачу. Было і прамінула. Прайшло і хай не вяртаецца. Ніколі, ніколі, ніколі..."

**Лондан і Луўр**

З Лондана Ген не дасылаў мне паштовак. У Лондане яму было зусім цяжка. Цяжка было ўсім: і Мартынчыку, і Баброву, і Хацкевічу-Мінскаму. Яны з’ехалі ў Лондан, каб скарыць сваім жывапісам свет, але свет не скарыўся. Свет быў абыякавы да Хацкевіча-Мінскага, Баброва і Мартынчыка. Першым скарыўся Бброў, ён перастаў мыцца. Узяў і перастаў мыцца, стрыгчыся і галіцца. Ген з Мартынчыкам мыліся, а Бброў не. Вада ў іх была толькі халодная, але яны мыліся і галіліся, і нават стрыгліся. Бброў сказаў, што з’едзе з Англіі ў Ізраіль, што там яму нештанейкае будуць плаціць, і там ён будзе жыць, мыцца і галіцца. Мартынчык разлічваў прыжыцца ў Лондане. Ён змяніў прынцып. Калі не Лондан для цябе, тады ты для Лондана. Лондан сказаў, а ты зрабіў! Просценька, але выжыць можна. Ген расчараваўся ў Лондане, але ён яшчэ верыў у Парыж. Ён верыў, што Парыж яго прыме не так, як Лондан. Ген меў рацыю. Ні Бброў, ні Мартынчык не верылі, што Парыж прыме мастака Хацкевіча-Мінскага. Яны пасадзілі Гену на цягнік, яны з Генам развіталіся, яны нават адзначылі развітанне. Моцна адзначылі, моцна напіліся. А калі падыходзілі да кватэры, якую здымалі ў Лондане, Мартынчык сказаў Баброву: “Мы прыходзім, а Ген пад дзвярыма сядзіць! Мы прыходзім, а Ген — сядзіць!!!” Мартынчык пачаў смяяцца, і Бброў пачаў, яны, смеючыся, прыйшлі да кватэры, а тамака — Ген сядзіць. Яго не выпусцілі з Англіі, нешта ў яго з дакументамі не зраслося, нейкіх папер не хапіла... Ген не здаўся, ён знайшоў вандроўны заацырк і разам з ільвамі, тыграмі ды шакаламі перабраўся праз Ла-Манш. У Парыжы яго прынялі мастакі-эмігранты. Яго прынялі на былой шакаладнай фабрыцы ў мастакоўскую камуну. Тады ён і пачаў слаць мне лісты ды паштоўкі. Адна з іх была з Луўрам і надпісам: “Быў у Луўры! Багата!”

**Падман і выгнанне**

Здавалася, што ў Гены атрымалася ўсё, што ён пажадаў у сваім жыцці! Жыў у Парыжы, меў жонку-парыжанку, якая нарадзіла

яму дачку-парыжанку (сына-мінчука ён меў раней). Працаваў Ген у мастакоўскай камуне, і ў яго (о, цуд!) пачалі купляць карціны. Па законах мастакоўскай камуны, ты мусіў ледзь не ўсё заробленае на продажы твораў здаваць у камуну. У гэтым ёсць логіка, бо менавіта камуна прыняла Гену, яна яго карміла і апранала, пакуль ён адаптаваўся ў Парыжы. Але Гену ахапіла сквапнасць, і ён не здаў грошы камунарам, за што і быў выгнаны. З парыжанкаю ў Гены таксама жыццё не зладзілася. Ён апынуўся ў трэйлеры без жонкі, без дачкі, без камуны і без франкаў… Чым бы скончылася такое жыццё ў трэйлеры з адключаным святлом, адзін Бог ведае. Але ў Парыж прыехаў брат Гены — Юра, і забраў небараку ў родны Мінск.

**Сівізна і бабы**

Выпадкова сустрэўшы Гену на праспекце Скарыны каля шапіка «Саюздрук», раблю прапанову: “Ген, пайшлі да баб!” — “Не, Адамчык, не магу! Я пасівеў. Ты паглядзі — якая сівая ў мяне галава, якія зусім сівымі зрабіліся скроні. Бачыш? Я стары, каб да баб хадзіць”. Мне зрабілася нават шкада раптоўна пасівелага Гену. Ён яшчэ будзе збірацца ў свой вечны Парыж, будзе скандаліць у французскай амбасадзе з нагоды ліквідавання візы, будзе збірацца на Мадагаскар, але я буду згадваць сваю прапанову пра баб і ягоны расповед пра сівізну.

**Віно і вакно**

“Такое віно даюць толькі прэзідэнтам, ды й то на святы. Будзеш?” — “Не!” — “Панюхай! Ты панюхай! У Францыі няма такога віна!” Ген падносіць да майго твару паўшклянкі мацаванай бурды.”Бннрррpp! Не буду я піць!” Усё адбываецца ў кавярні ўніверсама “Цэнтральны”. Таму не здзіўляе нікога з’яўленне ахоўніка, які прапаноўвае Гену пакінуць краму. У мяне ў руцэ сподак з кубачкам кавы, я застаюся. Ген выходзіць, становіцца пад акном, дастае бутэльку, чокаецца з вітрынным шклом і п’е з рыльца віно, якое прэзідэнтам даюць толькі на святы.

## Мастакі і Мадагаскар

«Вало-о-дзя, мастакі не паміраюць! Яны про-о-оста едуць у Парыж і там жывуць, інко-о-огніта. Я бачыў у Парыжы Сяргея Пятро-о-овіча Катко-о-ова. Вы тут думалі — ён памёр. Не! Жыве ў Парыжы. І Вало-о-одзя Свінаро-о-оў, і Вася Хмялеўскі — яны там». «Ген, быў я ў Парыжы, няма там ні Каткова, ні Хмялеўскага са Свінаровым». «А-а-а… Яны, значыцца, паехалі на Мадагаскар. З французскім пашпартам на Мадагаскар можна ехаць без візы. Вало-о-одзя, паехалі на Мадагаскар…»

## Мілёны і замак

“Адамчык, стой! Куды ты спяшаешся? Не трэба нікуды спяшацца! Хутка, зусім хутка я прадам свае карціны! Мае карціны каштуюць мілёны, яны каштуюць значна болей, але я іх прадам, каб купіць замак у Францыі. Я куплю замак, і мы ўсе паедзем туды… Не верыш? Валодзя, ты куды пайшоў? А замак? Замаа-а…” — пакідаю п’янага Гену пад гастраномам.

## Адсутнасць і адказнасць

Ён яшчэ ёсць, і яго ўжо няма. Ён стаіць пасярод вуліцы, а людзі абмінаюць яго. У Гены пабіты твар. Так разбіваецца твар, калі раптам асфальт ускідваецца і б’е табе па лобе, ты адштурхоўваешся ад зямлі, а яна ўзлятае і разбівае табе нос. Гэта ты па´даеш, а падае´цца адваротнае — асфальт уздымаецца, уздыбарываецца, нападае на цябе. Ген стаіць акрываўлены, пабіты асфальтам, пасярод праспекта Незалежнасці. Вочы ў разгубленасці. Паратунку няма. Трэба сыходзіць. Куды? Ён сыходзіць у самаспальванне алкаголем. Ён прылюдна знішчае сябе… Калі мы разам заходзім у якую кавярню, афіцыянткі і ахоўнікі пытаюцца ў мяне: «Вы адказваеце за яго?» На што чую: «Так, я адказваю за яго». Усё яшчэ адказваю, як некалі ён адказваў за мяне, забіраючы бутэльку піва.

**Луцэвіч і Хацкевіч**

Выкладчык акадэмічнага малюнка Алег Луцэвіч быў і застаўся чалавекам жорсткім. Кожнае адхіленне ад акадэмічных канонаў ён успрымаў хваравіта, таму на праглядах падчас выстаўлення адзнак ад яго можна было пачуць: «Добры малюнак, трэба паставіць «двойку»!» Студэнты атрымлівалі кепскія адзнакі, бо Алег Вінцэнтавіч Луцэвіч лічыў іх творы недастаткова акадэмічнымі ці недастаткова вучнёўскімі. У свае восемдзесят дзевяць Луцэвіч прыйшоў на выставу, зладжаную з нагоды шасцідзесяцігоддзя ягонага вучня Генадзя Хацкевіча-Мінскага. Аднаму амаль дзевяноста, другому — крыху за шэсцьдзесят. Старэйшы кажа пра маладзейшага: «Яго пакінуў Бог! Яму не трэба больш маляваць. Я казаў Гену, што Бог яго пакінуў, але ён не слухае, ён малюе...”

## Кароткая аўтабіяграфія, напісаная для кнігі літаратурных партрэтаў “Імёны”

Нарадзіўся я на Замкавай гары ў мястэчку Койданава. У той час, 29 верасня 1958 года, на месцы замка ўзвышалася бальніца, а мястэчка называлася горадам Дзяржынскам.

Праз пару месяцаў, зімою, на грузавой машыне мяне, загорнутага ў пялюшкі ды коўдры, перавезлі ў Мінск, дзе я адразу стаў сталічнай штучкаю.

У 1962 годзе дактары няўдала зрабілі мне прышчэпку воспы. Хвароба прышчапілася добра, але не толькі на руку, як планавалася. Воспа прышчапілася на вока. Я аслеп. Часам з суцэльнай цемрадзі выплывалі белахалатныя дактары з круглымі люстэркамі на галовах. У люстэрках ззялі лямпачкі. Ад іх колкага святла я плакаў. Праз год зрок пакрысе вярнуўся, але не цалкам.

Параненыя вочы не перашкодзілі мне палюбіць маляванне і жывапіс, якім празаймаюся ўсё жыццё. Нават адукацыю я атрымаю мастакоўскую. Пасля васьмі гадоў у сярэдніх школах чатыры гады я прахаджу ў мастацкую вучэльню і пяць гадоў — у Тэатральна-мастацкі інстытут. Дыплом мастака-монументаліста апынецца ў маёй руцэ ў 1983 годзе.

Рэвалюцыйную дзейнасць я распачаў у мастацкай вучэльні, дзе з сябрамі стварыў гурток па вывучэнні забароненай літаратурнай спадчыны. Разам з Максімам Клімковічам і Алесем Ласём чытаў і распаўсюджваў “Тутэйшых” Купалы і вершы Гаруна. Пазней наш гуртокператворыцца ў семінар, дзе мы стваралі новае мастацтва для свабоднай Беларусі. Наступным крокам была

легалізацыя семінара і ператварэнне яго ў літаратурнае таварыства “Тутэйшыя”.
За таемную дзейнасць, за выступы з вершамі на рок-канцэртах, за арганізацыю падпольных аўкцыёнаў з продажам твораў авангарднага мастацтва, карацей — за ўсё харошае, добрае і светлае цэнзура забараніла ў 1985 годзе выхад маёй першай паэтычнай кнігі “Груд”. Даведаўся я пра забарону на адкрыцці сваёй выставы, якую ўлады таксама забаранілі.
“Тутэйшыя” — першая легальная арганізацыя, якая публічна, на агульным сходзе, выказала недавер КПСС за тое, што камуністы хавалі праўдзівую інфармацыю пра выбух на Чарнобыльскай атамнай станцыі. “Тутэйшыя” першымі правялі мітынг-рэквіем, на якім абвінавацілі савецкі ўрад у генацыдзе беларусаў. На шэсце “Дзяды” за “Тутэйшымі” выйшла больш за дзесяць тысяч чалавек. Ёсць што згадаць! Уласна на Дзяды ў 1988 годзе літаратурнае таварыства і перастала існаваць для мяне. Займацца палітыкай з такой арганізацыяй, як таварыства маладых літарататараў, я не бачыў сэнсу.
Да актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці я вярнуся толькі ў 1994 годзе, калі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у газетах “Свабода” і “Таварыш” апублікую ўласную прэзідэнцкую праграму.
Пасля легалізацыі “Тутэйшых” дзяржава прапанавала мне паўдзельнічаць у стварэнні новага часопіса для моладзі “Крыніца”. Там я і навучыўся рабіць запатрабаваны прадукт для масавага чытача. Там была зроблена газета “Ласкавы май”, што выходзіла накладам у 13 000 000 асобнікаў. Гэты вопыт досвед дапамог мне з сябрамі стварыць выдавецтва, якое стала самым вялікім з тых, што працавалі ў Расіі ў 1994 годзе. За што нас на Маскоўскім кніжным кірмашы і ўзнагародзілі дыпломам Івана Фёдарава. Папулярнасць нашых кніг трымалася на ператварэнні тэлесерыялаў у раманныя праекты ды ператварэнні раманаў у тэлесерыялы. Акром гэтага, мы актыўна стваралі і эксплуатавалі такі жанр, як новы рускі дэтэктыў.
Праца ў выдавецве скрала процьму часу, але я ўсё ж напісаў і выдаў больш за дваццаць арыгінальных мастацкіх кніжак на роднай мове.

Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэка “Беларускі калегіюм”

**ГЛОБУС** Адам
(**АДАМЧЫК** Уладзімір Вячаслававіч)

**ІМЁНЫ**
**ЛІТАРАТУРНЫЯ ПАРТРЭТЫ**

**Аўтар ідэі серыі** *Максім Жбанкоў*
**Каардынатар** *Алесь Анціпенка*
**Галоўны рэдактар** *Валянцін Акудовіч*
**Рэдактар** *Валянцін Акудовіч*
**Карэктар** *Ліка Жаўрыд*
**Дызайн вокладкі** *Сяргей Ждановіч*

Падпісана да друку 02.05.2013. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$.
Друк лічбавы. Ум.-друк. арк. 6,3. Улік.-выд. арк. 4,9.
Наклад 300 асобнікаў. Замова 457.

Выдавец І. П. Логвінаў
ЛИ №02330/0494468 ад 08.04.2009
Пр-т Незалежнасці, 19-5, 220030, г. Мінск.
lingvopress@gmail.com

Надрукавана на капіравальна-памнажальным
абсталявнні І. П. Логвінава

У серыі **“Бібліятэка “Беларускі калегіюм”** выйшлі:

**Віталь Сіліцкі** “Адкладзеная свабода”,
**Алесь Анціпенка** “Быць (пры)сутным”,
**Сяргей Харэўскі** “ПраЧутае”
**Валер Булгакаў** “Беларусь 1994 – 2004 гг.: разбудова дзяржавы і перасьлед нацыі”
**Алесь Смалянчук** “Беларуская гісторыя: знайсці чалавека”
**Юр Пацюпа** “Анонс: квадрат тэкстаў”